Аляксандр Кудраўцаў

# УСПАМІНЫ АБ ЖЫЦЦІ Ў XX СТАГОДДЗІ

Мінск
«Кнігазбор»
2020

УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)
К88

*Пераклад з рускай мовы
Кастуся Траўня*

**Кудраўцаў, А.**
К88 Успаміны аб жыцці ў XX стагоддзі / Аляксандр Кудраўцаў ; пер. К. Траўня. — Мінск : Кнігазбор, 2020. — 168 с. [8] с.: іл.
ISBN 978-985-7227-05-1.??

Анатацыя

**УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)**

**ISBN 978-985-7227-05-1**


***Бацьку Пятру Яфімавічу Кудраўцаву і маці Варвары Маргелаўне Кубраковай прысвячаю свае ўспаміны***

## Дзяцінства

Нарадзіўся я ў 1923 годзе. Маці казала, што ў той год пераязджалі на хутар. Хутар я добра помню. Ён знаходзіўся на паўночным усходзе ад вёскі Стара-Дрыбін, прыкладна ў двух кіламетрах. Дзяцінства маё праходзіла збольшага на хутары.

На поўдні ад хутара працякала рачулка, дзе мы дзецьмі лавілі рыбу. Вадзіліся ў асноўным сліжыкі, плоткі і шчупакі, на беразе рачулкі стаяла лазня. На захадзе ад хутара працякаў раўчук у каторым была крыніца, з якой бралі ваду і не толькі мы, але і суседзі Арцёмавы-хутаране. Зямлі было ў бацькі палову надзела — 12 гектараў, у тым ліку 6 гектараў сенажаці, з іх 4 гектары ў пойме рэчкі Проня, забалочаныя. Зямля вакол хутара была ў асноўным пясчаная, а ад рэчкі да лазні быў чарназём, дзе вырошчвалі капусту, шмат было капусты. Я добра помню, як позняй восенню мноства людзей прыязджалі за капустай і куплялі. Усе справы капусныя восенню вяла мая маці Варвара Маргелаўна.

Каля крыніцы быў выган, дзесьці з гектар, а можа паўтара, дзе я ў дзяцінстве пасвіў кароў. З жывёл у бацькі было: дзве каровы, дзве цялушкі, два кані, авечкі і свінні. Каля выгану недалёка ад крыніцы стаяў хлеў-сенавал, дзе бацька Пётр Яфімавіч складваў сена, якое вазіў з паплавоў ракі Днепр.

На поўначы ад дому прыкладна з паўкіламетра знаходзілася гумно, дзе складвалі ўвесь хлеб. У гумне была ёўня, дзе сушылі снапы, а затым малацілі пасля сушкі. У бацькі быў прывад, а ў дзядзькі малатарня. Калі малацілі хлеб — гэта было сапраўднае свята для нас, дзяцей, якія

па чарзе прасіліся падганяць коней, што круцілі прывад, а прывад малатарню. Пасля абмалоту веялі зерне на веялцы і іншы раз веялі ўручную. Бывала малацілі снапы цапамі: ў тры цапы і нават у чатыры.

Дом наш быў старэнькі, памерам прыкладна 6 × 6, у доме былі сені, замошчаныя напалову, а да сяней новы свіран, дзе захоўваліся зерне, мука і іншае.

Ад дома метрах 30–50 хлявы, з поўдня вышкі, затым стаялі вазы, затым коні, затым каровы, авечкі, а затым свінні агароджаныя капітальнымі сценкамі. На поўнач ад свірна метрах у дзесяці ляжаў вялізны камень, і на двары ляжалі дзве аграмадныя сасновыя калоды, каля метра-два даўжынёй. Вось такі мой родны хутар. Я захаваў гэтыя ўспаміны на ўсё жыццё і зараз, на схіле маіх гадоў я ўспамінаю свой хутар з вялікай цеплынёй і любоўю.

Яшчэ вельмі ўспамінаецца, калі вадзілі коней у начное ў казённы лес з вясковымі і хутарскімі хлапчукамі. Гэта было сапраўды вясёлая справа, на начлезе таго хто моцна спаў, хлапчукі дзеля жартаў вымажуць вуглям, а іншы раз прывяжуць за ногі да маладога дрэўца, і асабліва мне гэта даставалася. Іншы раз не знойдзеш коней, раніцой праспіш і дадому прыйдзеш без коней, і тады даставалася ад бацькі лупкі.

Маці мая Варвара Маргелаўна, у дзявоцтве Кубракова, яна родам з вёскі Поташні, што ў 3-х кіламетрах. У маці была адна сястра, а браты былі мае дзядзькі Мікіта, Восіп і Мацвей. Бацька маці дзед Маргел, я добра помню яго, быў вельмі добразычлівы. Я ў дзяцінстве, ды і ўвесь час, покуль былі жывымі дзядзькі, любіў бываць у іх у гасцях, асабліва ў дзядзькі Мікіты. Дзядзька Восіп быў вельмі масцеравым, мог рабіць калёсы і іншы сельскагаспадарчы інвентар.

Маці мая Варвара Маргелаўна па характару добрая, пяшчотная, спакойная, яе вельмі паважалі суседзі і вяскоўцы. Я не помню, каб яна крычала ці тым больш біла дзяцей. Бацька Пётр Яфімавіч быў больш строгі і не раз нас лупцаваў. Ён быў моцны ад прыроды, ростам вышэй сярэдняга, у плячах шырокі, калі хлеб у гумне быў абмалочаны, то ён мяшкі з зернем пераносіў у свіран на плячах, а мяшкі былі кг па 80 не менш.



У бацькі быў адзін брат Яўмен Яфімавіч, а сясцёр было 6 чалавек: цёткі Вера, Каця, Усціння, Агаф’я, Ірына і Ефрасіння. Дзеда Яфіма я слаба помню. Ён быў чорны, строгі дзед, высокі, казалі што ён удзельнічаў у руска-турэцкай вайне.

Сваіх бабуль я ні адной ні помню.

## Калектывізацыя

У 30-х гадах пачалася калектывізацыя. Бацька, акрамя сельскай гаспадаркі, яшчэ катаў валёнкі, хадзіў на заробкі на 3–4 тыдні на Піменаўку і на 4–5 тыдняў на Вялікі Пост. Аднойчы, калі ён прыйшоў з «шапавалаў», ён сказаў, што яму казаў адзін урач, што ў калгас не ісці, нават калі «застануцца адны куты». Да нас на хутар збіраліся суседзі-хутаране, і ён ім усё тое і казаў і ім. І вось у калгас бацька не пайшоў. Усё забралі за падаткі, давалі некалькі разоў цвёрдае заданне. Калі забіралі карову за падаткі, брат Міхал выскачыў з хаты і кінуў некалькі камянёў у брыгаду, тая вярнулася і хацела арыштаваць брата. Гэта адбылося, калі забіралі апошнюю карову, а раней забралі карову і цёлку, потым усю адзежу, зерня і муку, усё падчыстую. Забіралі звычайна ноччу ці ўвечары, з ліхтарамі і з стрэльбамі.

І калі ўжо нечага было браць у чарговы раз — брыгады тады хадзілі па 8–12 чалавек — яны заўважылі ў маці на нагах валёнкі новыя з галёшамі, і яны знялі і забралі валёнкі. Маці моцна спалохалася і захварэла на сухоты. Пахварэла з паўгода і ў 1932 годзе памерла. Засталося нас сірот: старэйшы брат Афанасій, старэйшая сястра Наста, я, малодшы брат Міхал і сястра Аня. Бацька вельмі моцна перажываў смерць нашай матулі і каб было каму

прыглядзець за дзецьмі, узяў да нас сваю сястру Агаф'ю. Цётка Агаф'я была вельмі набожная, у доме ў нас збіраліся і маліліся, нас дзяцей яна вучыла спяваць псалмы.

У 1933 годзе прыйшоў голад. Я распух ад голаду і чуць не памёр, выратавала толькі тое, што старэйшы брат Афанасій працаваў брыгадзірам трактарнай брыгады ў Трылесіна. Ён прывёз два пуды зерня, якое маалолі і пяклі праснакі, вось яны і выратавалі мяне. Елі брагу, якую бацька прывозіў з спіртзавода, пяклі з яе праснакі і елі, шчавель, рачыкі і таўкачыкі.

Такая прыпеўка была ў вёсцы: «Шчавель, брага, рачыкі і на закуску таўкачыкі».

Дзесьці ў 1934 годзе, а можа ў 35 бацька прывёў у дом мачаху Домну Нікіфараўну, якая прадоўжыла наша выхаванне. Гэта была гарамычная забітая жанчына, да нас яна адносілася някепска.

Сястра Наста паступіла ў тэхнікум, ён быў у Дрыбіне, затым перавялі яго ў Барысаў. А ў 1937 годзе яна памерла ва ўзросце 18 год, вельмі прыгожая, вельмі любімая наша сястрычка. У яе плеўрыт, там жа яе і пахавалі. Як мы гэта ўсё перажывалі.

Бацька ўжо ў гэты час быў хворы, у яго быў параліч і ён ляжаў цэлы год. Старэйшы брат Афанасій служыў у танкавых войсках у Смаленску. Ён забраў да сябе малодшага майго брата Міхала сынам палка, а малодшую сястру Ганну забралі ў дзетдом у Расну. Застаўся я дома за гаспадара, мачаха і хворы бацька. Я займаўся гаспадаркай, у мяне быў конь, зімой я вазіў дровы, што краў у дзяржаўным лесе і прадаваў у Дрыбіне яўрэям, а вясной апрацоўваў у мястэчку гароды. Хто заплаціць 3 рублі, хто 7 рублёў — гэта ў каго які ўчастак. А вось Мендаліха, тая грошы зразу не аддавала, па 20, 50 капеек. У школу я хадзіў вясной не больш за 3 разы на тыдзень. І 6 клас скончыў ужо ў вячэрняй школе.

У 1937 годзе пад Новы год памёр бацька. Хаваць прыехалі браты, пасля пахавання застаўся я дома адзін з мачахай. Я хадзіў у школу і займаўся гаспадаркай, здабываў на пражыццё.

Акрамя таго, што не было чаго есці, адзець таксама не было чаго. Калі быў яшчэ бацька, то лапці ён плёў тэрмінам на два тыдні, а потым калі бацька захварэў і памёр, то сам рабіў коршні драўляныя. Гэта зверху скура цялячая, а падэшва драўляная. Потым, калі брат пайшоў у армію, то свае чаравікі і вопратку мне прывёз і штогод падкідваў мне вопратку. Чаравікі былі мне вялікія і хутка пры носцы насы загіналіся ўверх і атрымліваліся як лыжы. А паліто таксама вялікае, рукавы абнасіліся і полы ператварыліся ў лахманы. Помню, я часцяком хадзіў гуляць да цёткі Каці, у яе былі 4 сыны і дзве дачкі — дваюрадныя сёстры. Дык вось цётка казала: «Ты, Шура, падобны на ангельскую балерыну: рукавы ў цябе з веерам, а ніз паліто таксама з веерам, вата тырчыць». А драўляныя падэшвы па падлозе стукаюць, і гук моцны, а іншы раз і падэшва лопне.

У 1938 годзе прыбыў з арміі старэйшы брат Афанасій, які будучы ў Іспаніі, удзельнічаў у баях з фашызмам, быў паранены і дэмабілізаваны. Гэта я даведаўся толькі ў 70-х гадах ад дваюраднага брата Паўла, тады ж аб гэтым ніхто не ведаў.

Пасля прыбыцця з арміі Афанасій купіў у вёсцы Ст. Дрыбін стары дом Агенчкі, а сваё іменне-хутар прадаў на дровы, толькі адзін свіран я перавёз і паставіў каля купленага ўрослага ў зямлю дома, загарадзіў гарод 0,50 га навазіў яблынь дзесьці 50 штук, з хутароў навыкопваў і пасадзіў. Усе яны прыняліся, гарод загарадзіў плотам з дубовымі шуламі і штыкетнікам. Паставіў баню. Брат Афанасій працаваў райфізруком, у нас у свірне шмат было лыж, я на рэчцы Проня зрабіў вышку для скачкоў у ваду.

У 1939 годзе брат Афанасій жаніўся на настаўніцы Ганне Сцяпанаўне, прыгожай дзяўчыне, якая перайшла да нас жыць. Яна была родам з вёскі Банькаўшчына Манастыршчынскага раёна Смаленскай вобласці. Ганна Сцяпанаўна настаўнічала ў Трылесінскай школе.

Мы з мачахай Домнай Нікіфараўнай працягвалі гаспадарыць у новым доме, мне дзед купіў на кірмашы чорнага добрага каня з адным вокам і з норыцай. Норыцы ён вылечыў сінім каменем, а конь быў добры. Я скончыў з грэхам папалам вучобу, 7-ы клас вячэрняй школы. У 1940 годзе мае сябры пачалі паступаць у школы ФЗУ. Я таксама падаў у Оршу на слесара. Але даведаўся, што мае аднакласнікі Віктар Пратасенка і Пётр Мацейкін падалі некуды ў больш цікавае вучэбную ўстанову, але трымалі ў сакрэце. І тады Віктар сказаў, што я адкрыю табе сакрэт, калі ты навучыш граць на скрыпцы. Я ў той час граў на скрыпцы, брат мой старэйшы Афанасій вельмі добра граў на скрыпцы, і каля яго я навучыўся іграць і ўжо іграў сваім аднакласнікам вечарынкі.

І вось я згадзіўся навучыць Віцю тром танцам: барыню, вальс і кракавяк. Ох і памучыўся я з ім, але ўсё ж такі вывучыў, і тады ён даў мне адрас Кранштацкай школы ФЗУ. І вось мы трое падалі дакументы. Але атрымалася так, што мяне як круглага сірату прынялі, а іх не. Вось лёс так распарадзіўся, рэзка зрабіў паварот. Канешне я не ведаў тады, што не хутка ўбачу свае родныя месцы, ды і выпаў такі лёс, што і цяпер цяжка зразумець, як можна было застацца ў жывых, але пра гэта потым.

## Кранштат

Праводзілі мяне брат і ўсе родныя, што жылі з намі ў хаце. Далі чамаданчык драўляны, кавалак сала, хлеба, крыху сабралі грошай. Ехаў таксама сусед Шуткоў, старшы лейтэнант з сястрой у Ленінград, вось я з імі і паехаў, гэта значыць пайшоў з імі да станцыі Цёмны Лес. Развітаўся з хатнімі і не ведаў тады, што з братам Афанасіем бачуся апошні раз. У пачатку 1941 года, будучы ў доме адпачынку Сасноўка Віцебскай вобласці, ён памёр ад атрыманай у Іспаніі раны.



Кіруючыся ў дарогу я ў той час ніколі не ездзіў на цягніку, ні на чым іншым, акрамя конскай цягі. Сеў на цягнік на станцыі Цёмны Лес, да Оршы даехаў, а там перасадка і чакалі мы вельмі доўга, я ўжо хацеў назад дадому, але мае суседзі сказалі, што вось зараз будзе цягнік да Ленінграда. Селі ў цягнік да Ленінграда, я крыху паспакайнеў. Прыехалі ў Ленінград, развітаўся з суседзямі. Пайшоў даведацца, як мне дабрацца да Кранштата, людзі мне ўсё патлумачылі. Сеў я на трамвай і еду на Васільеўскі востраў, але ў трамваі мяне запыталі, куды «путь держишь?», я адказаў, што ў Кранштат. Тады мне людзі патлумачылі, што гэта трэба ў адваротным кірунку. Я канешне выйшаў і сеў на такі ж нумар трамвая і паехаў у патрэбным кірунку. Адтуль на цягніку да Арыенбаўма. Са мной ехалі маракі і пазнаёміўся, з імі дабраўся да Арыенбаўма, а потым і да Кранштата па вадзе першы раз.

У Кранштаце адшукаў Кастрычніцкую вуліцу, зайшоў у школу, мяне накіравалі ў інтэрнат. Назаўтра сустрэўся з дырэктарам Цянілавым. У хуткім часе пачаў здаваць экзамены. І вось напісаў дыктант, атрымаў па дыктанту 2. Зрабіў 83 памылкі, пераблытаў і беларускія і рускія словы. Увесь мой дыктант быў размалёваны чырвоным алоўкам і мне сказалі, што такіх грамацеяў мы не прымаем. З тыдзень я праплакаў, і вось дырэктар т. Цянілаў пашкадаваў, прыняў мяне ў школу ФЗУ ў групу сталяроў, там быў недабор. Гэту групу дражнілі «грободелами». Затым па маёй просьбе перавялі ў групу судакарпускнікоў, і ў гэтай групе я правучыўся месяц і амаль аглух ад шуму пнеўматычнага зубіла.

У гэты час з’явілася пастанова урада аб пераўтварэнні школ ФЗУ ў рамесныя вучэльні, так я стаў навучэнцам РУ № 10 групы токараў. Вось тут я і падналёг на вучобу. Я не тое што ўдзень, нават ноччу займаўся, хадзіў на дадатковыя заняткі, так я хацеў быць токарам. Нам выдалі форму, вельмі добра вучылі, дысцыпліна напалову ваенная, харчаванне выдатнае. Я пранёс праз усё жыццё і з вялікай удзячнасцю ўспамінаю дырэктара вучэльні РУ

№ 10 тав. Цянілава, ваенрука тав. Карнілава, начальніка цэха тав. Лопіха.

## Вучоба ў рамеснай вучэльні

У нашым кубрыку было 24 навучэнца РУ № 10. Асабліва я сябраваў з Іванам Гладзіліным, Нікіфарам Салдаценкам, Сяргеем з Пачынак Смаленскай вобласці. З гэтымі хлопцамі мы былі сябрамі, разам хадзілі ў кіно, гулялі па горадзе Кранштаце. Іван Гладзілін быў з Маршанскага раёна Тамбоўскай вобласці. У яго быў брат Пётр Гладзілін, камандзір малой падводнай лодкі. Ён часта заходзіў да нас разам з сваім сябрам А. Марынеску. Тым самым Марынэску, што стаў Героем Балтыйскага флоту. Сам Пётр Гладзілін у канцы 1941 года загінуў падчас авіяцыйнага налёту. Я зараз успамінаю іх візіты да нас у кубрык. Абодва ў скураных плашчах. Марынеску крыху вышэй ростам, Гладзілін ніжэйшы ростам, але мажнага целаскладу. Прыносілі нам галеты, абменьваліся фотаздымкамі, расказвалі розныя цікавыя флоцкія выпадкі.

Над нашым РУ шэфствавалі курсанты Кранштацкай школы, што рыхтавала малодшых палітрукоў для флоту. Курсанты палітвучэльні былі ў нас частымі гасцямі, і мы манеаднойчы былі ў гасцях палітвучэльні. Сярод іх я ўспамінаю Героя Савецкага Саюза, удзельніка вайны з белафінамі Насанкіна. Мы вучыліся ў курсантаў дысцыпліне, парадку, як у іх засланы ложкі, дакладна ў два ярусы, чысціня, акуратнасць, на ложках ні адной маршчынкі, усе гладзенькія, як адпрасаваныя. І мы імкнуліся пераняць гэты парадак у сябе ў кубрыку. Гэта давалася з вялікімі цяжкасцямі, асабліва рубчык на портках, які аніяк не атрымліваўся.

Помню, прыйшлося даставаць фанеру, на яе класці штаны і фанеру пад матрац і спаць ноч, і гэта нам памагло, бо праса ў нас у кубрыку не было, а ў агульным пакоі не заўсёды дачакаешся чаргі. Мы падтрымлівалі і пераймалі такі парадак, які бачылі ў курсантаў палітвучэльні. А як нам выдалі форму рамеснікаў, то мы зусім ужо зрабіліся героямі, хадзілі па гораду і віталіся пад казырок з ваеннымі маракамі.

Форма тады была асабліва прыгожай парадная і мы за ёй ухажвалі, любілі яе і берaглі, заўсёды былі падцягнутыя і ахайныя. Я ад такога жыцця, як кажуць, быў на сёмым небе.

Я ўжо крыху расказваў пра сваё нялёгкае жыццё сіратой у Дрыбіне. Вось пасля такога дзяцінства кранштацкае жыццё было для мяне раем зямным.

Вясной нам сказалі, што наша РУ № 10 будзе рыхтавацца да першамайскага парада 1941 года, і мы вельмі абрадаваліся. Пасля заняткаў мы прыходзілі ўсёй вучэльняй на Якарную плошчу і выпрацоўвалі страявы крок. Рыхтаваліся ўпарта, два тыдні да 1 мая. Апошнія дні так стараліся, што костачкі на нагах апухлі. У шарэнзе было па 18 чалавек. Трэба было ісці абсалютна роўнай шарэнгай, і перад трыбунай рабіць «равнение направо» Гэта цяжкая ўпартая праца. І вось камісія — афіцэры флоту прынялі залік у апошнія дні месяца.

Надышло 1 Мая. Наша школа накіравалася на Якарную плошчу, усе ў парaднай форме, порткі адпрасаваныя, каўнерыкі беленькія, настрой узнёслы, выдатны. Пачаўся парад, прымаў парад контр-адмірал Іваноў, прайшлі маракі, затым пайшлі мы, прайшлі мы выдатна каля трыбун. Пасля парада мы пайшлі да казарм паўночных № 3. І нам выдалі яблыкі за добрую службу.

У Кранштаце мы былі гасцямі Марскога клуба «Максімка», куды хадзілі ў кіно. Гэта на Якарнай плошчы былы Марскі сабор. Хадзілі і ў дом афіцэраў. Рабілі прагулкі за горад. Летам купаліся ў Фінскім заліве, іншы раз, калі быў адліў, даходзілі да Паўночных фартоў. Марылі пасля заканчэнне вучобы ў РУ № 10 адпрацаваць патрэбны тэрмін і паступіць вучыцца далей.

Жыццё ў РУ № 10 была вельмі добрае: прафесійнае навучанне, выдатная фізпадрыхтоўка, мужчынскае выха-

ванне, якое вясёлае і шчаслівае жыццё было. Я збіраўся на канікулы ў чэрвені 1941 года, калі атрымаў тэлеграму, што памёр брат Афанасій. Гэта было ў пачатку другой паловы чэрвеня і мяне дырэктар пераканаў не ехаць: «Что ты поможешь? Да и не успеешь». І я не паехаў.

Вайна, пабурыла ўсе нашыя мары. Лёс склаўся зусім па іншаму.

(Ужо будучы ў Кранштаце па запрашэнні Камітэта ветэранаў вайны ў гонар 40-годзе Перамогі, я яшчэ і яшчэ імкнуўся даведацца хоць што-небудзь пра сваіх сяброў рамеснікаў. Ніхто нічога не ведаў! Адзін адказ: усе яны ці памерлі ад голаду ці загінулі, хто на фронце, хто ад бамбёжак і абстрэлаў.)

## Вайна

21 чэрвеня вечар быў у школе, добры канцэрт. Раніцой 22 чэрвеня вайна, першыя 3 юнкерсы над Кранштатам, першыя стрэлы зенітак. Мы былі на практыцы на заводзе оптыкі і вось мы між сабой, яшчэ юнакі, гаворым: «вось каб нас узялі ў армію, вось здорава было б, можам не паспець паваяваць, як і вайна скончыцца, і што ён, гад Гітлер, здурнеў, сабе шыю хутка зломіць». А сядзелі побач матросы на лаўцы, учулі нашыя размовы і кажуць: *«Эх, ребятки, ребятки, этой войны хватит и нам, и вам, и ещё останется после нас».*

Якія гэта былі прарочыя словы, і як яны, на жаль, спраўдзіліся.

Зразу ж нашу групу расфарміравалі. Здалі экзамены тэарэтычныя і практычныя і былі пераведзены токарамі па метале на марскі завод у цэх № 2 на другім паверху. Мой станок быў злева, як зойдзеш, крайні ззаду каля акна. Токары 3 разраду спачатку былі замацаваны да токараў універсалаў, а потым працавалі самастойна, тачылі хваставікі да мін. Норма 24 штукі за змену, 12 гадзін у дзень. Я



падумаў і кажу, калі ад мяне залежыць, то я зраблю 5 норм, каб Гітлер падавіўся маімі мінамі і зрабіў 6 норм, з каторых толькі 17 штук былі годнымі, астатнія былі забракаваны і з мяне вылічылі за брак, за псаванне металу дзесьці каля 6 рублёў і быў загад па цэху. Пасля гэтага я стаў працаваць больш уважліва і рабіў па 1,5 нормы без браку.

Жыццё і ўмовы жыцця рэзка памяняліся, працоўны дзень быў працягласцю 12 гадзін, вельмі вялікі аб'ём працы быў на заводзе, асабліва калі нашы войскі пакінулі горад Талін. Шмат караблёў было падбіта і мелі патрэбу ў рамонце. Гэта праца клалася на плечы ўсяго калектыву Марскога заводу.

Жыццё ў Кранштаце між тым рабілася ўсё цяжэй. Праца на Марскім заводзе, стомленасць ад работы, змяншэнне пайкі харчавання, дзяжурства па горадзе. Кожнай групе з 5 чалавек давалі аб'ект: дзяжурыць на даху дамоў, тушыць запальныя бомбы, засякаць варожых сігнальшчыкаў-ракетчыкаў. Амаль кожны дзень былі пахаванні загінуўшых маракоў.

Пасля Талінскай аперацыі зрабілася яшчэ цяжэй. Аднойчы дзесьці 18–20 верасня майстар папрасіў, каб мы прышлі ў нядзелю: была тэрміновая праца. Прышлі мы на завод рана раніцой, глядзім у акно на заліў у бок Ленінграда, на рэйдзе караблі стаяць.

Я кажу: «Што гэта, хлопцы? Зірніце, як самалёты пікіруюць на караблі». Глядзім, ужо гарыць адзін самалёт, не паспелі перакінуцца словамі. Бачым адзін самалёт ужо пікіруе на наш цэх і страляе з кулямётаў, вокны зазвінелі, пачалі кідаць бомбы, хтосьці крыкнуў: «Лажыся!» За гэтым каманда: «Усе ў падвал!» І вось пачалося, увесь дзень мы не маглі выйсці з падвала. Есці хацелі, толькі падымемся да буфета, зразу назад, ізноў бомбы сыплюцца. Адны самалёты адбамбяцца, другія прылятаюць. І так мы праседзелі да вечара ў гэтым цагельным падвале.. Адна бомба трапіла прама ў цэх, прабіла два паверхі, а падвал толькі трэснуў, трэшчына мо з паўметра, а мы ўсе жывыя і здаровыя. Увечары крыху цішэй стала і дабраліся да Паў-

ночных казарм галоднымі. Ноччу таксама была бамбёжка і трое сутак бамбілі без перапынку. Але мы ў падвал ужо не бегалі, спачатку хаваліся ў шчыліны, што былі выкапаны ў кожным скверы, на вуліцах і плошчах. А потым пачалі бегаць на Паўночны вал, там добра, ніколькі не страшна, ляжалі сабе на спіне і глядзелі, як нашы зеніткі збіваюць юнкерсы. Па 12–18 самалётаў за дзень збівалі зенітчыкі ў гэты тры дні. Пасля гэтага налёты сталі радзей, але пачаліся артабстрэлы, гэта яшчэ горш.

Аднойчы я назіраў такую жудасную падзею, калі снарад трапіў у чаргу каля крамы ў мірных людзей, вось дзе жах.

Неяк, гэта было ўжо ў кастрычніку, мы жылі як рабочыя на Камсамольскай вуліцы ў драўляным будынку інтэрната. І вось немцы скінулі марскія міны на парашутах, адна трапіла на зямлю недалёка ад нашага будынку. Выбухам павыбівала вокны, дзверы, тынкоўкай нас накрыла, але ўсе засталіся жывымі.

І ўвесь час, колькі мы жылі ў Кранштаце, працягваліся абстрэлы і бамбёжкі дзень і ноч. Паёк быў урэзаны, хлеба да 400 грам і ўсё астатняе таксама. Пачалася блакада ўжо ў канцы верасня. У кастрычніку загарэліся Бадаеўскія склады ў Ленінградзе, яны так гарэлі, што ў Кранштаце было добра бачна зарава. Два тыдні гарэлі. Вось дзе пралік быў, не маглі развезці па дробных складах, усё баяліся каб не раскралі. А можа гэта была здрада, цяжка сказаць..

Мы, рамеснікі былі вельмі зацікаўлены, каб злавіць нямецкіх шпіёнаў. Справа ў тым, што калі пачалася вайна, у ваенных вучэльнях быў датэрміновы выпуск афіцэраў флоту. Пад выглядам закончыўшых ваенныя вучэльні немцы засылалі сваіх шпіёнаў. Нас інфармавалі аб гэтым. І калі была бамбёжка, то гэтыя дыверсанты пускалі ракеты, свяцілі ліхтарыкамі на асоба важныя аб’екты, і іхняя авацыя скідвала бомбы па цэлях. Аднойчы нашы хлопцы купаліся на Паўночным валу ў Фінскай затоцы і заўважылі афіцэра, які прыйшоў на Паўночны вал. Там было ціхае бязлюднае месца, праз пару дзён ён ізноў быў на тым самым месцы, і так было некалькі разоў. Мы інфармавалі куды трэба, і калі затрымалі афіцэра, то ён быў звычайным нямецкім шпіёнам. У яго была карта, на якой ён адзначаў агнявыя кропкі. Нам ад камандавання была аб’яўлена падзяка.



У Кранштаце, калі немцы наляталі на горад, то караблі, форты, а па гораду таксама ў скверах былі пастаўлены зенітныя гарматы, на дамах зенітныя кулямёты, і калі адкрывала агонь нашая зенітная артылерыя па нямецкіх самалётах, то атрымліваўся суцэльны гул.

Толькі зблізу ад нас былі чутны гарматныя стрэлы, і кожны дзень пры масіраваных налётах немцы страчвалі 15–18 самалётаў у дзень. Аднойчы пад час бамбёжкі мы былі на Паўночным валу, там менш бамбавалі, і не было так страшна. Мы ляжалі на траве глядзелі, як збітыя самалёты немцаў падаюць у Фінскую затоку і тады мы ўскаквалі і крычалі Ура. Мы ўжо навучыліся вызначаць з вялікай верагоднасцю куды трапяць бомбы. Вось аднойчы мы беглі праз масток праз Пятроўскі роў, на нас наляцеў юнкерс, кінуў бомб штук пяць, праўда ў мост не папаў, а побач і нас выбуховай хваляй раскідала каго куды. Мяне на грэбень рова побач з мостам, там трава расла і кусты, хлопцы падбеглі, пытаюць жывы, а я нічога не чую, у вушах звініць, дні тры звінела, потым прайшло.

Аднойчы, дзесьці 23 ці 25 верасня быў вялікі налёт на Марскі завод і побач у Пятроўскую гавань. Там стаялі на рэйдзе лінкоры «Марат», «Октябрьская революция» і крэйсер «Кіраў». І вось адзін самалёт (спікіраваў так нізка, што было ўражанне, што ён тараніў лінкор), трапіў бомбамі ў «Марат»*, і «Марат» быў затоплены. Шмат бомб тады трапіла і ў Марскі завод.

* Нямецкі лётчык Р-ь на Юнкерсе-87 прыкладна 23–24 верасня 1941 года пры налёце на ваенна-марскую базу Кранштат трапіў авіяцыйнай бомбай у лінкор «Марат».

Гэты дзень быў нейкі кашмарны, немцы рваліся як ачумелыя, іх збіваюць, а яны ізноў ляцяць. 24 самалёты ў той дзень страцілі фашысты.

## Прызыў у дзейнічаю армію

У канцы верасня, увечары я прыйшоў з працы стомлены, галодны, паваліўся на ложак, крыху паспаў. Пачаў уставаць з ложку, гляджу — паперка, я прачытаў, а гэта павестка з'явіцца ў ваенкамат. Я запытаў: хто яшчэ атрымаў павестку? Ваня Гладзілін адказвае: «Я». Так мы з Ванем пачалі збірацца ў армію. Увечары знаёмая дзяўчына дапамагла атаварыць картачкі за 10 дзён замест хлеба на пячэння. Увечары мы пілі чай з пячэннем, ноч праспалі, а раніцай папілі чаю з рэшткамі пячэння і пайшлі ў ваенкамат. Забралі з сабой рэчы, апрануліся ва ўсё параднае. У ваенкамат ішлі пад свіст і разрывы снарадаў, што рваліся па ўсім горадзе.

У ваенкамаце прайшлі медычную камісію, былі прызнаныя годнымі да службы ў марской авіяцыі. Павінны былі ехаць вучыцца на лётчыкаў. Для мяне гэта было па праўдзе кажучы вельмі нядобра, справа ў тым, што я баяўся вышыні і наогул не любіў авіяцыі. Вось вада, мора гэта для мяне парадак, а вышыня — гэта бяда. І калі вучылі нас плаваць, я дарэчы даўно ўмеў плаваць, то вось на катары адвязуць у бок і каманда: «Скачыце». Мы кідаемся ў ваду. Я сябе адчуваў выдатна, а некаторыя хлопцы не ўмелі плаваць, ішлі на дно, іх своечасова падбіралі інструктары, дапамагалі прыйсці ў сябе, і зноў працягвалі трэніраваць, покуль усе не навучыліся плаваць.

А авіяцыя — гэта для мяне магіла, і я нікому не прызнаваўся, але ў душы вельмі не хацеў ісці ў авіяцыю. І калі ўжо будучы ў Ленінградзе, адзін з нашых маладых задаў пытанне палітруку: «Калі нас пашлюць на лётчыкаў вучыцца?» Палітрук адказаў: «Вось прарвём блакаду Ленінграда і паездзіце, хлопцы, у школу вучыцца на пілотаў». Я потым маладому гэтаму і кажу: «Далася табе гэта лётная школа».

З ваенкамата нас накіравалі для праходжання службы ва флоцкі «полуэкипаж», там мы пачалі сваю службу, цэлы дзень заняткаў і асабліва страявая. Зброю вывучалі, выконвалі гаспадарчыя работы, ездзілі за горад за сенам, набівалі матрацы і іншая праца, днявалілі, вывучалі вайсковыя навукі. Абстрэлы і бамбёжка горада працягвалася і дзень і ноч.

Дзесьці ў пачатку лістапада 1941 года нам абвясцілі, што будзем сыходзіць з Кранштата, атрымайце свае асабістыя рэчы і ў каго ёсць сваякі ці знаёмыя ў горадзе, занясіце рэчы, а ўвечары наша вайсковае падраздзяленне пакіне горад. Мы з Ванем Гладзіліным, паколькі нікога ў нас не было, брат Вані Пётр быў у плаванні, ваяваў, мы занеслі на плошчу каля клуба свае рэчы і паклалі ў кучу, нашаму прыкладу паследавалі і яшчэ некалькі хлопцаў. Увечары нас сабралі ў клуб флоцкага паўэкіпажа і мы доўга былі ў гэтым клубе, акрамя нас было там шмат салдат і матросаў з другіх аддзелаў, і помню, што ўвесь вечар іграла пласцінка «Чэліта», мабыць адна яна і была. Позна ўвечары мы пастроіліся і пайшлі ў Пятроўскую гавань, там нас пагрузілі на транспартны карабель, дзе ў труме былі макароны і мука. Мы гэтыя макароны даставалі і елі ўсю ноч. Раніцой мы апынуліся ізноў у Кранштацкай гавані. Немцы ноччу падвергглі наш карабель гарматнаму абстрэлу і мы не прабіліся да Ленінграда. У гавані мы ізноў выгрузіліся і пайшлі ў клуб флоцкага паўэкіпажа. Калі выгружаліся з транспарту, Ваню Гладзіліна адправілі ў лазарэт, у яго моцна балеў жывот, відаць шмат паеў сырых макаронаў. З тога моманту я больш не бачыў майго дарагога сябра Ванечку Гладзіліна, колькі ні пісаў я і на радзіму ў Маршанск, і ў Кранштат, нідзе не знайшоў.

У флоцкім паўэкіпажы мы прабылі ўвесь дзень да вечара, і ўвесь гэты час ізноў спявала «Чэліта». Нам ўсім выдалі па салёнай рыбіне траске. Увечары каманда: «Вы-

ходи строиться!» Ізноў Пятроўская гавань. Цяпер ужо нас пасадзілі на кананерскую лодку і мы пайшлі ў Ленінград. Помню яшчэ, так наеўся траскі салёнай, што піць хацеў, хоць памірай. Пайшоў я да машыністаў, маракі пачаставалі цёплай вадой, кіпячонай. Выйшаў на палубу, горад Кранштат, ад нас ужо чуць бачны, і тады ў мяне з'явілася думка, што гэты горад я бачу ў апошні раз. «*Прощай, любимый город!»*

Потым я дзесьці прылёг і праспаў, хлопцы казалі, што быў артабстрэл, кананерка таксама страляла па немцах, якія былі літаральна побач у Пецяргофе на беразе.

Прышлі ў Ленінград, высадзіліся і нас пасялілі ва флоцкім экіпажы на Васільеўскім востраве. Пяць чалавек назначылі дзяжурнымі па камбузу, у тым ліку і мяне. На камбузе працавалі да 9 вечара, і вось кок гаворыць: «Давайце, хлопцы, павячэраем», і дае нам па вялікай талерцы флоцкай вермішэлі, мы чуць дыхаем ад супу — гушчы гарохавай. Ну канечне мы гэту вермішэль падмялі, але і памучыліся мы ад такога дзяжурства.

Калі ў Кранштаце хоць і бамбілі і былі артабстрэлы, але жыццё неяк, цяжка, але ішло. Ленінград ужо горад быў не той, каналізацыя не працавала, свету не было, вады не было, яды таксама не было. Людзі ў горадзе худыя, бледныя, усмешак не бачна. У экіпажы мы прабылі нядоўга, нас адправілі на падплаў Кірава. Там працягвалі заняткі, харчаванне было цярпімае. Тры разы ў дзень не дасыта, але жыць можна. Добра нас вучылі стралковай справе, лыжам, зброя, матэрыяльную частку, стрэльбы, гранаты, кулямёты, снайперская справа, назіральнікі, і канешне бутэлькі з запальнай вадкасцю, барацьбе з танкамі. Мы на падплаве Кірава значна падмацаваліся, адпачылі і някепска прайшлі курс навук.



# Фронт

Затым нас накіравалі на Карэльскі перашыек, дзе фарміраваўся 576 стралковы полк 115 дывізіі пасля вываду яе з баёў з Неўскай Дуброўкі.

Пачаліся нашы цяжкія будні ў вёсцы Парабалькава. Калі мы ішлі па Ленінграду, нас праводзілі людзі вачыма, што немагчыма было глядзець у гэтыя сумныя вочы. Мы хто што меў з адзежы, перадавалі ленінградцам. Вось калі ўзнікла думка: - «Божа мой, калі я застануся жыць, я ўсё жыццё буду рабіць так, каб народ не галадаў.»

У Парабалкаве мы знаходзіліся да снежня 1941 года, вось дзе мы нагаладаліся моцна, капусныя шэрыя лісця з канінай і 400 грам мёрзлага хлеба. Шчасця што ў мясцовага насельніцтва быў жмых, а нам давалі папяросы ці табаку, а я не курыў і мяняў на жмых. І вось я яго жаваў сухім і дзень і ноч.

У снежні нас накіравалі на Ладагу, да Ладагі пешку, у вёсцы Новая Ладага кароткі адпачынак. Мы найшлі рассыпаную муку з снегам, нагрэблі з палову рэчавага мяшка. Расклалі агонь, гэта ўдзень было, пачалі варыць зацірку, тут каманда: «Строіцца!», а зацірка не закіпела. Падышоў старшыня, гаркнуў: «*Строиться!»* І як дасць нагой па кацялку, паляцеў той кацялок з няспраўдзіўшайся заціркай, так мы і пайшлі да возера не салона хлябаўшы. Там пасадзілі на машыны і паехалі ўперад. Немцы бамбяць і ўперадзе ідучая машына ўехала ў палонку ад бомбы, хто паспеў выскачыць, а хто і пайшоў на дно. Наша машына аб'ехала і пайшла далей, ехалі ноччу. Фары свецяць толькі ўніз, зверху прыкрыты накрыўкамі. Прывезлі нас на ўсходні бераг. Выгрузілі і аб'явілі: «Хто можа, няхай дабіраецца да Кабоны на машынах, там збор».

Я кінуў лыжы на праязджаючую машыну, а ў самога сіл не хапіла ўзлезці, так і паехалі мае лыжы.

У Кабоне пастроілі і пайшлі ўперад далей, ішлі мы не ведаю колькі. Як быццам вечнасць, дзень і ноч, снег да дзягі, на прывале дзе прыпыняліся на начны адпа-

чынак, раніцой заставалася па 12–15 чалавек мёртвых. Мароз 30–35 градусаў, кухні няма, то пайшла ўперад, то адстала. Так мы ішлі доўга і нарэшце прыйшлі ў пасёлак торфараспрацовак, там відаць капуста расла на тарфяніках, то мы ўсе храпкі пазбіралі і паелі. Прыпыніліся на «5-м пасёлку», толькі запалілі печы, у бараках буржуйкі паставілі, вокны задзелалі, пачалі грэць ваду, прышлі два палкоўнікі і каманда: «Выходзі строіцца!» І ізноў пайшлі. Толькі падышлі да лесу, нямецкая рама наляцела, ну і давай страляць у яе, вельмі ўжо нізка ляцела. Каманда: «Не страляць!» І вось прайшло крыху часу і з'явіліся нямецкія юнкерсы, ох і бамбілі, жывога месца не было ад баракаў, дасталася і лесу. Адбамбіўшыся самалёты адляцелі. Нам ізноў пастраенне і ўперад, страты было ў нас невялікія, некалькі чалавек лёгка раніла.

Прыйшлі мы на бераг рэчкі ў лесе, там была кухня і выдалі нам НЗ, усё гэта мы канечне зразу ўмалацілі.

Добра адпачылі і ўперад пайшлі па засыпанаму снегам лесу. Увечары мы ішлі ўжо адзін за адным, была каманда: «Зброю трымаць напагатове!» Ішлі мы ўсю ноч і пад раніцу выйшлі на ўскраек лесу, гэта прыкладна 15 снежня.

Яшчэ было цёмна, наш 1-ы батальён развярнулі ў ланцугі, і ён пайшоў у наступ на вёску Бабіна, 2-і батальён таксама развярнуўся і таксама пайшоў у атаку. І калі мы пайшлі ў наступ немцы нечакана адкрылі такі агонь з кулямётаў трасіруючымі кулямі, з мінамётаў, рвуцца міны, снарады, што мы аслупянелі. Некалькі секунд і пабеглі ўперад, я за палітруком, як за сталым чалавекам, страляем на хаду, усё гарыць, поўны кашмар. Маракі паскідвалі шынялі і ў бушлатах, крычаць: «Палундра!» Людзі падаюць забітыя і раненыя, пачало світаць, мы з таварышам за куст паставілі кулямёт ручны, пачалі біць па немцах, прыкладна з час цягнуўся гэты жах. Затым усё менш і менш пачалі страляць з нашага боку, прыпынілі страляць і мы з кулямёта, скончыліся дыскі. Мой 1-ы нумар забіты. Я азірнуўся вакол, снег увесь шэры, дым, гар, на снезе забітыя, хтосьці паўзе назад. Я яшчэ крыху паляжаў і пачаў паціху выпаўзаць назад у лес, колькі я поўз не помню, як толькі падымеш галаву, то немцы даюць чаргу. Так я і прапоўз з поўдня, па дарозе сабраў зброю і прыцягнуў свой кулямёт і некалькі вінтовак.

Каля лесу мяне сустрэла высокае начальства са шпаламі і ромбамі, дало загад, каб я паставіў зброю і загадалі паўзці назад, выцягваць раненага лейтэнанта. Я папоўз крыху вышэй, дабраўся да лейтэнанта, ён стогне і каля яго некалькі забітых. Я яго зачапіў дзягай за ягоную дзягу, ён узяўся за рэмень і гаворыць: «Давай, дружа, уперад памаленьку». Так мы доўга паўзлі, нас некалькі разоў абстрэльвалі. Дапаўзлі да лесу нармальна, у лесе забралі лейтэнанта санітары, а я пайшоў да астаўшыхся ў жывых салдат, у шалаш складзены з яловых лапак, там мы і пераначавалі.

Раніцой ідучы па лесу, адчуў патрэбу да ветру па вялікаму, гляджу выварацень, зацішна, я і сеў у аблюбаванае месца па сваёй патрэбе, толькі я справіўся з сваёй справай, чую снарад гудзіць не так як заўсёды, а феркаціць, я мітулем адскочыў за вялікую яліну, і ў гэты момант выбух. Я зірнуў з-за яліны на тое месца дзе толькі што сядзеў, а вывaратня няма і яліна ўся пасечаная.

Потым сабралі нас яшчэ 150–200 чалавек і яшчэ раз схадзілі ў наступ і ўсё безвынікова, засталося нас менш сотні.

17 снежня немцы павезлі ў вёску Бабіна харчаванне на трох машынах. Мы выскачылі з лесу, адну машыну зразу падбілі, галодныя салдаты і матросы пачалі хапаць прадукты. Я ўскочыў на другую, толькі паспеў схапіць буханку хлеба, як крычаць: «Танкі!» І вось танкі нам наперад ад лесу, ды з кулямётаў чэшуць разрыўнымі. Я паспеў забегчы ў лес, прабег метраў 50, раптам мяне як стукне нібы палкай, я думаў па галаве, не гляджу — галава цэлая. Гляджу на снег, а снег у крыві. Я зірнуў на ногі, і ногі цэлыя. Потым гляджу на левую руку, а рукавіца ў крыві, рукаў разарваны і вісяць жылы сінія і белыя, а з іх кроў льецца. Я з рэчмяшка выняў бінты, ручнік, нехта яшчэ падышоў, памаглі мне забінтаваць, і я пацягнуўся ў шалаш з елак. Гэта было гадзін у 3–4 дня, там я пасядзеў

і заснуў, а прачнуўся толькі раніцой 18 —га гадзін у 10. Гляджу, а з мяне хтосьці зняў шынель, я ў адным бушлаце. Ужо салдаты другія, сібіракі прыйшлі. Адзін кажа: «*Глянь, паря вроде ожил*». Пачаставаў мяне сухаром і адправіў мяне ў санбат. Патлумачыў як ісці. *«Иди, паря, пока живой, а то сейчас тут разгорится бой, то, может, и костей не соберёшь»*.

Я пайшоў, на шляху сустрэў незамерзлы раўчак. Я стаў ваду піць, а гэты час санітар мяне за каўнер падняў і сказаў, што ваду нельга піць, ідзі ў санбат. У санбаце мяне накіравалі ў шалаш, высланы глыбока яловымі лапкамі. Там мяне перавязалі і накармілі кашай. Ноччу нас адправілі на конях і чамусьці на калёсах везлі. Прывезлі на нейкі паўстанак, там высадзілі, перавязалі, напісалі паперы на кожнага і сказалі ісці па вузкакалейцы пешку, хто ранены ў руку.

Я і яшчэ некалькі салдат пайшлі па вузкакалейцы пешшу. Я не мог ісці і мяне ўвесь час абганялі і абганялі лёгка параненыя. Затым я ад страты крыві наогул страціў прытомнасць і мяне падабраў стрэлачнік і я ачуняў у будцы. Там ён напаіў чаем, даў сухар і прыпыніў паравоз-кукушку, пасадзіў мяне ў вагон. У вагоне я сустрэў свайго лейтэнанта, якога выцягнуў і мы паехалі на ст. Жыхарава. У Жыхарава было вельмі шмат раненых і мы ляжалі некалькі дзён на падлозе. Ніхто нас не глядзеў. Некалькі разоў я хадзіў ў двор, мне давалі кашу. А потым у мяне сіл не было ісці. У гэты час прыехала нейкая камісія і пачала глядзець раненых і выбіраць самых цяжкараненых. І вось пад вечар падыходзяць да мяне, паслухалі пульс і махнулі, мяне забралі на насілкі. Прынеслі ў аперацыйную, сказалі здымаць чаравікі, я пачаў здымаць і не мог справіцца. Тады санітары разрэзалі чаравікі і занеслі на стол у аперацыйную. Знялі анучы, то я на ногі глянуў і страціў прытомнасць. Далі нашатыр і пачалі лекаваць ногі. Ногі былі распухлыя як у шырыню так і ў даўжыню, усе чорныя і цёк гной. Мне палекавалі ногі, перавязалі руку і на насілках панеслі да цягніка, і далей павезлі ў цяплушках. Мы ехалі некалькі дзён. Сусед мой памёр, а вошы апанавалі, па шыі поўзаюць, возьмеш рукой правай, правядзеш і штук 10 у руцэ, вось бяда якая.

Я недаказаў, што перш чым папасці на ст. Жыхарава, нас на машынах павезлі ў Ціхвін, па дарозе з намі ехаў лейтэнант Чыпа. У яго быў кавалак люстэрка. Я папрасіў даць мне люстэрка, то ён мне сказаў: «Поверь мне, Саша: ты грязней поросёнка, лицо всё чёрное и вымазано кровью».

У Ціхвіне нас пасялілі ў царкве, там мы былі покуль нас не адправілі на ст. Жыхарава.

І вось калі мы ехалі з Ціхвіна, па дарозе нам сустрэлася жанчына на санках везла свае пажыткі. З ёй быў маленькі хлопчык 10–12 год і каза на вяроўцы. То мы прыпынілі сваю машыну і глядзелі на жанчыну з дзіцёнкам і казой і ў шмат каго з раненых цяклі слёзы, бо жыццё вярталася.

Гэта было наша першае наступленне пад Ленінградам і лёс выдаў, што і я ўдзельнічаў ў гэтай справе. Па-праўдзе кажучы мы мала што зрабілі, толькі абазначылі сваю прысутнасць перад ворагам, напэўна прымусілі яго памяняць планы. Мы былі згаладнелыя, змучаныя пераходамі па глыбокіх снягах і моцных маразах, кепска ўзброеныя. Без артылерыі, без танкаў, з стрэльбамі і кулямётамі, ды і патронаў было мала. І мне вельмі шкада тых маладых хлопцаў, да слёз, тых маладых маракоў з Кранштата, што паклалі свае маладыя галовы пад вёскай Бабіна. Пазней, ужо у шпіталі, сустракаючыся з параненымі, я даведаўся, што вёску ўсё ж такі забралі і там было ўсяго 86 немцаў (рота), якія сядзелі ў цёплых бліндажах і дзотах, добра ўзброеныя, мясцовасць была прыстрэленая.

І праз 45 год я сустрэўся на 40 годзе Перамогі ў Ленінградзе з адным з маіх камандзіраў Дзям’янам Дзянісавічам Рымарам, які ў той час у 41 годзе камандаваў «Смершам» нашага палка. Я яго запытаў, як гэта атрымалася, што полк аслабеўшых і змучаных і кепска ўзброеных салдат кінулі на доты і фактычна полк загінуў амаль увесь акрамя каманднага саставу. Ён адказаў, што мы выканалі задачу,

не далі замкнуць другое кальцо, з'яднацца немцам і фінам…. якім коштам. Дзям'ян Дзянісавіч і мяне запытаў, «як атрымалася, што будучы ў лыжным батальёне, ты не трапіў на заданне лыжнага батальёна?». Я адказаў, што мае лыжы засталіся дзесьці на машыне на Ладазе і мяне адлічылі. Паставілі другім нумарам кулямёта, замест замерзлага пры пераходзе салдата. Рымар мне і сказаў, што лыжны батальён атрымаў заданне і атрад з 100 чалавек пайшоў яго выконваць і ніхто з заданне не вярнуўся. Усе загінулі. Немцы маракоў у палон не бралі, ды маракі і не імкнуліся папасці ў палон.

Вось такі кароткі ваенны, франтавы ўдзел выпаў на маю долю, долю салдата бязрадаснага, кашмарнага 1941 года.

## Шпіталь

30 снежня мы прыбылі ў горад Чарапавец, нас выгрузілі з вагонаў, і я трапіў у сапраўдны шпіталь. Зразу на аперацыйны стол, разбінтавалі руку, ногі. Я запытаў урача, ці будуць працаваць мае пальцы на левай руцэ. Ён закрычаў: «Аб пальцах і размовы быць не можа, як бы не адрэзаць руку, ну а з нагамі наогул кашмар». Кожны дзень перавязкі і ўсё гніе, цячэ, боль жахлівая. У Чарапаўцы прабыў я 10 дзён і атрымаў дакументы ў тыл, у шпіталь павязуць далей. Я запытаў параненых: «Хто яшчэ едзе?» Яны адказалі, што з нашай палаты больш ніхто. У палаце было параненых чалавек 30. Пад шпіталь была прыстасавана школа. Адзін салдат гаворыць: «Ты што, не разумееш? Начальнік шпіталя чалавек разумны, ён не хоча трапіць на фронт, і каб было мала смяротнасці, ён усіх дахадзяг адпраўляе. Няхай па дарозе памруць».

Праўду ён сказаў ці пажартаваў, але ад гэтага вельмі мне было маркотна. Пагрузілі нас ў санітарны цягнік і павезлі. 10 дзён ехалі, перавязкі канешне былі, але не кожны дзень, а тут яшчэ крывавы панос, усё льецца, не паспяваюць мяняць бялізну. Дзяўчаты маладыя загуляюцца з хлопцамі, я званю ў званочак, покуль прыбяжыць, а я ўжо гатовы: ўвесь мокры. Ужо перастаў і кальсоны адзяваць, так накрыюся прасцінай ды і ляжу, дзён праз пяць усё ж такі ўціхамірылі з дапамогай мікстур мой страўнік. Стала весялей, але вош пяшком пайшла па прасцінах, але і з гэтым справіліся. Абмазалі мяне дзе шэрсць-валасы, галаву змазалі, а затым памылі і ўсё скончылася.

Прывезлі нас у Кіраў увечары, раздалі паперы, пакеты, гісторыі ранення і ва ўсіх напісаны нумар шпіталя, а ў мяне тры літары неразборлівыя. Я паклікаў сястру і кажу, а мяне куды, што тут напісана, не на могілкі. Яна мяне заспакоіла, кажа: «Цябе, Саша, адпраўляюць у ваенна-марскі шпіталь. Гэта самы лепшы шпіталь у Кіраве. Ты ж марак, вось цябе і накіравалі ў Марскі шпіталь». Я пра сябе думаю: які я марак? Але змаўчаў і згадзіўся. Марскі дык марскі, няхай будзе так. І тут адзін з раненых таксама марак заяўляе, што я марак і хачу таксама ў марскі шпіталь, а ў яго раненне лёгкае: адарвала два пальцы і яго перапісалі і са мной прывезлі на санітарнай закрытай машыне ў Марскі шпіталь, што быў размешчаны ў цэнтральнай гасцініцы.

Прынеслі нас у нейкае паўпадвальнае памяшканне, прыёмны пакой, памылі добра і далі чай з белым хлебам і маслам. Божа мой, як я гэта еў, я, канечне, усё гэта адразу з'еў. І вось прыходзіць загадчык шпіталя, ніжэй сярэдняга росту, прысадзісты, чатыры сярэдніх на рукаве, капітан 1-га рангу, строгія вочы прыжмурвае і адразу на майго таварыша: «З якога падраздзялення?» Ён адказаў. «Якое раненне?» — «У руку, два пальцы адарвала».Вось ён і разышоўся: «Якога чорта з такім раненнем адпраўляюць у тыл? Не прымаць!» Ну, накрычаўся, крыху адышоў і адправіў усё ж такі ў палату. Потым падыходзіць да мяне: «А ты з якой часці?» Я назваў: «576-ы стралковы полк, 115-я дывізія». Вось ён і панёс: «Чаму пяхоту да нас пасылаюць, што за чорт?» Я кажу, што зараз у асноўным увесь флот у пяхоце, а я з Кранштата, з Марскога завода. Тут ён сцішыўся і пытаецца, як там справы ў Ленінградзе

і ў Кранштаце? Я распавёў, што ведаў: «Кепскія там справы, але ёсць надзея, што будзе лепш». Я ўдзельнічаў хоць і ў цяжкім, але наступленні і расказаў усё падрабязна. У гэты час прыйшлі санітары, забралі мяне каб узважыць. Важыў я 42 кг, а ў Кранштаце быў 64 кг. Страціў за 1,5 месяца 22 кг.

Начальнік шпіталя па шпітальнай мянушцы Дзядзя Федзя-кіпяток назначыў мяне ў 8-ую палату 9-га аддзялення. Яму сказалі, што гэта афіцэрская. Ён адказаў: «Я ведаю, давайце ў 8-ю». Так я трапіў у 8-ю палату. Гэта маё шчасце, што я папаў у гэты шпіталь і менавіта ў 8-ю палату. Лёс як быццам пачаў мяне аддзячваць за мае пакуты.

У 8-й палаце мяне паклалі справа каля дзвярэй, калі выходзіш з палаты. Супраць мяне ляжаў дзядзя Бора, марскі лётчык без нагі, у галаве быў Селязнёў, у яго была прастрэлена спіна ад шыі да задняга праходу. Каля акна Агееў, побач з Селязнёвым быў Ліпуноў. Якія гэта былі разумныя людзі, колькі ад іх я навучыўся жыццю-быццю. Я ім усё жыццё ўдзячны.

На перавязку кожны дзень нас насілі ў аперацыйную. Быў на перавязцы часцяком разам са мной марскі лётчык, рыжаваты, з невялікімі вяснушкамі. І вось калі пачынаюць апрацоўваць ногі, гэта значыць у тазік з цёплай вадой напусцяць марганцоўкі і пачынаюць паласкаць ступні. Гэтая боль жахлівая. Я шмат разоў траціў прытомнасць, я глядзеў на лётчыка, ён не крычаў, а толькі ўвесь твар пакрываўся потам. У яго не было двух ступней, адрэзалі. У мяне былі, толькі пальцы на левай назе адваліліся, а на правай назе пазногці. Потым пасля вайны, у наш час, прынёс сын кніжку пра наш шпіталь, пра Ваенна-марскую акадэмію, пра Дзядзю Федзю-кіпятка і пра марскога лётчыка, што лекаваўся разам са мной. Гэта быў легендарны савецкі лётчык-знішчальнік Захар Сарокін. Ён пасля шпіталя ізноў вярнуўся ў авіяцыю, лётаў на знішчальніку, ваяваў, збіў усяго 18 самалётаў ворага, атрымаў Героя Савецкага Саюза, жыў пасля вайны ў Адэсе. Які адважны, мужны чалавек. Вось з якімі людзьмі звёў мяне лёс.



Быў я ляжачым 3,5 месяцы, а затым пачаў вучыцца памаленьку хадзіць. У аддзяленні былі выдатныя медыцынскія сёстры, студэнткі Маскоўскага медыцынскага інстытута: Аня, Паліна і Жэнечка. Аня потым пайшла на фронт і атрымала Героя Савецкага Саюза. Я потым аб гэтым дзесьці чытаў. Санітарка мне запомнілася Танечка, мясцовая дзяўчына. І санітар, які мяне насіў на руках у аперацыйную, дзядзя Федзя.

Доктар, што лячыў мяне, быў добрым спецыялістам, толькі дзякуючы яго стараннасці і прафесіяналізму я хаджу ўсю жыццё на сваіх нагах. На жаль, я забыўся яго прозвішча, а імя Васіль Іванавіч. Неяк месяцы праз тры ён у чарговы раз пажартаваў, ты ведаеш Саша, а Захар ужо пачаў вучыцца хадзіць, а калі ты пачнеш. І вось увечары, калі пайшлі, тыя хто пачаў вылечвацца, у кіно, я пачаў вучыцца хадзіць. Злез з ложку і зразу стаў на ногі і нават паспрабаваў зрабіць крок, але ад дзікай болі паваліўся і страціў прытомнасць. Сястра ўчула шум, зайшла ў палату, мяне паднялі, паклалі на ложак, адкачалі і пытаюць: што з табой адбылося. Я кажу: вучыўся хадзіць. Вось тут мяне ўжо і лаялі: ці так трэба пачынаць, трэба цэлы тыдзень прывучаць ногі, апускаць іх з ложка, а потым пад наглядам медперсаналу рабіць першыя крокі. У хуткім часе я паслухаў іх парад і ў мяне атрымалася. І я ўстаў моцна на свае ногі, прабыўшы ляжачым 3,5 месяцы. Потым мне назначылі аперацыю на руцэ, сшывалі нервы, але прафесара не было і мяне накіравалі ў маі ці чэрвені ў дом адпачынку. Гэта за ракой у лесе. Там мы добра адпачылі, набіраліся сіл цэлы месяц. Затым зрабілі аперацыю на руцэ, вельмі складаную, увесь дзень быў пад наркозам і нічога з гэтага не атрымалася, рука так і не працавала. Шмат добрых сяброў у шпіталі я знайшоў, сярод іх быў Мікола Ахрэнаў, матарыст бранякатара, быў паранены ў галаву. Калі мы з ім сядалі гуляць у даміно, мы заўсёды выйгравалі. Мы разумелі адзін аднаго без слоў. Вельмі харошы быў хлопец.

Неяк зайшоў у палату начфін і пытае, хто з вас Кудраўцаў, вам трэба атрымаць грошы. Я пытаю: «Колькі?» Ён адказвае: «2300 рублёў». Я і кажу: «Вы нешта наблыталі. Мабыць, у шпіталі ёсць мой аднафамілец, я такія грошы не мог зарабіць». І начфін пайшоў. Праз некаторы час ізноў прыходзіць і давай мяне вычытваць. Потым патлумачыў, за што мне налічаны грошы. Франтавыя, палявыя… і інш. Я атрымаў гэтыя грошы, зразу падпісаўся на заем на 7 месяцаў і яшчэ засталіся грошы. Даў грошы хлопцам, тыя купілі мёду, масла і яшчэ нешта… Урач на наступны дзень убачыў парушэнне санітарнага рэжыму, і ўсё *«изъяли»*, а мне выпісалі ўдвоеную порцыю харчаванне. І вось пайшла справа на паляпшэнне.

Дзесьці ў канцы майго лячэння за два-тры месяцы да выпіскі, мяне перавялі ў палату выздараўліваючых. Гэта палата была ў тры разы большая, з выхадам на цэнтральную вуліцу горада. І мы ўвечары калі моладзь гуляла, кідалі дзяўчатам запіскі і я таксама кінуў і трэба ж так атрымацца, што маю запіску падняла дзяўчына Ніна Клюкіна, яна напісала мне пісьмо і такім чынам узнікла перапіска. Праз нейкі час мы сустрэліся, яна прыйшла ў шпіталь. Мяне рыхтавалі да выпіскі, далі інваліднасць другой групы і вызначылі месцам працы: інспектарам аблсацбеза.

Я дзесяць дзён рыхтаваўся да гэтай працы, мне далі патрэбную літаратуру. Аб гэтым я расказаў Ніне К., яна вельмі ўзрадавалася і расказала, што вучыцца ў юрыдычным інстытуце, што яе бацька выкладчык інстытута, мае вялікі дом, і можна покуль жыць у іх. Я спачатку вельмі зацікавіўся, але ў самы дзень выпіскі ўсё крута памяняў.

Сябры ўсё пыталіся: Куды паедзеш? — і вось пайшлі мы ў ленвугалок і я зачыніў вочы і паставіў палец на мапе, дзе быў горад Омск. І пайшоў я і далажыў, што я еду ў Омск. Мяне і афармілі да Омска, выдалі дакументы і вечарам павезлі на вакзал. Вопратку я атрымаў новую, флоцкую, але замест бесказыркі далі шапку, бо быў ужо кастрычнік месяц, але бесказырку мне падарылі сябры. Селі ў вагон, са мной у купэ былі хлопцы з нашага шпіталя, ехалі хто на Далёкі Усход, хто ў Сібір. І ўсе угаворвалі ехаць да іх і вось у мяне нарадзілася думка: нікуды не ехаць, а сысці на шляху дзесьці ў раённым гарадку і там прыпыніцца. Першы такі гарадок быў Зуеўка, але ён мне не спадабаўся, быў брудны. І я паехаў далей. Наступным быў прыпынак: станцыя Фаленкі. Гэта было гадзін 10 раніцы, марозец, сонца і вось цягнік стаіць 5 хвілін. Я выйшаў на перон, стаіць дзяўчына ў напалову вайсковай вопратцы, з кабурой пісталета на дзяжцы, з сумкай, ваенны паштальён.

Я кажу: «Добры дзень, Маша, а я Саша, будзьма знаёмы. Што гэта за Фалёнкі?» Яна ўсё мне расказала і запытала: «І як ты даведаўся, што я Маша?» Я кажу: «Наўгад сказаў». І хутка пайшоў у вагон, забраў свае рэчы, развітаўся з таварышамі.

Яны гаварылі: « Вар'ят, глядзі, галаву не звярні». Так я зрабіў рашучы і самастойны крок і застаўся ў Фалёнках. Як я быў удзячны Машы за ўсё, што яна зрабіла для мяне. Мы з ёй доўга сябравалі. Потым яна выйшла замуж. Я яшчэ быў малады і жаніцца не збіраўся.

## Фалёнкі Кіраўскай вобласці

У той дзень я звярнуўся ў аддзел сацыяльнага забеспячэння. Там мяне накіравалі на адпачынак у сям'ю Мікліных. Цёця Паша і жыла з ёй дачка Ліда і два сына, Мікалай і Лёня, і кватаранты. Жанчына з Ленінграда, дзве дзяўчыны з пашывачнай арцелі, і дзве дзяўчыны з дзіцячага сада, і я прыйшоў толькі адпачыць. У цёці Пашы муж быў мабілізаваны, дачка Жэня служыла ў Звенігарадзе ў зенітных войсках і сын Вася на флоце. Калі я прачнуўся ўвечары, то папрасіў застацца на ноч. Так я і застаўся у іх жыць і жыў як сын. Усё дзялілі, ніхто нікога не крыўдзіў. Жылі дружна, затым цёця Паша прыняла яшчэ адну ленін-

градку з сынам. Хата была невялікая, але ўсім месца было дастаткова. Якія гэта былі цудоўныя людзі, і я ўсё жыццё ўдзячны цёці Пашы, што яна прыняла да сябе і так добра з намі абыходзілася, як маці яна была ў нас.

Райсацбес накіраваў мяне ў арцель інвалідаў вучням бухгалтара, і вось я вучыўся да самага пачатку 43 года, і нічога путнага ў мяне не атрымлівалася. Абароткі, якія мне далі падлічваць, надакучылі, усё ў мяне не сыходзілася. І тут бедная Баранава — галоўны бухгалтар — раптоўна памерла, царства ёй нябеснае. І я прыняў рашэнне — пайду з гэтай арцелі інвалідаў. Вельмі мяне гэта вучоба і бухгалтэрыя не прыйшлася даспадобы.

Па суседству з Міклінымі жыла Валя, работніца масла-завода, якая часта прыходзіла на пасядзелкі да Мікліных, і яна аднойчы расказала, што да іх прыслалі новага дырэктара, марскога афіцэра, вось я і пайшоў пазнаёміцца з дырэктарам, а заадно і пацікавіцца наконт працы.

Прыйшоў я гадзін у 10 раніцы, і сустрэў дырэктара Якава Абрамавіча Чэпелева, добра знаёмага мне па шпіталю. Мы абняліся, расцалаваліся і прагаварылі з ім амаль дзень, крышку выпілі дзеля сустрэчы. Потым я кажу, што мне бы ў Вас добра б уладкавацца на працу, а ён адказвае, што ты ўжо працуеш і паказвае кнігу загадаў, дзе я ўжо залічаны інспектарам па загатоўках. Так я пачаў сваю новую работу.

Працы было вельмі шмат, будавалі сушылку для сушкі бульбы для фронту. Я выконваў самыя адказныя даручэнні, вазіў піламатэрыялы за 30 км з піларамы. Мне выдзялялі падводы з лагера, дзе былі немцы з Паволжжа. Яны дарэчы вельмі дзелавыя людзі, і вось на конях туды, 30 км, заедзем за адзін дзень, нагрузім піламатэрыялы і на наступны дзень назад. Немцы з Паволжжа мяне слухалі, паміж сабой размаўлялі па-нямецку, а са мной па-руску. Прыедзем, разгрузімся і назад. Так некалькі разоў. Да сезона загатоўкі бульбы збудавалі сушылку. Патрэбна была вогнеўпорная гліна, якую ўдзень з агнём не знойдзеш. Мне даручана было знайсці 2 кг ляпісу, якім у цырульнях прыпальваюць ранку, калі парэжуць пры галенні. Я аб’ехаў некалькі гарадоў, не менш 30 цырульняў і ўсё ж такі дастаў ляпіс.

І так завод працаваў летам на малацэ, вырабляў масла, тварог, казеін, у асноўным малочнымі вырабамі забяспечвалі на разнарадцы шпіталь, ваеннапалонных немцаў, якіх кармілі, дарэчы, лепш чым нас. Зімой усю зіму сушылі бульбу. Акрамя нашаму заводу да нас дастаўлялі сушаную бульбу з Улей і Белі, двух раёнаў з глыбінкі Кіраўскай вобласці, дзе не было чыгункі і ўсе гэта я прымаў і загружаў і адпраўляў вагоны на фронт.

Калектыў на заводзе быў невялікі, але вельмі дружны, у асноўным жанчыны і дзяўчаты. На заводзе быў адзін конь, з ёй ўпраўляўся вартавы, дзед Сільверстаў, былі два ці тры цесляры інваліды-франтавікі, была нам. дырэктара Ягадкіна, яна ж і партарг. Працавалі шмат і дружна. Дастаткова сказаць, што калі прыходзіў вагон, то першая даведвалася работніца, што жыла побач з станцыяй, і зразу брала санкі ручныя і па дарозе перадавала другой работніцы, і так па ланцужку, покуль прыйдуць дальнія, першыя ўжо загрузілі свае санкі, і так усе дружна на працягу двух гадзін завозілі і загружалі вагон. Усім гэтым мне прыходзілася кіраваць і не было ні аднаго выпадку, калі б мы за дзве гадзіны не загрузілі вагон ці прапаў хоць адзін мяшок з сушанай бульбай.

Лёд загатоўвалі шляхам намарожвання, палівалі ваду, яна замярзала, і ўтвараўся суцэльны маналіт. У летнія месяцы мне прыходзілася ездзіць па калгасам па загатоўцы малака. І вось якія абставіны мне запомніліся. Прыехаў я ў калгас падчас жніва, вёска галадае, старшыня даў калгаснікам па 50 кг зерня, яго тут жа арыштавалі і далі 10 год. Другі выпадак, вясной на пасяўную заехаў я ў калгас, сядзіць старшыня без нагі за сталом і плача.

— Чаму вы плачаце?

Ён адказвае:

— Як жа не плакаць? Было 18 коней. 10 лепшых забраў ваенкамат для фронту. Як без коней можна правесці пасяўную? Узараць, пабаранаваць, пасеяць?

Вось такое жыццё было ў тылу. Пахаванкі, плач па вёсках. Але народ быў вельмі гасцінны і ветлівы.

— Зайдзі, служывы, раскажы, што чутно на фронце. Выпі кваску, пасядзі, пакуры.

Я тады, праўда, яшчэ не курыў. Народ быў вельмі добразычлівы.

На заводзе працавалі майстрам Ліда Кісліцына, па мужу Канавалава. Валя Мамонкіна лабарантка, усе яны і рабочыя вельмі добра адносіліся да мяне. Улетку іншы раз знаходзілі трошкі часу на паляванне, дырэктар быў вельмі вялікі аматар палявання і рыбалкі. Вось тут і я далучыўся да курэння. Дырэктар Якаў Абрамавіч, марскі афіцэр, я яго вельмі паважаў, казаў мне: «Што ты за мужык, калі не курыш?»

Вось я і чхаў, і перхаў, паліць крыху прывык, і рабіў гэта дзеля балаўства. Гэта была адзіная кепская парада з боку Якава Абрамавіча Чэпелева, а так ён чалавек разумны і добра выхаваны.

Неяк у 1943 годзе я з газет даведаўся, што вызвалілі маю радзіму Дрыбін. Я паслаў пісьмо і мая сястра атрымала яго, яны былі эвакуіраваны з Дрыбіна ў Мсціслаўскі раён. Яна паведаміла адрас малодшага брата Міхася, які знаходзіўся ў дзеючай арміі. З той пары ўсталявалася у нас перапіска.

Я вельмі сумаваў па Радзіме, яшчэ ў шпіталі напісаў верш: «Беларусь родная, ты крывёй паліта ўся, слёзы цякуць з вачэй, як успамінаю пра цябе…»

Я вырашыў паехаць на Айчыну, дырэктар сказаў: «Добра. Я таксама хутка паеду ў свой Бранск».

## Першае вяртанне на Радзіму

Я даведаўся, што рыхтуецца ад'езд эвакуіраваных у Смаленскую і Маскоўскую вобласці. Я таксама запісаўся і нас сабралася чалавек 30 і вось усе мы чакалі ад'езду, а нас усё не адпраўлялі. З тыдзень чакалі і трэба было так здарыцца, калі я зайшоў у чарговы раз да дырэктара, іду на вакзал і бачу, пайшоў цягнік і наш вагон, ззаду расчынены дзверы, пайшоў, шукай ветру ў полі. Усе мае пажыткі паехалі. Наступны цягнік быў з танкамі і прыпыніўся на станцыі, я ледзь угаварыў вартаўніка і ён схаваў мяне пад брызент і такім чынам дабраўся да Кірава, а там на трэці дзень сустрэў свой цягнік і паехаў з імі да Смаленшчыны. Праўда на забеспячэння я ўжо не трапіў, прадаў свой гармонік і яшчэ нешта і закупіў харч.

Тыдні праз два мы прыехалі на Смаленшчыну, г. Дарагабуж ст. Сафонава. Смаленск яшчэ быў у немцаў і далей цягнік не хадзіў і вось у гэты час нас крыху прабамбілі і вырашыў далей не ехаць, застацца ў Сафонава. Стаў працаваць дырэктарам клуба, а начаваў у гасцініцы — гэта быў звычайны сялянскі дом. У гэты час прыехалі франтавікі, разгаварыліся.

— Адкуль?

— З фронту.

— А я еду ў Дрыбін.

— Мы толькі адтуль прыбылі.

Яны пачаставалі мяне салам. Сала ў тыя часы было дэфіцытам і вельмі смачным.

— Дарэмна ты тут прышвартаваўся.

Я зразу раніцой пайшоў зняўся з уліку. І давай рухацца ўперад, дабраўся да Пачынак, а адтуль пешшу і праз Хіславічы ў Мсціслаў. Са мной яшчэ адзін марак з кульгавай нагой, яму да Хіславіч. Вось мы ўдвух кульгавыя і пайшлі раніцой і прайшлі 10–12 кіламетраў, нас наганяюць вайсковыя машыны. 150 машын прайшло і ніхто не ўзяў, прыпынілася ваенная эмка і афіцэр папярэдзіў, каб мы не падымалі рук, усё-роўна гэтыя машыны не возьмуць. Вось мы ідзём далей, страцілі ўсё надзеі і раптам едзе палутарка, мы бутэльку з рэчмяшком узнялі, трымаем. Шафёр прыпыніўся, вылез з машыны і смяецца:

— Ну хлопцы, вы мяне рассмяшылі з сваёй бутэлькай. Куды вам?

— У Мсціслаў.

— І я туды еду. Сядайце.

Праехалі яшчэ кіламетраў 20, падабралі па дарозе дзяўчыну і прыпыніліся ў невялічкай вёсцы. Купілі малака, бутэльку самагонкі, селі і добра паснедалі і ўперад добра даехалі. Таварыш мой злез у Хіславічах, а мы з дзяўчынай паехалі да Мсціслаўля. Я быў апрануты ў марскую форму і ў бесказырцы. Было лета, цёпла і вось калі ехалі па Мсціславу, мяне заўважылі. Я дадому родным выслаў фотакартку, па ёй мяне пазналі дваюрадная сястра Фруза і з ёй Вольга Сафонава. Машына прыпынілася і мы злезлі з машыны. У гэты час падыходзяць сястра Фруза з Вольгай, мы абняліся і накіраваліся ў вёску Банькаўшчына, куды нашы эвакуіравалі, бо ў Дрыбіне стаяў фронт. Вёска невялікая, я сустрэў сястру Аню і мачаху, а таксама цёцю Просю і іншых сваякоў.

У доме было чалавек 30 не менш, калі клаліся спаць, то не было дзе нагу паставіць — усё занята. Пажыў я так дні два ці тры, пахадзіў па вёсцы, усюды гоняць самагон. У нядзелю пайшоў у горад Мсціслаў на рынак і вось захацелася мне піць, я кажу: «Дзе б гэта вады напіцца?» Цёця Прося гаворыць, што пойдзем да святара, там вада добрая. І вось покуль я піў ваду, каля царквы жанчыны шушукаліся. Я запытаў цёцю: «Чаго яны хочуць?» Яна адказвае: «Жанчыны хочуць прасіць цябе ахрысціць дзетак». Я кажу, што камсамолец і таму не магу. Цёця мяне ўсё ж такі ўгаварыла, што табе ад цябе ўбудзе, зробіш добрую справу людзям, пагуляеш з дзяўчатамі, і людзям і табе будзе добра. Я згадзіўся і ахрысціў аж 5 дзяцей, пасля чаго крыху выпілі, пагулялі і вось увечары, бачу ізноў жанчыны шушукаюцца і на мяне пазіраюць. Я пытаюся, што яны ізноў хочуць. Мне адказваюць, што дамаўляюцца, калі хрэсьбіны будуць гуляць. Вырашылі, што ў наступную нядзелю на лужку ўсе збяромся і згуляем хрэсьбіны. Не ведаў я тады, што гэтага не будзе, і ў той час я буду ляжаць на нарах у г. Крычаве на перасыльным пункце. Але аб гэтым потым.



Паглядзеў я на жыццё-быццё эвакуіраваных і пайшоў уладкоўвацца на работу, зайшоў у райком камсамола. Яны са мной вельмі добра пагаварылі, патэлефанавалі і накіравалі ў райвыканкам. Там са мной таксама ўважліва і пазітыўна паразмаўлялі, распыталі, завялі да адказнага кіраўніка, які прапанаваў мне пайсці працаваць старшынёй сельскага савета. Я згадзіўся і пайшоў пасля гэтага станавіцца на ўлік у камсамол, у пашпартны стол, і ў ваенкамат, хаця быў тады інвалідам ІІ-й групы. Але тады быў такі закон і трэба было станавіцца на ўлік.

У ваенкамаце мяне прынялі і зразу ж выпісалі павестку, прызвалі ў армію на працоўны фронт. У мяне ў дакументах значылася спецыяльнасць токара, у той час на токараў быў вялікі попыт і мной заткнулі на паперы дэфіцытную графу. Па маладосці я зрабіў грубую жыццёвую памылку. Мне трэба было звярнуцца ў райвыканкам, а я гэтага не зрабіў.

Вярнуўся назад «дадому» з павесткай, родныя канечне паплакалі, але нічога не зробіш - вайна была ў разгары, і я накіраваўся праз два дні ў ваенкамат. У той час быў прызыў белабілетнікаў і сабралася нас чалавек 70. У асноўным гэта людзі пажылога ўзросту, інваліды, страявы кантынгент у нас даўно прызвалі, як толькі вызвалілі нашу мясцовасць, і ўжо ішла падчыстка мужчынскага насельніцтва, інвалідаў. Нашу каманду называлі «кілаватая каманда», усе людзі ўзростам за 50 год. І вось я сярод іх, мне тады было 21 год.

Пасля гэтага нашу каманду накіравалі ў г. Крычаў на перасыльны пункт, будынак цагельны, каля вакзала. Да нашага строю падышоў маёр і запытаў: «Як ты сюды трапіў?» Я адказаў. Ён паківаў галавой і нічога не сказаў. Прабылі мы ў Крычаве доўга, з тыдзень, а можа і болей, і я даведаўся ад «купцоў», да якіх нас прызначылі, што мы паедзем на Урал у Молатаўскую вобласць, г. Чусавая на завод. Я ведаў, што ў Кіраўскай вобласці, а гэта суседняя, у той час былі цяжкасці з харчаваннем. Бульба ў Кіраўскай вобласці каштавала 60 рублёў адзін салдацкі кацялок. Я землякам патлумачыў, іх шмат было ў нашай камандзе, што да чаго. У Крычаве тады вядро бульбы каштавала 30

рублёў. Мы прыкінулі, дамовіліся з нашымі камандзірамі, каб закупіць бульбы, загрузіць у вагоны і завезці на Урал.

У мяне асабіста грошай ніякіх не было, і я так сказаў сваёй камандзе: «Вашы грошы, каштоўнасці, гадзіннікі, нават пярсцёнкі і іншае, а мая ініцыятыва і кіраўніцтва справай». Выбралі 30 чалавек аўтарытэтных людзей і пайшла праца. Мы закупілі 18 тон бульбы ў мяшках па 30 рублёў за вядро. Загрузілі ў вагон. Праз некалькі дзён нас адправілі праз Малы Яраславец на Маскву. А там далей на Урал. Ехалі мы вельмі марудна, прапускалі цягнікі з войскамі, з танкамі, з салдатамі, з штрафнымі ротамі. Усё ішло без затрымкі на фронт, а мы паўзлі калі быў вольны шлях.

Быў такі выпадак у Малым Яраслаўцы — станцыя ёсць такая пад Масквой. Нас паставілі на станцыю ў тупік, а насупраць нашых вагонаў стаялі вагоны з арыштантамі. І вось праз краты глядзіць на мяне малады маіх гадоў хлопец. Я разгаварыўся з ім.

— Як гэта цябе такога маладога і прыгожага патрапіла трапіць за краты?

Ён адказвае:

— Я з Гомельскай вобласці, вёска выбрала мяне паліцэйскім. У армію я не паспеў прызвацца. Пасля паліцыі я збег у партызаны. І калі нас вызвалілі, мяне ўпяклі на 25 год і жыццё маё прапала.

У гэты час падыходзіць вартавы, з паўднёвых людзей, не з нашых, і ўдарыў бізуном зняволенага. У яго з твару пырснула кроў, ён схапіўся за твар, і праз рукі ў яго цякла кроў. Мо вока выцекла, а можа моцна рассек твар. Я кажу вартавому:

— Што ты робіш, табе месца толькі на жывадзёрні, гэта ўсё ж такі чалавек, а ты здзекуешся.

Ён замахнууся на мяне, але не ўдарыў. Магчыма спалохаўся майго выгляду, я яму тады сказаў:

— Толькі зачапі. Задушу на месцы, як сабаку.

Штрафную роту везлі на фронт, стаялі побач вагоны. Гэта бывалыя маладыя мужчыны, усе голеныя, спяваюць,



граюць на гітары, гармоніку. Пляскі, вясёлыя, мужныя людзі.

Чаго толькі не бачылі за доўгую дарогу. Звычайны чалавек толькі дробны вінцік у гэтым велізарным і страшным млыну вайны з сваімі жорсткімі і бязлітаснымі законамі.

Ехалі праз мае дарагія Фалёнкі, выходзіў на станцыі, бачыў знаёмых, размаўлялі, перадаваў прыветы. Трэба было столькі цяжкасцей пераднацаць, каб вось праз нейкіх паўтары месяцы ізноў апынуцца ў Фалёнках. Сядзеў бы, працаваў да канца вайны, а там бачна было б. Вось глупства да чаго даводзіць, вельмі ж хацеў пабачыць свае родныя мясціны і сваіх родных.

## На Урале на абаронным заводзе

У горадзе Чусавой мы прыехалі з раніцы, нас павялі на завод. На заводзе пастроілі, мясцовае насельніцтва ўжо ведала аб нашым прыездзе і хацела паглядзець на здраднікаў Радзімы.(Іх нехта так інфармаваў.) І вось падыходзіць адзін малады чалавек, бярэ мяне за падбароддзе і гаворыць: «А ты за колькі грывенікаў прадаў Радзіму?»

Я нічога не гаворачы ў адказ з правай рукі (яна ў мяне тады была моцнай) умазаў яму прама ў твар. Ён паваліўся, цяжка мне было б, калі б не прыйшло у гэты час начальства. Маглі б уральцы забіць, але абышлося, начальства растлумачыла і ўлагодзіла нас. Потым мы з гэтым хлопцам былі вялікімі сябрамі. Я ў яго быў некалькі разоў дома, ён быў вельмі добры чалавек, і наогул, уральцы людзі вельмі станоўчыя, добразычлівыя, строгія, нічога не шкадуюць для іншых. Яны мне вельмі спадабаліся. Шкада, забыўся прозвішча тога хлопца-сябра, у армію яго не ўзялі, у яго была з дзяцінства нага кульгавая.

Працавалі мы на заводзе па выпуску снарадаў. Дысцыпліна была ваенная. За такарнымі станкамі падлеткі па 15–16 год, жанчыны. Выкананне нормы — закон. Хто не

выконваў норму — таго пазбаўлялі стаханаўскага пайка. Гэта значыць чалавек не атрымліваў другое блюда. Без другога блюда з катлетай, на цяжкай працы чалавек хутка выбіваўся з сіл. Калі нехта, асабліва ў пачатку месяца страчваў харчовыя карткі, гэта азначала хуткую смерць. Звычайна людзі аслабеўшы самі ішлі на могілкі, дзе і паміралі.

Аднойчы ў сталоўцы падышоў да мяне чалавек і ўзяўшы за сківіцу прамовіў па-катрушніцкі*: «Дзесьці бачыў я гэтую дрыбінскую морду». Кавалёў быў земляком з Дрыбіна, ваяваў, быў паранены. Ён аказаў вялікі ўплыў на мяне. Ён потым часцяком мне казаў: «Мы сваё адваявалі і сёння павінны вучыцца. Ты павінен атрымаць сярэднюю адукацыю, потым закончыць юрыдычную школу, уступіць у партыю. Пасля вайны мы павінны заняць кіруючыя пасады».

Дзякуючы яму я скончыў 9 класаў вячэрняй школы і стаў кандыдатам партыі.

Іншым разам, калі планы па выпуску снарадаў пачыналі не выконвацца, праводзіліся мітынгі, яны бывалі звычайна не больш пяці хвілін. Прадстаўнік Стаўкі гаварыў на мітынгу:

— *Красная Армия ведёт ожесточённые кровапралитные бои з немецко-фашистскими войсками на всех фронтах от Балтийского до Чёрного моря. Красной Армии как воздух необходимы снаряды….*

Патрыятызм сярод рабочых завода і наогул у далёкім тылу быў велізарны. Моладзь рвалася на фронт. Пажылыя, асабліва сямейныя, трымаліся за бронь, якую давалі толькі спецыялістам без якіх завод не мог працаваць.

---

* У Дрыбіне была моцная рамесніцкая шапавальская суполка, якая мела сваю прафесійную мову.



## Заканчэнне вайны і вяртанне ў Дрыбін

Канец вайны, перамогу мы сустрэлі ноччу. Хто гэту вестку прынёс у гуртажытак, я ўжо не помню, але ўключылі рэпрадуктары, якія паведамілі аб заканчэнні вайны, казаў Левітан.

Што тут было, нельга не апісаць, ні расказаць. Спачатку ўсе падняліся і пачалі кідацца падушкамі, потым апрануліся, ужо пачало днець, людзі выходзілі на вуліцы. Мяне накіравалі ў прафкам за талонамі на гарэлку. Адны плачуць, іншыя спяваюць, нехта штосьці крычыць. Гадзін у 8–9 народ пайшоў валам на завод, на завадской плошчы ўзнік мітынг, народ радуецца, гучыць музыка, танцы, горад гудзіць, шуміць.

На наступны дзень крыху прыціхлі народныя ўрачыстасці. Цэх пачаў выконваць новы заказ, пачалі вырабляць ложкі, звычайныя металічныя «кровати». Пачалі паціху адпускаць дадому.

У пачатку ліпеня мне далі водпуск дадому ў Дрыбін, і я пачаў памаленьку рыхтавацца. Хтосьці з знаёмых сяброў даў мне два ці тры вядры соды пітной, яна вельмі дарагая ў Беларусі была, 50 рублёў адна шклянка, а на Урале яе хапала, побач з Чусавой у Беразніках яе здабывалі.

Вось я накіраваўся дадому у водпуск, меў два чамаданы, рэчмяшок з содай і палявая сумка. Дарога была вельмі цяжкая, чацвёра сутак да Масквы я амаль не спаў. З Масквы да Оршы таксама лягчэй не было. І вось у Оршы я зайшоў з рэчамі ў пакой для адпачынку для інвалідаў Айчынай вайны. І тут я страціў пільнасць і заснуў мяртвецкім сном. Прачнуўся я гадзін у 9 раніцы наступнага дня і ўбачыў, што мае рэчы ўкрадзены, засталася толькі сода ў рэчмяшку, грошай 300 рублёў у кішэні на дробныя расходы. А галоўныя грошы каля 3000 рублёў і дакументы ўкрадзены, а таксама два чамаданы, палявую сумку і шынель, якой я быў накрыты. Потым палявую сумку

прыбіральшчыца знайшла і перадала ў чыгуначную міліцыю. На аснове гэтага мне далі ў чыгуначная міліцыя даведку, што мяне абакралі, у палявой сумцы захавалася пенсійнае пасведчанне ІАВ. Каля вакзала на таўкучцы я прадаў некалькі дзясяткаў шклянак соды па 50 рублёў за шклянку, закупіў хлеба і яшчэ тое-сёе і накіраваўся на цягнік Орша–Унеча да маёй станцыі Цёмны Лес. Канечне без білета, білетаў тады без дакументаў не давалі. Удзень я прыехаў на станцыю Цёмны Лес, са мной было некалькі спадарожнікаў. Да Дрыбіна 10 км. прайшоў пешкам на кульгавых нагах. Праз некалькі гадзін дайшоў да Дрыбіна.

Мая Радзіма, дзе я не быў з 1940 года. Здаецца праляцела цэлая вечнасць.

Дрыбіна, такога прыгожага да вайны, ужо не было! Не было прыгожых двух азёраў, не было дамоў, засталося там-сям 10 хат. Астатняе — зямлянкі і бур'ян на вуліцах. Дзевяць месяцаў стаяў фронт каля Дрыбіна на рацэ Проня і ўсё жывое, і ўсе будынкі былі знішчаны.

Мая мачаха і сястра, як я ўжо пісаў, былі эвакуіраваны ў Мсціслаўскі раён. І вось я падышоў да свайго доміка, стаіць мая хатка, памерам 3х2х1,2 м., сустракае мяне мачаха Домна Нікіфараўна і яе сястра Анастасія, брат мой Міхась яшчэ служыў у арміі, сястра працавала ў Оршы на льнозаводзе. З дарогі мяне пачаставалі, што было, я лёг і заснуў, раніцой узняўся. Мачаха пачала расказваць пра іхняе жыццё-быццё. Есці не было чаго. Трэба ж было так здарыцца, што за суткі да майго прыезду забралі карову, якую брат Міхаіл купіў да вайны, і якая карміла сям'ю і ў эвакуацыі таксама і вось забралі.

Удзень хадзіў па вёсцы, сустрэў аднакласнікаў Івана Слабодзіча, Валодзю Слабодзіча і іншых франтавікоў. Дамовіліся ў суботу зрабіць вечарынку ў адным з пяці застаўшыхся дамоў у вёсцы Стара-Дрыбін. У суботу сустрэліся на вечарыне, нехта прынёс гармонік, бубен, сабралася шмат дзяўчат. Нехта здабыў выпіўку.

Пагаварылі, хто застаўся ў жывых, хто інвалід, хто загінуў, карацей падрахавалі вынікі вайны. Налічылі мы 764 чалавекі загінулых у Дрыбіне, жывых, акрамя дзядоў, мужчын 124 чалавекі, у тым ліку інвалідаў 96 чалавек. У нашай вялікай сям'і, быў я інвалід, пазней вярнуўся параненым брат Міхась. У цёткі Каці тры сына: Віктар, Даніла і Васіль загінулі, у цёткі Веры сын Парфір, камандзір батальёну, паэт (пісьма пісаў дадому і мне, выключна ў выглядзе вершаў), умніца, здаравяк, загінуў. У цёткі Просі сын Шура загінуў, у цёткі Ірыны муж і сын загінулі. Карацей з радні засталося чалавек 100, у асноўным жанчын, дзядоў, інвалідаў 15–18 чалавек, астатнія загінулі. Якая прыгожая царква была ў Дрыбіне — спалілі, усе масты ўзарваны, у азёрах вада спушчана, няма нічога, голае месца, бур'ян, жах, кашмар, слёзы, гора, бяда, голад!

Пачалі расказваць хто, дзе і як ваяваў. Я быў адзін у флоцкай форме і мне, я бачыў зайздросцілі, асабліва падлеткі да мяне ветліва і лагодна адносіліся. Танцы былі ўсё ж такі цудоўныя. Кадрыль танчылі, так, што мне і яшчэ Ваню і Валодзю прыйшлося два калены ў двух партыях адтанчыць. Калі скончылі, то з гімнасцёрак, а ў мяне з фланеўкі і з цяльняшкі прыйшлося выжымаць пот.

Танчылі дацямна. Увечары мне сказалі, што ідуць каровы і паказалі на нашу карову, якую забралі. Я папрасіў падлеткаў загнаць яе да нас у двор, што і было зроблена. Мачаха вельмі баялася і не хацела даіць, але я прымусіў. Позна ноччу да нас прыйшла брыгада, «актыў» 5 чалавек і ўгаворвалі, каб я добраахвотна аддаў карову ў калгас. Я, канечне, прагнаў іх. Гэта «брыгада» не ваявала і захавала сябе ў эвакуацыі. Партбілеты свае яна схавала і некаторыя «актывісты» жылі пры акупацыі, і ў той час дзіўна, што ім ніхто не адпомсціў за іхнія дзеянні падчас калектывізацыі.

Як потым мне расказвалі землякі і родныя, не без іх садзейнічанне мяне пры першым прыездзе ў Мсціслаў, не даўшы пабыць тыдзень, накіравалі на Урал. Яны, напэўна, баяліся, што марачок з Кранштата, інвалід вайны давядзе да ўлады іхнія дзеянні падчас вайны. Наогул, я не меў такіх планаў, калі мне гаварылі, як хто вёў сябе пры немцах, я імкнуўся менш усяго цікавіцца гэтымі

справамі і не ўмешвацца. Пражыты досвед сведчыў, што пэўныя органы ведаюць значна больш, чым сцвярджаюць вясковыя плёткі. Таму, я адчуваў, што гэта не мая справа, ёсць, як цяпер кажуць «кампетэнтныя органы», то яны няхай і разбіраюцца.

Аднойчы, калі прыйшлі сваякі арыштаванага паліцая, каб нашы падпісалі, што ён быў «харошы», мачаха запытала, што мне рабіць, падпісваць ці не? То я так ёй адказаў: «Калі не забіваў людзей, то падпішы. Калі забіваў, то не падпісвай». Яна адказала, што той забіў двух салдат— акружэнцаў. Тады я забараніў ёй падпісваць прашэнне аб памілаванне.

У перыяд майго маленькага водпуску я пабываў у гасцях у дзядзькі Мікіты. Гэта быў вельмі добразычлівы чалавек. Вытапіў баньку, памыліся, добра пагаварылі, пачаставаў, чым быў багаты. Ён вельмі перажываў за свайго зяця грузіна, які загінуў на фронце і засталіся ў яго дзве дзяўчынкі, унучкі дзядзькі Мікіты.

Быў я ў гасцях і дзядзькі Яўмена, малодшага брата майго бацькі. І вось я дзядзьку сустрэў на яго двары, ён у гародзе штосьці рабіў. Я ў флоцкай форме, дзядзя сказаў: «Пасядзі, я пайду памыюся і пераапрануся».

І вось праз некаторы час выходзіць дзядзька Яўмен, вусы ўверх, гімнасцёрка, а на гімнасцёркі мноства медалёў. Вось гэта здорава, вось гэта дзядзька, а ў мяне ні адной узнагароды. Накрылі на стол, і мы прадоўжылі за сталом размову.

Я запытаў:

— Дзядзька, як жа так атрымліваецца, у калгас ты не пайшоў? Савецкую ўладу ты лаяў. Камуністаў ненавідзеў, а ў жыцці так актыўна абараняў іхнюю ўладу, што поўныя грудзі ўзнагарод.

Ён мне адказаў так:

— Калі прыйшлі немцы ў Дрыбін, я быў у Дрыбіне, ішоў да сястры Усціні, тваёй цёткі. І вось насустрач немцы на матацыклах з аўтаматамі, у касках, рукавы закасаны. І ў гэты час ішла побач жыдовачка з дзіцяткам на руках.



Немцы акружылі яе і крычаць «юдэ», вырвалі дзіцятка з рук і тут жа на маіх вачах ударылі аб слуп галавой, а маці застрэлілі. У мяне ў вачах стала цёмна. Я ледзь дайшоў дадому, вельмі доўга перажываў, як так можна абыходзіцца з людзьмі, гэта горш звярэй. У той жа дзень мяне выбралі старастам, толькі мяне ўжо дома не было. Я сышоў з Дрыбіна і жыў у брата жонкі. Усю вайну працаваў у яго гаспадарцы, наведваўся дадому, потым выбралі старастам Марка Мацейкіна і пра мяне забыліся. Потым прыйшлі нашы, мяне ўзялі ў дзейнічаю армію, быў санітарам.

Аднойчы быў такі выпадак: супраvаджалі мы раненых, гэта было ў Польшчы, і трэба ж было так здарыцца, што мы трапілі ў палон да белапалякаў Арміі Краёвай. Прывялі нас 12 чалавек да іх лагера. Стаяць палякі з палкамі, глядзяць варожа. Я тут змікіціў і гучна так кажу: «Вось хлопцы, а мы не верылі, што казаў камісар-жыд, што калі трапім у палон да белапалякаў, то яны паб'юць нас палкамі. А калі трапім да палякаў людовых, то яны пакормяць і адпусцяць. Дарэмна мы не паверылі жыду-камісару. Вось нам зараз і капец».

Палякі сабраліся, нешта між сабой пашушукаліся, пакідалі палкі, накармілі нас і адпусцілі. Калі мы прыйшлі ў сваю часць, салдаты расказалі камандзірам аб здарэнні, і мяне за знаходлівасць узнагародзілі.

Цікавая сустрэча была з дзядзькам Яўменам.

Пасля выхаднога дня я накіраваўся ў Расну, там быў райцэнтр і раённае начальства. Гэта 10 км ад Дрыбіна, а хворыя ногі мае моцна балелі. У Расне я сустрэў аднакласнікаў Забалоцкага і Пратасенка і другіх, што ўладкаваліся служыць у міліцыю. Жылі яны на казарменным становішчы. Выгляд у іх быў змрочны: у памятых галіфэ, у гімнасцёрках без дзягі, басанож. Я там прабыў некалькі гадзін, успомнілі аднакласнікаў. Затым яшчэ зайшоў туды-сюды і мяне адшукалі райкамаўскія і запрасілі мяне ў райком. Я згадзіўся і пайшоў у райком, там са мной добра і пазітыўна паразмаўлялі, распыталі. Пасля я там яшчэ крыху пабоўтаўся і пайшоў дадому ў Дрыбін.

Па дарозе мяне наганяе легкавая машына. Я думаю: «Вось добра — гэта едуць на сход наконт каровы і мяне падвязуць». Калі машына нагнала мяне, я падняў руку, але машына абдала пылам і не прыпынілася. Ногі балелі жахліва, было крыўдна да слёз, я даў сабе слова на сход не ісці, і нікога дома не прымаць, а заўтра ізноў ехаць на службу на Урал, а ім паказаць дулю.

Такім чынам мая другая сустрэча з Дрыбінам, любімым горадам, скончылася адмоўна. Да вайны была такая песня:

> Пройдут, товарищ, все бои и войны,
> не зная сна, не зная тишины,
> любимый город другу улыбнётся,
> знакомый дом, зелёный сад, и нежный взгляд.

Не прыняў мяне мой родны Дрыбін, не было і знаёмага дома і зялёнага сада. Як я цяпер разумею, сам горад і ягоныя жыхары былі пасля вайны ў жахлівым панішчаным стане.

Між тым хачу крыху паразважаць. Як жа так? Савецкая ўлада разграміла ў 30-х гадах маю сям'ю, мая родная матуля памерла ў 43 гады, разбураны матэрыяльна і панішчаны духоўна мой бацька памёр у 54 гады. Мы, тры браты: старэйшы брат Афанасій — дабраволец, танкіст, змагар за Іспанію, памёр ад ран у 1941 годзе. Малодшы брат, франтавік, быў паранены, пасля вайны за дробязь, даў аплявуху капітану міліцыі, прыйшоў з турмы і ў 1949 годзе і памёр, пакінуўшы дачку Леначку 3-гадовага ўзросту. Я стаў інвалідам у 1941 годзе на ўсё жыццё. Чаму ж дзяржаўная машына такая неразборлівая, чаму яна так бесчалавечна расправілася з маёй сям'ёй, з маімі роднымі.

Але калі мой малодшы брат Міша дзесьці ў 1938 годзе прыехаў у водпуск (ён быў сынам палка ў Смаленску, дзе служыў старэйшы брат Афанасій), то калі мы ехалі з ім у лес па дровы, і я пачаў скардзіцца на жыццё і штосьці кепскае сказаў пра Сталіна, то імгненна атрымаў ад яго аплявуху. І ён сказаў: «Яшчэ скажаш пра Сталіна кепска, дам болей і мацней».



І вось калі я прыехаў на Радзіму, шмат знаёмых і сваякоў казалі, што мы ўжо і не чакалі вас, думалі, што будзем жыць астатняе жыццё пры немцах. Я тады ім казаў і гаварыў абсалютна шчыра: «Я і мае таварышы, жывыя і мёртвыя, ніколі, ні пры якіх складанасцях і цяжкасцях, не мелі думак, што мы не вызвалім сваю Радзіму. Чаму ж такія адносіны да нас з боку Савецкай улады, чаму ж яны карыстаюцца ў «актыве» паслугамі падхалімаў, прыстасаванцаў, людзей хцівых, ілжывых, а не сапраўдных патрыётаў сваёй Айчыны? Чаму мы зрабіліся мацней, калі немцы падышлі да Масквы і Ленінграда і страцілі 70 % кадравай арміі і ўзбраення? Чаму на варожыя дзоты прыйшлося гнаць кепска ўзброеных і знясіленых салдат? Адказ я знайшоў адзін. Нашы правадыры мелі ў сваім «актыве» ў большасці малаграматныя, маральна нявыхаваныя кадры, якія ў складаных экстрэмальных умовах на мяжы жыцця і смерці, часта не знаходзілі прафесійнага выйсця. Частка іх ператваралася ў прыстасаванцаў, падонкаў, здраднікаў. З-за сваёй малаграматнасці мы дорага заплацілі ў вайну, плацілі пасля вайны, і плацім сёння за тое, што ў «актыве» паслухмяныя кадры выдрэсіраваныя толькі слепа выконваць загады і ўказанні начальнікаў. Яны не бачаць відавочных рэчаў, баяцца і не ўмеюць узяць адказнасць на сябе. Шкурнікі, хапугі, смецце заўсёды ўсплывае наверх. Калі пасля першых сакрушальных паражэнняў частка «смецця» здалося ў палон, збегла, было расстраляна і да руля прыйшлі адказныя патрыёты, справы ў вайне пайшлі лепш».

Можна было б казаць па гэтаму пытанню доўга, але я караценька характарызаваў з пункту погляду шараговага салдата.

Такім чынам я паехаў з Дрыбіна, заехаў да сястры ў Оршу, паглядзеў на яе жыццё, цяжкае, халоднае і галоднае. Памагчы я ёй, на жаль, нічым не мог, сам быў у такім становішчы. Яна вельмі абрадавалася майму прыезду. І я пайшоў на станцыю і паехаў на Маскву, а там на Урал.

## Вяртанне на Урал

Білета, канечне, я не мог купіць, бо ў мяне былі ўкрадзены пашпарт і пропуск, без якіх у тыя часы білеты не прадавалі. Да Масквы я неяк дабраўся. Прапусціла мяне міліцыя і на перон, хаця ў мяне не было білета. На перона я адшукаў цягнік Масква-Уладзівасток і ўладкаваўся ў тамбуры. І трэба ж мяне замяла ў вагоне міліцыя, запрасілі ў вагон, дапыталі, пагледзелі мае даведкі і загадалі класціся на полку і покуль чакаць. Так я дабраўся да горада Уладзіміра, добра выспаўся. І тут мяне заўважылі матросы, якія ехалі з Масквы да Уладзівастока, забралі мяне ў свой вагон, прынялі ў сваю кампанію. Я быў у флоцкай форме. Там ад іх я даведаўся, што ў той дзень быў Парад Перамогі. Вось чаму так лёгка мне было праходзіць і праязджаць. З маракамі я вельмі камфортна і весела даехаў да Пермі, усю дарогу спявалі песні. Яны мяне добра частавалі, марское брацтва яно заўсёды жывучае. У Пермі я сеў на цягнік і даехаў да горада Чусавой. Праўда мяне пермякі аштрафавалі на 80 рублёў за безбілетны праезд, я не спрачаўся, заплаціў.

Сябры мяне сустрэлі з здзіўленнем, мы, кажуць думалі, што ты не прыедзеш. А наогул чаму я ўсё ж такі прыехаў? Па-першае, я не звальняўся, а паехаў у водпуск, па-другое мяне родны горад сустрэў непрыветліва, і я нават не ведаў чым я буду займацца ў Дрыбіне. І самае галоўнае я ўсё ж вялікую надзею ўскладаў на ўладкаванне свайго пасляваеннага жыцця — гэта вучобу ў Свярдлоўскай юрыдычнай школе, у якую я падаў дакументы і ў якую я павінен быў восенню паехаць вучыцца.

У Чусавой пачаліся працоўныя будні. Працаваў я выхавацелем ў гуртажытку, шмат хто з рабочых выязджаў дадому, трэба было афармляць іх дакументы на камісію, памагаць

рыхтаваць пашпарты і пропускі. У ліку ад'язджаючых былі мае землякі Павел Казлоў і Галіца. Я іх найлепшым чынам падрыхтаваў і адправіў. Памог усім, чым мог.



Восенню пачалася загатоўка бульбы і іншыя клопаты па падрыхтоўцы гуртажытка да зімы.

І вось прыйшлі з Свярдлоўска з юрыдычнай школы паведамленне, што, А. П. Кудраўцаў залічаны слухачом Свярдлоўскай юрыдычнай школы на 1946 год, у сувязі з пераборам навучэнцаў у 1945 годзе. Так я не трапіў на вучобу, так не стаў юрыстам, а тады я гэтага вельмі хацеў. У 1946 годзе лёс распарадзіўся інакш, але аб гэтым ніжэй.

Я пачаў рыхтавацца да канчатковага ад'езду з Урала. Мяне ўгаворвалі, давалі новую, больш цікавую службу нарміроўшчыка. Нават пасылалі на вучобу на 6 месяцаў на курсы нарміроўшчыка. Але была вялікая імкненне да Радзімы, хоць і пабураную, спаленую, змучаную, але Айчыну з яе мяккім кліматам, з яе лясамі, пералескамі, рэчкамі і раўчакамі, балоцінамі, але гэта мая родная Беларусь.

## Дадому, у родную Беларусь

Атрымаў разлік, здаў сваю пасаду, развітаўся з сябрамі і таварышамі, у лютым 1946 года я накіраваўся дадому, у родную шматпакутную Беларусь, насустрач новым выпрабаванням, новым задачам, і галоўным было перабудавацца на мірнае жыццё. У той час цягнікі хадзілі амаль нармальна. Цягніком Уладзівасток–Масква я даехаў да Масквы, затым з Масквы да Оршы і да роднай станцыі Цёмны Лес.

Цяжка было глядзець ад Масквы да Оршы і ад Оршы да Цёмнага Лесу. Гарады разбураны ў руінах, вёскі спаленыя, адны коміны, па іх толькі можна было вызначыць, што тут калісьці была вёска, а па дыму з зямлянак, што жыццё не знішчана. Жахлівыя краявіды, велізарныя разбурэнні.

Дадому я прыехаў у Дрыбін. Да жахлівых разбурэнняў дадалася жабрацтва, абсалютна не было чаго есці. У Дрыбіне я прабыў 3 дні. Яшчэ раз пагледзеў, усё ўзважыў, якая ёсць магчымасць замацавацца жыць на радзіме. Бу-

дучы інвалідам, без сродкаў да існавання, я зразумеў, што тут мне рабіць нечага.

Я паехаў праз тры дні ў Горкі. Зайшоў у Горках даведацца, як паступіць вучыцца ў Акадэмію. Мяне добра прынялі, патлумачылі ўсё, як і што, прынялі на падрыхтоўчыя курсы як інваліда вайны, і паабяцалі затым залічыць без экзаменаў. Але я быў вымушаны ад гэтага адмовіцца. Не было ў мяне ні ад кога ніякай дапамогі, а на стыпендыю пражыць было немагчыма. Затым я зайшоў ў райвыканкам наконт працы. Мне прапанавалі першую: дырэктарам неіснуючага цагельнага завода. Трэба было карчаваць лес і будаваць цагельны завод. Другая — дырэктарам мясцовых арцеляў, якія трэба было узнаўляць і ствараць. Я з гэтай работай згадзіўся і папрасіў часу на тры-пяць дзён, каб з'ездзіць у Маладзечна для сустрэчы з братам Мішам, якога я не бачыў з 1939 года, амаль 6 год.

Вось і накіраваўся я ў Маладзечна праз Мінск. У Мінску ў мяне быў час да адыходу цягніка да Маладзечна. Я вырашыў пахадзіць па Мінску. Горад быў у развалінах. Крыху далей ад Дома Саветаў у бок плошчы Якуба Коласа ўсе дамы разбураны, частка каробак стаяла без дахаў і вокан. Увесь горад, як можна было ўбачыць вокам, усё ў развалінах. Вяліся работы па расчыстцы завалаў. Працавалі маладыя рабочыя, шмат было і немцаў ваеннапалонных.

Але доўга аглядаць такія жудасныя гарадскія пейзажы ў мяне не было часу і жадання, і я накіраваўся на вакзал.

У Маладзечна я адшукаў будаўнічы трэст і рамесную вучэльню будаўнікоў, дзе працаваў брат Міхаіл фізруком. Мы сустрэліся. Спачатку глядзелі адзін на аднаго з здзіўленнем. Былі дзеці, а сустрэліся дарослыя мужчыны, што прайшлі страшную вайну. Абодва франтавікі, былі ў баях, абодва параненыя. Абняліся, расцалаваліся, пасля чаго нешта брат дастаў, і мы пачаставаліся. Пераначаваў у яго ў гуртажытку. Увесь час мы гаварылі пра сябе, пра сваё жыццё, а Міша казаў пра сябе, як ваяваў, як гараваў. Брат пытаўся пра планы на будучыню. Я падзяліўся планамі і брат пачаў угаворваць, каб я застаўся з ім. Вайна



скончылася, і трэба жыць разам, удвух лягчэй пераносіць цяжкасці. І я згадзіўся, застаўся ў Маладзечна. Горад быў амаль не разбураны, відаць немцы не паспелі яго знішчыць, не было часу.

Наступным днём я пайшоў у абкам партыі, там звярнуўся да сакратара па кадрам. Я ў той час быў кандыдатам у члены ВКП(б), уступіў у Чусавой, рыхтуючыся да паступлення ў юрыдычную школу, куды быў прыняты на восень 1946 года. Сакратар па кадрам быў заняты, і я сядзеў разам таварышамі, такімі ж франтавікамі і вось адзін таварыш з пратэзам, зацікавіўся мной і пачаў угаворваць, каб я пайшоў да яго ў радыёвяшчанне карэспандэнтам, і так мне размаляваў сваю працу, што я чуць не згадзіўся.

І вось мяне паклікалі, і я пайшоў да сакратара па кадрах (прозвішча я, канечне забыўся). Ён паглядзеў дакументы, кудысьці патэлефанаваў і даў загад выпісаць мне накіраванне ў трэст аблмаслапрам старэйшым інспектарам аддзела загатовак, куды я даў згоду. З гэтай працай я быў знаёмы, у Фалёнках працаваў на маслазаводзе інспектарам. А гэта ўсё ж такі старэйшы інспектар, ды яшчэ абласны. Карацей, я ўжо добра ведаў, што такое «жироединица».

Трэст знаходзіўся ў горадзе Вілейка, гэта амаль побач сёння, а тады трэба было дабірацца цягніком, бо машыны і арбоны ў той час не хадзілі, таму што іх не было. Я пайшоў да брата, ён падтрымаў мяне, і раніцой наступнага дня я паехаў у Вілейку ў трэст.

У трэсце працаваў упраўляючым былы палкоўнік Быстрыкаў, талковы мужык. Ён даў згоду прыняць мяне на гэтую працу. Я афарміўся і наступнай маёй задачай было знайсці жыллё. Мне з дапамогай нашых работніц-дзяўчат удалося знайсці кватэру недалёка ад трэста ў невялічкай хаце, там жылі дзед і баба. Яны згадзіліся мне вылучыць ложак за ўмераны кошт. І вось у мяне праца і кватэра — гэта дасягненне ў той час вялікае.

Пачалося маё знаёмства з працай, усялякімі інструкцыямі і рознымі цыркулярамі. У выхадныя дні часта наведваўся брат Міхась, іншы раз я ездзіў у Маладзечна да яго.

У нас былі братэрскія размовы, успаміналі даваеннае жыццё, а таксама і ваеннае. Ён пра сябе распавядаў, я пра сваё. У ліку ўспамін былі і такія: як ў нашага нябожчыка бацькі забралі карову за падаткі, і брат Міхал, калі брыгада зваяла карову, выскачыў з хаты і кінуў камень адзін ці некалькі, і брыгада вярнулася і хацела арыштаваць Міхала…

Успаміналі, як ужо калі не было маці, і бацька быў хворы, а мы з братам пачалі сябраваць з суседнімі хлопцамі: Слабодзіч Іван, Мікіта, Васіль, Міхась і Пімен. Пачалі тусавацца каля крам і кожны раз што-небудзь украдзем, то булачак стырым, то яшчэ што-небудзь. Так прывыклі, што цудам не трапілі ў турму.

— А ведаеш, чым браты Слабодзіч, іх было пяцёра, займаліся падчас вайны? — запытаўся Міхась.

— Міша Слабодзіч быў старшым паліцаем, і яго пасадзілі ўжо пасля вайны (ён прыйшоў потым з турмы інвалідам, без адной нагі). Іван быў лётчыкам. А Васіль, самы ўркаган, даслужыўся да ваенкама.

Быў такі выпадак у брат пад акупацыяй. Калі адпраўлялі немцы моладзь ў Германію, то адправілі і яго, але ён па дарозе збег і вярнуўся дадому, хаваўся на падстрэшшы. Але яго ізноў высачылі і зноў забралі. І вось калі ён сядзеў у камендатуры, то ў ахове быў дваюрадны брат і перадаў яму самагонкі. Мішка выпіў самагонкі, і ў гэты час яго выклікалі на допыт. Пад час допыту ён сказаў немцу, што «ён гаўном напіханы» і яго званітавала прама на стол ўсё змесціва ягонага страўніка. Немцы яго вельмі білі і кінулі напалову жывога ў падвал. Пасля гэтага яго ізноў адправілі ў Германію, ізноў ён па дарозе ўцёк, але ўжо дадому не пайшоў, а пайшоў у лес. Там тады шмат сабралася народу і яны былі ў лесе да прыходу Чырвонай Арміі.

Брат распавёў, як нашы войска, калі ўступілі ў Германію, то спачатку нашы салдаты вельмі «вольна» вялі сябе з немцамі і немкамі. Немцы вельмі баяліся. А потым выйшаў загад Вярхоўнага Галоўнакамандуючага Сталіна і ўсе «вольнасці скончыліся».



Я ў сваю чаргу расказаў, як было цяжка ў блакадзе Ленінграда, які быў жахлівы голад, як мы ішлі на фронт кепска ўзброеныя, знясіленыя, і гінулі без усялякай карысці. Як цяжка было працаваць у тылу, жорсткія патрабаванні кіраўніцтва, за малейшае парушэнне — суд і турма.

Брат Міхаіл даў мне адрэз на касцюм. Вось так і пачалося нашае пасляваеннае жыццё.

## У Маладзечанскай вобласці

Мяне пачалі пасылаць па раёнах вобласці. Спачатку я быў у Куранцы, затым у Мядзелі, а на 8 сакавіка трапіў у камандзіроўку ў Паставы. Вельмі добра мяне прынялі там. Быў упраўляючы раймаслапрама дэмабілізаваны капітан, вельмі добразычлівы чалавек.

Вось так я выконваў загады па праверцы працы раённых маслапрамаў, заданні ўпраўляючага трэстам Быстрыкава і абкама партыі.

Аднойчы прыехаў я з камандзіроўкі з Мядзеля, адчытаўся аб зробленай рабоце і сустрэўся з Міхаілам. Ён мне сказаў навіну, што яны з Надзей распісаліся. Я канечне павіншаваў іх, але ў душы быў сам не свой, нешта як рэўнасць, малодшы брат абышоў мяне ў жыцці. Я пажадаў ім добрага шляху ў жыцці: шчасця, радасці, усяго найлепшага. Дамовіліся аб вяселлі. Вяселле было ў Латыголі, на радзіме Надзеі Феафанаўны, яна працавала ў школе ФЗУ кладаўшчыцай.

Усё расходы на вяселле ўзялі на сябе бацькі Надзеі, бо ў нас не было ніякіх сродкаў.

У Мішы тое-сёе было, з Германіі ён прывёз барахла, а ў мяне не было нічога. На вяселлі я быў за шафера. Хадзіў да святара дамаўляцца, каб ён менш з нас узяў за паслугі. За ягоныя паслугі нам, як франтавікам, мне ўдалося збіць кошт напалову.

Было вянчанне ў царкве вельмі прыгожа і ўзнёсла. Вяселле гулялі тры дні. Вяселле было багатае па тых часах, і народу было шмат. Бацькі Надзі былі заможныя. З вяселля мы з братам ішлі ўдвох да Вілейкі. Было вельмі весела. Мы дамовіліся, што ён пяройдзе на працу ў трэст загадчыкам склада. Праз некалькі дзён ён уладкаваўся на працу, гэта было побач з трэстам.

Прыехала Надзя з дома і пайшла наша пасляваеннае жыццё далей — вясёлае, радаснае, шчаслівае, галоднае. Аднойчы параіліся Міша з Надзяй і ўгаварылі мяне дапамагчы ім дастаць пляц пад будаўніцтва дома ў горадзе Вілейка. Я паспрабаваў адгаварыць іх, што за якія грошы мы будзем будаваць, нічога не атрымаецца, але я вымушаны быў ісці дабываць пляц. Як інваліду Айчынай вайны мне ўдалося дабіцца участак у Вілейцы на беразе ракі Вілія.

Аднойчы я прыехаў з камандзіроўкі позна ў суботу ўвечары і даведаўся, што брата няма. Я думаў, што ён паехаў у Маладзечна да Надзі. Раніцой прыязджае Надзя, і я даведаўся, што Міхаіл арыштаваны ў Іліі, раён такі быў ў горадзе.

Я быў страшна ўзрушаны. Гэта была для мяне Катастрофа!

Мы накіраваліся ў гэтую Ілію. Там у выхадны дзень мы мала што даведаліся, акрамя таго, што нам расказаў шафёр базы. А ён расказаў вось што: накіравалі яго ў Ілію за маслам, загрузіўся, прывезлі на абласную базу. З ім разам паехаў Міхаіл і ўзяў з сабой бітон солі. У нас шмат было гэтай солі. Гэта соль чорна-шэрая не перапрацаваная, яе выкарыстоўвалі для пасыпкі лёду лядоўні ў момант заморажвання марожанага. Тады халадзільнікаў не было. Гэту соль ён завёз свайму цесцю з Латыголь, цесць яго пачаставаў, і яны паехалі ў Ілію загружацца маслам. Трэба адзначыць, што Міхал не піў гарэлкі і не курыў, у яго пашальвала сэрца, ад гарэлкі яму было вельмі кепска. І ён яе звычайна не піў.

Калі ён выпіў гэты самагон, яму стала кепска, па дарозе званітавала, а пад час загрузкі ён схаваў адну скрынку масла ў кабіне машыны. Пасля гэтага скрынка была знойдзена на прахадной, і патэлефанавалі ў міліцыю і яго арыштавалі. Вось гэтую гісторыю нам патлумачыў следчы і дадаў, што Міхась аказаў супраціў і ўдарыў міліцыянера. Справа была хутка задакументавана і накіравана ў суд.

Я прасіў следчага і суддзю і зразумела нічога ў іх не выпрасіў. Пасля гэтага я прасіў і ўпраўляючага трэста, і яны таксама не памаглі.

Адбыўся суд і Мішу далі тры гады. Потым мы знайшлі з Надзяй адваката, і адзін год
знялі, засталося два. У хуткім часе Мішаньку адправілі ў Мінск на будаўніцтва трактарнага завода.

Вось такая трагедыя звалілася на нас, нечаканая бяда, якая зруйнавала ўсё наша жыццё. Час тады пасля вайны быў суровы, галодны, і трэба было так трапіць у турму за такую недарэчнасць. Усе нашы планы разбурыліся і з будаўніцтвам дома і з іншымі пытаннямі. Неабходна было толькі адно: памагаць Мішу, каб за два гады даць яму патрэбную дапамогу. Калі ён быў у Мінску, то да яго ездзіла Надзя, вазіла перадачы. Некалькі разоў я ездзіў. Але нашыя вельмі сціплыя перадачы не заўсёды даходзілі да яго. Аднойчы помню, раздабыў я тое-сёе і паслаў з дваюраднай сястрой Таняй, і яна перадала праз вартаўніка. А потым Міша напісаў, што нічога не атрымаў. Затым яго накіравалі з Мінска некуды на поўдзень. Там ўмовы былі невыносныя. Ён потым расказваў, што былі выпадкі, калі сотні людзей зачынялі ў каменным будынку, цеплыня стаяла невыносная, нельга было сесці, адзін да аднаго стаялі ўпрытык.

Потым ён зрабіў уцёк, яго злавілі і дабавілі яшчэ год. Я колькі меў магчымасці паслаў пасылкі, але сур'ёзнай дапамогі я не мог яму зрабіць. За гэты час ён моцна падарваў здароўя, якое і так было не вельмі.

Мяне мучыць усё жыццё, ці правільна я зрабіў, што ўзяў яго на працу на базу, на матэрыяльную адказнасць без практыкі такой працы. Можа было лепш было б мне

паехаць на Урал. Вось такая трагедыя здарылася з намі зразу пасля вайны.

Я працягваў працаваць у трэсце, ездзіў па раёнам, у Ашмяны, Смаргонь, Іўе і іншыя. Усе раёны вобласці аб’ездзіў, быў некалі разоў у Мядзелі. Аднойчы я прыехаў з камандзіроўкі, і вось зайшлі тры дзяўчыны, што закончылі курсы бухгалтараў і прыбылі на працу ў трэст. Я падышоў, хацеў загаварыць, адна мне вельмі прыглянулася сваёй сціпласцю. Я хацеў загаварыць, але не атрымалася, атрымаў рэзкі адказ і адышоў з гэтым. Затым мяне паслалі ізноў у Іўе, там працаваў упраўляючы Візірякін, былы партызан. Ён быў хворы. Я пайшоў да яго на кватэру, ён мне сказаў, што працаваць не хоча, не можа і не будзе, і каб я даклаў аб гэтым упраўляючаму трэста. У раймаслапраме ў Іўі праца была запушчана, аніякай дысцыпліны, будаўніцтва ніякага ніхто не вёў, у бухгалтэрыі хаос і неразбярыха. Дарэчы, тую дзяўчыну, яе звалі Аня, я ізноў сустрэў тут, яна мне расказала, што справы тут кепскія, што яе накіравалі ў дрэнны раён і тут будзе цяжка чаму навучыцца. Аню паставілі рахункаводам-касірам.

Пасля некалькіх дзён камандзіроўкі ў Іўі я вярнуўся ў трэст і інфармаваў аб становішчы ў Іўеўскім маслапраме і дадаў, што туды ездзіць бессэнсоўна, там трэба мяняць упраўляючага, і перадаў усё што казаў Візіракін. Упраўляючы трэстам Быстрыкаў падзякаваў мяне і адпусціў мяне адпачыць. Толькі я прыйшоў на кватэру, як за мной прыслалі ганца з наказам тэрмінова з’явіцца да Быстрыкава. Я хутка апрануўся і прыбыў да ўпраўляючага ў трэст. Ён мяне проста ашарашыў:

— Вось табе, загад. Едзь у Іўе дырэктарам маслазавода. Першая задача — будаўніцтва цэнтральнага маслазавода, як можна хутчэй узнавіць каробку і перавезці з млына абсталяванне. Другая задача — разлік з малаказдатчыкамі, там вялікая запазычанасць, неабходна яе тэрмінова пагасіць. Трэцяе — гэта бухгалтэрыя, асабліва звярнуць увагу на працу галоўнага бухгалтара. Чацвёртае — дысцыпліна, і яшчэ раз дысцыпліна. У дапамогу да цябе прыедзе на некалькі дзён галоўны інжынер Варанцоў.

Варанцоў прысутнічаў пры нашай размове. Гэта быў выключна разумны чалавек, ужо пажылы, справу ведаў добра.

## Іўеўскі раён

І вось з загадам я накіраваўся ў Іўе. Гэта быў канец мая 1946 года, мне было тады 22 гады ад нараджэння. У Іўі я сабраў увесь кіраўнічы апарат маслазавода, правёў пасяджэнне, дзе агучыў тыя задачы, што паставіла перад намі кіраўніцтва трэста. І пачаліся працоўныя будні.

Пачалі мы актыўна праводзіць разлік з малаказдатчыкамі, пачалі работу па ўзнаўленню разбуранай каробкі будынка пад маслазавод, сцены былі, не было толькі вокан, дзвярэй, падлогі і столі. Расчыстку выконвалі сваімі сіламі. Нам выдзелілі лес, машыну палутарку, мы пачалі вазіць лес. На лесапілцы пачалі пілаваць лес на дошкі, рэйкі, усё што трэба. Лес мы 200 кубаметраў вывезлі хутка, а вось з будаўнікамі была бяда. Ніхто ні за якія грошы не хацеў наймацца, давай нам соль, тады будзем працаваць.

Я паехаў у трэст да Быстрыкава і ўсё патлумачыў. Ён сказаў: — Аплата соллю — нам яшчэ лепш, больш танна. — І даў мне пісьмовы дазвол расходаваць 3 тоны солі. І вось праца закіпела. Знайшліся рабочыя 5 чалавек, пачалі рабіць сталярку — вокны, дзверы.

Пачалі мы бетаніраваць падлогу, падшываць дошкамі столь. Паехаў я ў райана, атрымаў шкло для школ, і яны мне выдзелілі за транспартныя паслугі крыху шкла. Працаваць прыходзілася па 18 гадзін у суткі. За два месяцы мы закончылі асноўныя работы, завезлі абсталявання, пачалі сепарыраваць малако, збіваць масла, вырабляць тварог, сушыць казеін, асвоілі прыгатаванне квасу і марожана-

га. У продажы ўпершыню з’явілася марожанае і квас*. Квас вырабляўся з сывараткі, яго доўга кіпяцілі, потым дабаўлялі закваску і атрымлівалі цудоўны квас. Пачалі будаваць ляднік, выкапалі катлаван, зрабілі пустацелыя блокі і зрабілі ляднік. Праўда, спачатку ён у нас абваліўся, не далі яму выстаяць, паспяшаліся. Потым мы зрабілі ўпоры, адкосы і ляднік атрымаўся добры. Справы ішлі нармальна, прыехаў да нас нам. міністра і пахваліў: «Так трымаць і далей».

Кіраўніцтва з трэсту было маімі дзеяннямі задаволена.

І вось тут я па сваёй недасведчанасці зрабіў буйны пралік. Мне акрамя трэста трэба было яшчэ падпарадкоўвацца райкаму, райвыканкаму, райфа, райбанку, раённаму МГБ і яшчэ мностку розных кіруючых органаў. Якія на мой погляд толькі перашкаджалі працаваць.

Выклікаюць мяне ў райком і кажуць:

— Ты уже три месяца, как работаешь, а в райком не заходишь. На партийный учёт стал или, может, так ходишь?

Я адказываю:

— Стаў на партыйны ўлік у райзаге.

— Мы тебя должны паслать уполномоченным это самое молоко заготавливать, а то мы всем районом заготавливаем, а вы разбазариваете. В общем, мы займёмся вами, посмотрим, чем вы занимаетесь.

Я імкнуўся патлумачыць, што ў мяне і так работы неўправарот, па 18 гадзін працую.

Ды яны там і слухаць не захацелі. Да мяне яшчэ тады не дайшло, што галоўным у жыцці з’яўляецца мясцовая ўлада, у першую чаргу райком. І непадпарадкаванне гэтай партыйнай уладзе — самы страшны грэх. Затым ужо патрэбна было падпарадкоўвацца свайму трэсту, глаўку і міністэрству.

Я працягваў працаваць, трацячы ўсе сілы вытворчасці і трэба сказаць што плён маёй працы быў бачны — завод быў збудаваны, і вытворчасць стала лепш працаваць. Не

* Быў 1946 год. Усяго толькі год, як скончылася вайна.



ладзілася толькі яшчэ з дысцыплінай, вельмі не хацелася былым «таварышам афіцэрам» падпарадкоўвацца быламу шараговаму матросу. З імі мне не адзін раз былі сур’ёзныя размовы. Асабліва з Ганчаровым — дырэктарам галаўнога завода. Галоўны тэхнолаг С-ка* Іван Цімафеевіч быў зямляк з Магілёўшчыны, мы з ім нібыта сябравалі, я з ім паводзіў шчыра, ён быў сапраўды добры спецыяліст, але вёў двайную гульню, і часта дакладаў усялякую лухту на мяне ўверх.

Галоўны бухгалтар С. быў стары прайдоха, злодзей і жулік, я патрабаваў ад трэста, каб яго замянілі. Прыязджалі праверкі, правяралі, ён на іхніх вачах жульнічаў, а трэст усё цягнуў гуму. Нарэшце яго звалілі і ён з’ехаў. Потым я чуў што ўсё ж праз некалькі гадоў нешта раскапалі з яго старых грахоў і далі дзесяць год турмы..

Вось такім чынам жыццё неяк складвалася, працай я быў задаволены і пачаў думаць, што патрэбна жаніцца, каб падтрымліваць свой аўтарытэт**. Ды і час надышоў — мае аднагодкі ўжо ўсе пераражаніліся. З Аняй у нас былі добрыя адносіны, я яе паважаў, яна мне падабалася сваёй шчырасцю і сціпласцю. Асабліва, калі разам ехалі на цягніку, я ў Мінск, а яна на радзіму ў Малінаўку на Быхаўшчыне***, то за дарогу мы вельмі зблізіліся і адчулі, што мы патрэбны адзін аднаму.

З дому Аня прывезла бутэльку самагонкі па просьбе тэхнолага Івана Цімафеевіча і запрасіла яго і мяне ў госці. Пасля гасцей мы яшчэ сталі бліжэй. Потым былі кастрычніцкія святы, дзесьці ў гасцях мы былі разам і там зразумелі, што не можам жыць адзін без аднаго. Я ўжо і на работу раніцой ішоў хутчэй, каб сустрэць Нюрачку, калі некуды адлучаўся, я хутчэй імкнуўся вярнуцца, каб убачыць яе. Ад яе я таксама даведаўся, што таксама

* Прозвішчы людзей, тым ці іншым чынам паказаных ва «Успамінах» адмоўна, не друкуюцца.

** У тыя часы жанатыя людзі мелі аўтарытэт.

*** Зараз ад вёскі Малінаўка нічога не засталося, адны толькі могілкі.

перажывае маю адсутнасць, вось так працягвалася да лістапада 1946 года. 15 лістапада я прапанаваў пайсці ў ЗАГС, і вось мы 16 пайшлі ў загс. Не было ў нас канечне ў той час ні шафераў, нічога і нікога, так удвух пайшлі распісаліся, і сталі мужам і жонкай. Пасля гэтага зайшлі ў чайную, я кажу:

— Вазьмі мне шклянку разліўной гарэлкі і што-небудзь закусіць.

Аня купіла мне гарэлкі і я нават не прапанаваў ёй разам выпіць, палічыў, што маладзенькай дзяўчыне 19 гадоў не трэба піць гэтую гадасць. Напэўна гэта было з майго боку бястактнасць, але так было.

У нядзелю знайшоў нейкага каня і перавёз яе маёмасць да сябе на кватэру. У мяне ўжо ў той час быў свой пакой, там мы пачалі жыць. Божа мой, не ведаў я яшчэ тады, колькі бед узваліцца на маю і яе галаву, і калі я перажыў тыя пакуты і застаўся жыць, то толькі гэтым я абавязаны ёй. Аня сагравала маю спакутаваную душу сваёй любоўю і сваім цяплом. Яна сустракала мяне заўсёды ўзнёсла, кідалася і абдымала, нягледзячы на прысутных, не думаючы што гэта можа быць не вельмі прыстойна. Яна на працы абараняла мяне як магла ад п’яніц і лодараў, яна хваліла і гаварыла пра мяне толькі харошае вышэйстаячаму кіраўніцтву, як да замуства, так і пасля. Калі мяне хто крыўдзіў, то зразу яна гатова была ўчапіцца і выдрапаць яму вочы.

Першая непрыемнасць мяне чакала ў дзень жаніцьбы. Я даведаўся, што забілі Ізмайлава і Глебава ў Некрашах, у тыя часы кожны тыдзень забівалі работнікаў партыйна-савецкага актыву, у той час вельмі лютавалі банды, ішла барацьба супраць савецкай улады. Мне нехта сказаў, што выклікаюць у райком у суботу, але я не звярнуў увагі, не да гэтага было, я ўсё ж такі ў той дзень жаніўся. У нядзелю на пахаванні Ізмайлава і Глебава да мяне падышоў другі сакратар Кляцко і сказаў, што пасля пахавання трэба з’явіцца ў райком у тры гадзіны. Я прыйшоў у райком у тры гадзіны, там ўжо былі такія як і я, і з нас запыталі — чаму мы не паехалі ў замацаваныя за намі вёскі. Як я даведаўся



за мной была замацаваная вёска Некрашы, тая самая дзе пазабівалі нашых таварышаў. Са мной былі замацаваны ў Некрашах: старшыня райспажыўсаюза Раўнейка і оперупаўнаважаны міліцыі Рыбальчанка. І вось нам далі па вымове і загадалі, каб тэрмінова ехаць у Некрашы праводзіць партыйную лінію па выбарам. У нядзелю нам прыйшлося разам з Рыбальчанка ехаць у Некрашы. Раўнейка прыехаў пазней. І вось мы з оперупаўнаважаным Рыбальчанка, Раўнейка прыязджаў зрэдку, ён сябраваў з раённым кіраўніцтвам — тры месяцы амаль без выезду сядзелі ў гэтых Некрашах, праводзілі выбары.

Чаго толькі не было за гэты час. Рыбальчанка быў дасведчаны прафесіянал, калі мы прыпыняліся на ноч, звычайна гэта было гадзін у 11 вечара, то нікога з хаты не выпускаў, калі суседзі заходзілі, то заставаліся там начаваць. Мне была выдадзена зброя: вінтоўка, наган і граната лімонка. Начаваць звычайна ён прыпыняўся ці ў сям’і бандытаў ці звязаных з бандытамі, пра якіх ён ведаў. Калі з вёскі выязджалі ў адзін бок, то на палове дарогі ён паварочваў зусім ў іншым кірунку. І ўсё ж банда накрыла наш выбарчы ўчастак, парвалі і спалілі і бюлетэні і нешта яшчэ там сатварылі. Але ў нас былі запасныя спіскі і бюлетэні, і на наступны дзень мы арганізавалі выбары і прагаласавалі. Гэта было дзесьці зімой. Правялі сесію, выбралі старшыню сельскага савета: аднаго з выбраных дэпутатаў, былога ўсходняга франтавіка. Праз нейкі час яго запрасілі ў вёску Ковалі на вяселле, напала банда, забіла яго і цяжарную жонку.

Пасля гэтага выпадку выбралі старшынёй сельсавета мясцовага загмагазіна, п’яніцу, ён быў звязаны з бандай. Калі банду разгramілі і яго ўзялі. Высветлілася, што ён быў актыўным бандытам, а колькі разоў мы ў яго палуднавалі і нават начавалі.

Да выбараў мы амаль безвылазна знаходзіліся ў гэтых Некрашах, прыязджалі дадому пераапранушча на выхадны на адзін дзень і затым зразу ехалі назад. Увесь час нас так і ганялі. Пасля выбараў крыху пацішэла.

Яшчэ калі я быў халастым, да мяне прыехала дваюрадная сястра Таня, дачка дзядзькі Мацвея, брата маёй маці. Будучы ў Паташні я яе сустрэў і паабяцаў забраць, і вось яна і прыехала. А потым прыехала родная сястра Ганна. І вось дома дзве сястры, жонку прывёў, а есці няма чаго, сам увесь час у раз'ездах. Потым адну сястру накіраваў на курсы лабарантаў, а другую на кватэру. Засталіся ўдвух, крыху лягчэй стала, калі б не пасылалі ў вёску, зусім было б добра, ды вось рэдка калі прыходзілася бываць дома.

Закончыўся 1-ы квартал 1947 года. План па малаку раён недавыканаў на 50 тон. І мяне прымушалі падпісаць тэлеграму, што план выкананы. Я адмовіўся і паехаў у Некрашы. Праз нейкі час мяне адшукалі і выклікалі на бюро райкама партыі ноччу і прымусілі падпісаць тэлеграму.

Я гэтага бюро баяўся і падпісаў, а раніцай паехаў у трэст і інфармаваў упраўляючаму т. Гайваронскаму, які быў замест Быстрыкава. Ён падзякаваў за чэсную службу, і я паехаў у Іўя, працягваў працаваць. Праз нейкі час прыходзіць загад: «За запушчаны ўлік упраўляючага раймаслапрама т. Кудраўцава ад працы вызваліць».

Я ізноў да ўпраўляючага:

— У чым справа, чаму так атрымалася?

Гайваронскі тлумачыць:

— Ты заеўся з рай комам, з райупаўнаважаным Малыгіным, я за цябе адказваць не жадаю, мне сакратар абкама сказаў, калі я за цябе хацеў заступіцца.

— Ты што, Гайваронскі, хочаш, каб я зняў з працы Малыгіна, які мне жыццё выратаваў падчас вайны? Давай не дуры, вызваляй свайго «мальчишку» і зачыняй справу з прыпіскай.

— Я так і зрабіў. Таму, давай больш прыслухоўвайся да райкама і да мясцовага кіраўніцтва, будзь больш памяркоўным, менш спрачайся, а болей слухай старэйшых. Тут усе партызаны ў кіраўніцтве, і нам патрэбна быць пільным, каб выжыць у гэты цяжкі час.

Вось з гэтым я і паехаў да сваёй Аннушкі дадому. Пагараваў я, працую, чакаю, калі прышлюць на маё месца. Прыслалі рэвізію і напісалі на мяне аж 18 тысяч рублёў. І галоўным чынам ні за што, дзе ні ў чым невінаваты. Дзесьці расходаваў солі «бузум» на будаўніцтва завода 6 з лішкам тон, на што ў мяне быў апраўдальны дакумент; сыры спісаныя раздаў рабочым 120 кг, таксама акт зацверджаны галоўным інжынерам і упраўляючым трэста. Вось толькі масла 12 кг. я выдаў у 1946 годзе, не ведаў, што Візіракін ужо раней выдаў аванс. Вось за гэта налічылі 18 тысяч. Гэта турма самая сапраўдная! Што рабіць? Куды ехаць і навошта? Паехаў у горад Масты, там давалі працу, але дай картачку «адкраплення». Яе няма, райком у Іўі не дае. І вось мяне аднойчы затрымалі, і я прасядзеў у міліцыі цэлы дзень. Увечары прыбыў начальнік МВД Коўтун і выклікаў мяне. Я пытаюся:

— За што мяне арыштавалі? — І паказваю апраўдальныя дакументы.

Ён адказвае:

— Ведаеш, Кудраўцаў, ідзі і разграбай сваю гразь, інакш другі раз цябе арыштую і пасажу цябе гэтак гадоў на дзесяць.

Я паехаў у трэст, у мяне паглядзелі дакументы, тое-сёе спісалі, але тое-сёе засталося, паехаў у міністэрства, там таксама нешта спісалі, штосьці засталося. А засталося гэта масла 12 кілаграм. Прыйшлося ехаць на базар у Дзявенішкі ў Літву, і ў Трабы, дзе купляць масла і гасіць доўг. А грошы дзе браць? Кармілі парасят сывараткай, прадавалі і гасілі прыпісанае масла, якое я не браў і не еў.

Але гэта было ўжо потым, а сёння мяне знялі з працы ўпраўляючага раймаслапрама, дзе я так старанна працаваў па будаўніцтву маслазавода. Гэта мая першая самастойная праца, з якой я выдатна справіўся. Адбудаваны разбураны будынак, пераведзены туды маслазавод, зроблены ляднік з складам для захавання гатовай прадукцыі, асвоены выпуск і продаж для

Які выдатны квас атрымаўся, а гэта было ў цяжкі пасляваенны час — 1946 і пачатак 1947 года.

# Суботнікі

Дзесьці летам 1947 года мяне райком паслаў дырэктарам маслазавода ў Суботнікі. Гэта ад Іўя 20 кіламетраў на поўнач. Мястэчка Суботнікі мелася бальніца, сельскі савет, амбулаторыю, і санаторый для туберкулёзных і інвалідаў Вялікай Айчынай вайны. Маслазавод знаходзіўся ў будынку прыватніка Усціновіча. Маслазавод сепарыраваў малако, збіваў масла і прымаў ад насельніцтва акрамя малака і масла, сала і тлушч. Трэба было будаваць будынак маслазавода. Штат быў такі: акрамя дырэктара, быў майстар — галоўная фігура, рахункавод, два ці тры рабочых, лабарант, конюх, меўся конь. Вось адным летнім днём мы на кані з пажыткамі (вузел шкуцця) з Анушкай пераехалі ў Суботнікі, ехалі і песні спявалі. Ох і хапнулі мы гора там на поўную катушку. Кватэры нідзе нельга было знайсці, ніхто не пускаў, ды і плаціць было нечым.

Аклад мой быў 410 рублёў у месяц, а пуд хлеба, каштаваў 600 рублёў, вось і разгуляйся. Урэшце ў аднаго гаспадара Юралевіча Яся насупраць сельпо быў дом. У гэтым доме быў складзік ад вуліцы, там знаходзіліся нарыхтаваныя косці і анучы. Я дамовіўся, сельпо прыбрала ўсё нарыхтаванае і мы занялі гэты складзік пад жытло. Улетку было покуль цёпла, затым зрабілі печку. Вось так і прыстасаваліся. Анушка была ў палажэнні.

Працы на маслазаводзе займала шмат часу. Акрамя загатоўкі і перапрацоўкі прадукцыі трэба было нарыхтоўваць лёд, адпраўляць прадукцыю ў Іўе на склад на конях.

За маслазаводам сельскі савет замацаваў вёску Баравікі і чалавек пяць гаспадароў з Суботнікаў, яны вызваляліся ад лесанарыхтовак і выконвалі работу на маслазаводзе за вельмі мізэрную плату. Былы дырэктар маслазавода Семчанка, у вайну партызан, паехаў на радзіму, я мяне паставілі на яго месца. Вельмі часта мяне пасылалі на загатоўкі ў вёскі, гэта адымала шмат часу. Жыла наша сям’я вельмі бедна.



У 1947 годзе восенню 15 верасня нарадзіўся ў нас сын Яўген. Роды былі вельмі цяжкія. У той час мы яшчэ вельмі слаба разбіраліся ў гэтых справах. Помню ў раддом я толькі па просьбе Анушкі зварыў і занёс бульбы, ідаць шмат зварыў, помню смяяліся нада мной, а больш я нічога не прынёс. Канечне, трэба было папрасіць у людзей хлеба і купіць чаго-небудзь яшчэ.

Восенню ў кастрычніку месяцы, ужо ўсе выкапалі бульбу, адна наша засталася, я дамовіўся з гаспадаром, ён разагнаў плугам, і раніцой Анушка пайшла капаць бульбу, а я застаўся дома з сынам. Пад’ехалі да маёй кватэры старшыня сельскага савета Баравікоў і партарг і запатрабавалі, каб я разам з Баравіковым паехаў у вёску Залессе нарыхтоўваць звышпланавую бульбу. Я катэгарычна адмовіўся, бо не было з кім пакінуць дзіця, а жонка капала бульбу на полі. Так я і не паехаў. Увечары, калі ўжо былі прыцемкі, мы везлі бульбу з поля, учулі крык жаночы, плач. Людзі інфармавалі, што забілі Баравікова. Крыху пазней, чуем, ізноў галосяць жанчыны. Мы выйшлі на вуліцу, кажуць, забілі Хомчыка ўчастковага міліцыянера і Дзянісава-агента, а Клімава-санаторца паранілі ў нагу. Іх усіх прывезлі і раніцой расказалі, што і як было. Банда Юргеля сустрэла Баравікова ў лесе каля Залесся, раззброіла і забіла. Затым зацягнулі ў лес, выразалі члены і заткнулі ў рот, кінулі на яліну-вываранець. А ўчастковага Хомчыка забілі ў вёсцы Кіслае, дзе ён затрымаў бандыта Уса. Хомчыку нанеслі 17 нажавых ран. Дзянісаў-агент таксама быў там забіты. Такім чынам, усё кіраўніцтва мястэчка было забіта. Мяне тады МГБ дапытвала, чаму я не паехаў. «Видимо, ты знал о нападении». Я адказаў, што гэта чыстая выпадковасць, жонка капала бульбу, а я быў з дзіцём. Паверылі яны ці не, але адчапіліся. На месца Баравікова паставілі Тучкоўскага, аматара выпіць, які чуць ні кожны дзень прыходзіў пад маё акно і крычаў: «Кудраўцаў, чаму ты не ў вёсцы?» Покуль я аднойчы не вытрымаў, выскачыў, схапіў яго за горла і сказаў, што калі яшчэ крыкнеш — прыдушу. Пасля гэтага ён адстаў.

У гэты час я ўжо вёў будаўніцтва маслазавода. Мне сельскі савет выдзеліў зруб-пяцісценак канфіскаваны. Я яго перавёз, мужыкі склалі, замшылі і паціху пачалі адбудоўваць маслазавод. Накрылі дранкай, паклалі столь, вясной 1948 забетанавалі падлогу, перавезлі абсталяванне і пачаў функцыянаваць новы маслазавод.

Унізе каля рэчкі паставіліканюшню для каня і ўпражы. У целам, жыццё пачало наладжвацца. Пераехалі на другую кватэру ў канец Суботнікаў да Пучкеліхі. Аннушка працавала бухгалтарам сельпо. Старшыня сельпо ўсяляк імкнуўся зацягнуць Аннушку ў свае злачынныя дзеянні. Аднойчы прыйшоў да нас на кватэру і кажа:

— Ох і бедна вы жывяце. Я вам памагу, дам у часовае карыстанне карову і дам інвалідную машыну.

Мы ад гэтых дароў адмовіліся. Тады ён ідзе на такое дзеянне: крадзе маркі пайшчыкаў. Аннушка падняла шум, ён тады дае ёй распіску, што ўзяў маркі, я распіску забраў і ў партбілет схаваў. Аннушка далажыла кіраўніцтву РПС, яны прыслалі рэвізію.

У гэты час змянілася начальства раймаслапрама. Стаў упраўляючым раймаслапрамам Сапажкоў — вельмі душэўны чалавек, былы палкоўнік. Быў паранены ў вайну ў нагу. У райкаме пачаў працаваць Каралёў, па-мойму, яўрэй, першы сакратар. Спісалі з мяне ўсе па рэвізіі і затым прынялі ў члены КПСС. Стала крыху весялей дыхаць. І трэба ж так здарыцца, што ў хуткім часе ў адзін і той жа час тав. Сапажкова вызвалілі ад пасады ўпраўляючага, а Каралёва некуды перавялі, сакратарам райкама стаў Верас Мікалай Паўлавіч, а ўпраўляючым раймаслапрама Карнілаў.

І вось ізноў над маёй галавой сабраліся цёмныя хмары. Мяне пачалі агітаваць пайсці працаваць старшынёй сельскага савета. Я катэгарычна адмовіўся. Карнілаў вызваляе мяне ад работы дырэктарам маслазавода і прысылае на маё месца Дзмітрыевіча. Праз нейкі час яго арыштоўваюць і садзяць за старыя грахі, дзесьці раней зробленыя. Я іду да Карнілава.

— Чаму вызвалілі ад працы?



Ён гаворыць, што ў сувязі з пераходам на працу ў райкам.

Я ў райкам. У райкаме гавораць:

— Правільна, пойдзеш працаваць старшынёй Суботніцкага сельскага савета.

Я кажу:

— Не пайду.

І вось сяджу без працы і без зарплаты. Яны прыязджаюць амаль кожны дзень. І вось месяц, потым другі, затым звальняюць Аннушку з пасады бухгалтара сельпо. Сядзім удвух без працы, без грошай. Выехаць не дазваляюць, не даюць «открепительный талон» в райкаме.

І вось аднойчы заехаў сакратар райкама Мікалай Паўлавіч Верас і пытаецца:

— Пойдзеш старшынёй сельсавета працаваць?

Я адказваю:

— Пайду.

— А чаму раней не ішоў?

Я адказаў, што заўтра ўжо мне нечага есці будзе, і сыну і жонцы, вось я і вымушаны ісці.

— А дзе ты возьмеш заўтра? — пытаецца Верас.

Я кажу:

— Сёння вы на сесіі прымеце мяне на працу, а заўтра прыйдзе чалавек за даведкай, я яе дам, якая б яна не была (я ведаў, што сяляне звяртаюцца за нязначнымі даведкамі), а за гэта чалавек прынясе кавалак сала і булку хлеба, а там бачна будзе.

Так яно і было, акрамя гэтага яшчэ і самагонкі прынясе дзядзька. Наогул, гэта было як выключэнне, я амаль нічога не браў, ды і асабліва і не давалі. Ішла калектывізацыя, людзі былі узлаваныя. А жыў я — араў абрэзаныя закінутыя дзяржфондаўскія землі, сеяў авёс, пшаніцу, бульбу, карміў свінню, вось так і перабіваўся.

Можна было б працаваць паціхеньку. Сялян я стараўся не крыўдзіць, таму што помніў, як улада аднеслася да маіх бацькоў, ды і баяўся бандытаў..

Пачалася масавая калектывізацыя раёна і нашага сельсавета. Штодзень наязджала ў сельскі савет начальства ўсіх рангаў. Сядзелі безвылазна ў вёсках, агітавалі ў калгас.

Помню ў вёсцы Баравікі два гады яшчэ да майго старшынства сядзелі два начальніка безвылазна і за гэты час шмат нарабілі спраў: зажытачным гаспадарам давалі кулацкі падатак. У вёсцы Дубраўляны два палкоўнікі МГБ таксама сядзелі бязвыезна, і ў другіх вёсках таксама. Была брыгада чалавек дзевяць, сядзелі ў вёсцы Залессе, з якімі мне часта трэба было знаходзіцца. Неабходна было накарміць начальства, даць падводу — ад'ехаць, прыехаць.

Іншы раз паклічаш селяніна і кажаш яму:

— Юзік, вось прыехалі ў сельсавет 20 салдат і чатыры афіцэры. Трэба салдатам згатаваць зацірку з мукі, а афіцэрам добры абед. Вось я думаю, Юзік — добры чалавек, я табе дам 4 афіцэры, а салдат пашлю ў другую вёску, толькі глядзі каб афіцэраў былі накормлены па-афіцэрску.

Салдат, звычайна ніякіх не было. Вельмі цяжкая і небяспечная праца была. Я бачыў сваёй задачу ў тым, каб ні ў якім выпадку не саджаць людзей у турму.

Быў такі выпадак: напэўна надакучыла мужыкам у лесе сядзець у вёсцы Баравікі, яны раней былі замацаваны за маслазаводам і ведалі мяне больш усіх. Вось яны мяне аднойчы запрашаюць да сябе ў лес увечары. Я спачатку, здрэйфіў, але ўсё ж такі пайшоў. І трэба было так здарыцца, што Альберт Юхневіч быў у Суботніках і камусьці прагаварыў, што сёння будзе «вечарочак і мех крыві». А мяне няма, паднялася трывога, і пайшоў вялікі шухер. Я ж прыбыў у лес, мяне пачаставалі і я ім распавёў усё: як праходзіла ў нас калектывізацыя ў Старым Дрыбіне да вайны, як усё паадбіралі ў маіх бацькоў, як з маці знялі апошнія валёнкі і яна спалохаўшыся захварэла на сухоты і ў хуткім часе памерла. А потым памёр бацька, і з нашай сям'і з сямі чалавек засталіся толькі трое дзяцей.

Я ўсё добра помніў і ўсё шчыра расказаў і потым падвёў вынік.



— Калгас — гэта канечне справа кепская! Адняць усё: зямлю, гумны, коней, вазы, інвентар, а ўзамен «спульна праца і голы працадзень». Але гэта лепш — чым турма ці ссылка ў Сібір, дзе два месяцы лета, а астатняе зіма з 45-градуснымі маразамі і вакол чужыя людзі і няма дзе прытуліцца. І ў тых сібірскіх умовах без свайго вугла, з малымі дзецьмі, без сваёй бульбіны і без сваёй дваюраднай і стрыечнай радні выжыць, як старым, так і дзецям будзе немагчыма. А змагацца з дзяржавай, якая толькі што разграміла фашызм — гэта проста неразумна і таму трэба ісці ў калгас. Арганізуем калгас, там канечне не салодкае жыццё, але жыць можна, усё ж такі ў сваёй хаце і не трэба хавацца. Свая бульбіна з скваркай заўсёды будзе і кожную ноч будзеш спаць у сваёй хаце пад цёплым бокам жонкі.

Вось так я прыкладна ім патлумачыў і мяне адвезлі ў Суботнікі. Назаўтра мяне паклікалі ў Баравікі і падалі заявы, і мы арганізавалі калгас, далі назву імя Дзімітрава, як раз тады памёр у Балгарыі іхні камуністычны кіраўнік Дзімітраў.

У вёсцы Залессе была сапраўдная барацьба. Аднойчы, калі мы прыбылі брыгадай з 12 чалавек, мы пайшлі па двое па хатах і нам ўдалося сабраць 8 заяў. Адзін селянін сказаў, што калі возьмеце заяву ў Мікшы, што жыве на хутары, то і ўсе пададуць заяву ў калгас. Мы пайшлі да Мікшы, Пакіцька з вобласці, я і ветурач Крукаў. У гэты час яны, убачыўшы нас пачалі хаваць самагон. Пачалася барацьба. Нас трое і іх трое, і вось з гадзіну патузаліся, стаміліся і пайшлі з вёскі. На наступны дзень панаехала начальства з раёна і калгас быў створаны. Потым былі створаны калгасы яшчэ ў вёсках Вадолі, Хілевічы і Валоева. Я працаваў, памагаў арганізоўваць калгас у самім мястэчку Суботнікі.

Неяк прыехалі з МГБ увечары і сказалі, што самых злосных будуць браць. Я падлавіў момант і шапнуў вартавому, каб бег і папярэдзіў майго гаспадара Івана Юралевіча, таксама дзеда — так называлі Пазняка і Івана Багушэвіча. Той праўда, хуценька паведаміў, і Юралевіч Іван, таксама дзед Пазняк у апошняю хвіліну паспелі

ўцячы, а вось Багушэвіч замешкаў і яго прыхапілі. Праз некалькі дзён яго адпусцілі, але ён скардзіўся, што яму дасталася моцна. Урэшце ў Суботніках сабралі смаленскіх галадранцаў і з дзясятак бедных сялян і арганізавалі калгас імя Варашылава. У астатніх абрэзалі землі ў калгас і асноўнае сялянства не вытрымала, пачало падаваць заявы ў калгас.

Неяк прыехаў нам. старшыні райвыканкама Арцём Нікалаенка і кажа:

— Ведаеш, чаго я прыехаў? Будзем зачыняць касцёл.

Я ў адказ яго пытаю:

— А дзе ты жыць будзеш? Тут — тады зачыняй. А калі паедзеш дадому ў Іўе, то дазволь мне вырашаць, мне тут жыць і працаваць.

Пасля гэтага хуценька паведаміў эканомцы ксяндза, якая прыслала пачастунак, урэшце касцёл не быў зачынены. Наўрад Нікалаенка гэту авантуру дзеля торбы прыпыніў, напэўна проста вырашылі не выконваць рашэнне райвыканкама.

Шмат складаных спраў адбывалася ў маю бытнасць на тэрыторыі сельскага савета.

Аднойчы, помню, ноччу падыходзіць да акна і стукае вартавы сельпо, кажа, што банда сельпо рабуе. Я кажу, хуценька паведамі свайму дырэктару, няхай падымае ўзброеную каманду з санаторыя. І вось стральба, кулі ляцяць уздоўж вокан маёй хаты. Я крычу, кладзіся Аня на падлогу, ляжым, а дзіця забыліся ў калысцы. Потым развіднела, «банду» палавілі з трох чалавек, высветлілася, што гэта мясцовыя падшыванцы.

Раней неяк забілі сакратара сельсавета і злавілі бандыта сапраўднага Ш. Худзенькі, маленькі, а справы рабіў брудныя. Яшчэ помню, злавілі бандыта У. Сядзеў у сельсавеце, покуль не прыйшла машына за ім з МГБ. Гэта яго ў прошлым годзе арыштаваў участковы Хомчык, але напала банда і Хомчык быў забіты, а У. уцёк.

Аднойчы раніцой, на світанку, пастукаў мясцовы агент райфа Тучкоўскі, каб я адчыніў дзверы і выйшаў да яго. Я



адказаў, што яшчэ цёмна, выходзіць не буду, і не адчыніў яму. Калі развіднела, я выйшаў і Тучкоўскі сказаў мне што вывесілі польскі сцяг. Мы пайшлі да паліклінікі, Тучкоўскі зняў сцяг і прынёс мне. Сцяг быў з белага матэрыялу і вышыта чырвонымі літарамі па-польску «Нех жыве тшысты май» гэта дзень польскай канстытуцыі. Мы гэты сцяг занеслі ў санаторый і аддалі зампаліту Карабаеву, які пад аховай завёз у МГБ у Іўе. Потым прыехалі з МГБ, забралі агента Тучкоўскага і яшчэ двух мужыкоў, звязалі рукі калючым дротам і павезлі ў Іўе.

Пазней мне казалі адзін санаторац і каваль Мінка Антось, што яго бандыты прыхапілі на вуліцы, а санаторца каля сельсавета ўвечары. І калі прывезлі ў лес, то важак банды патрабаваў у санаторца руку працягнуць, хтосьці з банды сказаў, што ў яго сухая рука. Значыць, санаторца схапілі замест мяне, думалі што старшыня сельсавета, але выйшла памылка.

Тучкоўскага потым адпусцілі, высветлілі што гэта ён вывесіў сцяг пад каманду банды, потым ён працягваў працу фінагентам.

Да таго як мяне паставілі старшынёй сельсавета, на гэтай пасадзе працаваў Вінгур таксама Тучкоўскі, а я быў яшчэ дырэктарам маслазавода, адбыўся такі выпадак. Памерла пані, сапраўдная памешчыца і нам паставілі задачу — памагчы пахаваць памешчыцу і падзяліць яе маёмасць між яе рабочымі і парабкамі, якія яе даглядалі. Вось В. Тучкоўскі папрасіў мяне, каб я памог ў гэтай справе. Мы паехалі ў памесце Даўгелаўшчына, і памаглі падзяліць яе маёмасць сярод людзей па справядлівасці. Частку мэблі і літаратуру ўзялі на карысць сельсавета. Помню была падшыўка газеты «Русские ведомости», я перачытваў іх, вельмі цікавае выданне.

Але вернемся да падзей тых дзён. Калектывізацыя ў асноўным была скончана ў сельсавеце. Я пераехаў з сям'ёй ў больш камфортную кватэру, да гаспадара Гражынскага, дом якога быў паблізу туберкулёзнага санаторыя інвалідаў ВАВ, праз дарогу сасновы лес і прыкладна з кіламетр сана-

торый. Калі пераехаў на новую кватэру, то хацеў запрасіць на наваселле старшыню райвыканкама Лукашэвіча Сяргея Іванавіча і пракурора раёна Лаўрышкава, якія некалькі дзён знаходзіліся ў сельсавеце па калгасных справах.

Я раздабыў самагонкі і запрасіў начальства ў госці. Пасля пачастунку я пачаў паціху казаць, што сельсавет ужо калектывізаваны амаль цалкам, людзі што спачатку ўступалі ў калгас, былі ў лепшым настроі, а зараз яны ачухаліся, апомніліся, і вельмі злыя, яны ненавідзяць мяне, я гэта адчуваю. І пры тым мне надакучыла праца ў сельсавеце, я маральна стаміўся, хачу на гаспадарчую работу, дзе я ўбачыў бы вынікі сваёй працы. Начальства мне адказала, што «наогул я маю рацыю, і мы падумаем, куды цябе ўладкаваць». Работа працягвалася ў сельсавеце, прыходзілася вырашаць найважнейшыя пытанні ў ужо створаных калгасах, і з кожным днём я адчуваў усё ўзрастаючую небяспеку для сябе. Яшчэ вакол было шмат банд, ды банда Ёргеля давала пра сябе знаць. У суседнім Юрацішскім раёне і ў нашым раёне банда забівала ні ў чым не вінаватых людзей, гвалцілі настаўніц і забівалі.

Пасля нараджэння майго першага дзіцяці Жэнечкі мы паехалі ў Трабы, там была праваслаўная царква і ахрысцілі дзіця.

Фурманам быў дзед Пазняк, якога мы паважалі і можна сказаць, што сябравалі. Гэта быў брат гаспадыні, дзе мы былі на кватэры, Міхаліна Юралевіч. І вось гэта ўсё усплыло.

Нехта з’ездзіў у Трабы, узяў у святара выпіску аб тым, што хрысцілі дзіця і паслаў у абкам, з абкама пераслалі ў райком і на пярвічную партарганізацыю. Разбіралі, хацелі выключыць з партыі, але далі строгую вымову з занясеннем у заліковую картку. Як радаваліся некаторыя мясцовыя дробныя начальнікі. З партыі мяне не выключылі, таму што начальнік санаторыя Ігнатовіч таксама зрабіў такое самае дзеянне, а яго выключаць з партыі было нявыгадна. Мяне моцна абараняў Нартуз Джубінабаевіч Корабаў, сын казахскага народ, ён да мяне вельмі добра адносіўся.



У 1949 годзе мяне напаткала вялікае гора — памёр мой малодшы брат, як жыў і працаваў у Іўі. Сэрца яго ўсё—такі даканала. Гэта моцнае ўзрушэнне для мяне. Ён пакінуў маленькую дачку Леначку і жонку Надзею. Праз нейкі час жонка Надзя з дачкой паехала жыць у Маладзечна. Я потым будучы ў камандзіроўках часцяком заязджаў да іх. Затым Надзя выйшла замуж і апошні раз яны не паказалі Леначку, сказалі што яна дзесьці гуляе. Я зразумеў, што Надзея не жадае, каб я бачыў Леначку, і з таго часу перастаў заязджаць. Мішу пахавалі ў Іўі на могілках. Я моцна перажываў гэтую страту, апошні брат родны. Як добра нам было пры сустрэчах, і наогул ён быў добры, добразычлівы хлопец, і вось у самым росквіце пайшоў з жыцця. Як гэта цяжка і несправядліва. Ён наогул пакутаваў ад слабога сэрца, а яшчэ тры гады турмы, гэта яго канчаткова падарвала здароўя, якое ўжо ніяк не магло аднавіцца. Урач была сама ленінградка, і колькі мы імкнуліся адправіць яго ў Мінск, урач казала, што не давязём да Мінска, так і застаўся ў Іўі і памёр.

І з усёй нашай даваеннай сям’і застаўся я і сястра Аня, якая жыла ў Іўі і працавала на маслазаводзе.

(Я яшчэ тады калі працаваў упраўляючым маслапрама, уладкаваў яе і дваюрадную сястру Таню лабарантамі на маслазаводзе. Яны закончылі курсы лабарантаў і працавалі Таня лабарантам, а Аня прыёмшчыцай масла. Ганна прыехала з Оршы, дзе яна працавала на аршанскім ільнокамбінаце і казала, што далей немагчыма быць ў Оршы. І вось прыехала да мяне, прыйшлося прыстройваць у сябе. Таццяна таксама, калі я быў на радзіме ў вёсцы Поташня, адкуль родам мая маці, брат маёй маці Восіп са мной разгаварыўся і папрасіў памагчы прыстроіць дачку. Таня прыехала да мяне і я ёй памог уладкавацца. Як раз у гэты час я жаніўся, вось і атрымалася — тры жанчыны, а есці няма чаго…)

Тым часам ў Суботніках жыццё працягвала кіпець, у кожным калгасе, толькі што створаным, былі упаўнаважаныя ад райкама, абкама, і ЦК партыі. Шмат хто з іх

нічога не разумелі ў сельскай гаспадарцы, але энергічна праводзілі ў жыццё палітыку партыі і ўрада, і дзе справы не рухаліся часта даставалася старшыням сельсаветаў — нібыта я быў вінаваты. Абагульвалі сельгасінвентар, коней, забіралі насенне. Наогул работы было шмат дурной і няўдзячнай. Народ узлаваны, крык, шум, адзін аднаго вінавацяць. Амаль палову сялян яшчэ не ўступілі ў калгас і з імі праводзілі жорсткую лінію райфа і раймінзаг, накладвалі кулацкія падаткі і за ўсе гэтыя шышкі ўскладалі на старшыню сельсавета. Помню такі выпадак: у вёсцы Баравікі абклалі падаткам кулацкім Воцюка Юхневіча, Казлоўскага і яшчэ трэцяга, я тады яшчэ не быў старшынёй сельсавета.

І вось ужо пры мне, калі стварылі калгас Дзімітрава, пасля выбараў, раніцой заязджае нам. Старшыня аблвыканкама Маркаў, Герой Савецкага Саюза, былы камандзір брыгады партызан на Мядзельшчыне. Зайшоў у дом, папрасіў вады напіцца і гаворыць: — Паехалі, паглядзім тваіх кулакоў у вёсцы Баравікі.

Селі ў машыну паехалі, па дарозе ён пытае:

— Што яны з сябе ўяўляюць гэтыя кулакі.

Я кажу:

— Гэта выключна працавітыя сяляне, маюць вялікі аўтарытэт у мясцовых сялян.

Ён тады і пытаецца, навошта ж мы падаткам кулацкім іх абклалі. Я тлумачу, што гэта рабілася без мяне, і прычына ўсяму, каб хутчэй загнаць у калгас насельніцтва.

Маркаў і кажа:

— Ну што ж, зараз збяром мужыкоў і даведаемся, ці праўду ты казаў?

Прыехалі ў вёску, хуценька сабралі сялян, гэта было раніцой, усе яшчэ былі на сваіх сядзібах, набілася поўная хата людзей.

Маркаў і пытаецца:

— Што сабой уяўляюць вашы кулакі, вось ваш старшыня гаворыць, што яны добрыя працавітыя людзі, ці праўду ён кажа? Мужыкі натуральна закрычалі, што людзі яны



працавітыя, дружныя і падатак кулацкі ім наклалі дарэмна. Маркаў яшчэ пагаварыў аб жыцці-быцці, аб калгасе, пацікавіўся чым яны незадаволены. Сяляне аднагалосна прагаласавалі каб зняць з аднавяскоўцаў кулацкі падатак. Пасля гэтага ён паехаў у Іўе, даў патрэбныя загады мясцовым уладам і падатак кулацкі з гэтых сялян быў зняты.

Будучы ў Іўі я заўсёды заходзіў да начальства, і калі яны прыязджалі ў Суботнікі, я заўсёды ім успамінаў пра сваю просьбу, каб мяне вызвалілі ад пасады старшыні сельсавета і далі якую-небудзь гаспадарчую пасаду. Будынак сельсавета я добра адрамантаваў, пафарбаваў, абставіў мэбляю, дываны, сталы, стулікі, што раней належалі памешчыцы. Пры сельскім савеце быў клуб, бібліятэка, там таксама навялі парадак. Загадчыкам клуба быў партарг Крывашэін і бібліятэкар Васіленка. Абодва ад санаторцаў прыжаніліся, так і засталіся жыць у Суботніках. Толькі адну заўвагу зрабіў начальнік МГБ Гібала Мікалай Агеевіч:

— У цябе большасць мэблі і сталы пафарбаваны ў карычневы колер і таму сельсавет мае падабенства на гестапа і нават стулік у старшыні з высокай спінкай.

Сесіі і выканкамы мы праводзілі рэгулярна, нават больш чым было запланавана, бо так патрабавалі абставіны. Заўсёды каля сельсавета дзяжурылі нарады па два чалавека вартавых і ўдзень і ў ноч.

Аднойчы, калі я быў у Іўі ў старшыні райвыканкама Сяргея Іванавіча Лукашэвіча, ён запытаў, каго будзем ставіць на маё месца, толькі каб быў мясцовы і каб не меў сувязей з бандай. Я назваў кандыдатуру фінагента Тучкоўскага Валенціна. Я кажу, што ўжо ён паднатаскаўся, пачаў лепш сябе трымаць, ведае сельсаветаўскую працу, а з бандай — гэтага я не ведаю, па-мойму, яны ўсе звязаны з ёй.

Лукашэвіч паведаміў мне, што пытанне гэта яны ўзгадняць з райкамам і МГБ, а я каб покуль маўчаў і рыхтаваўся да сесіі.

— Цябе мы забяром дырэктарам райнарыхтканторы «Нарыхтсыравіна» на месца Царова.

Я вельмі быў рад такой навіне і цярпліва чакаў сесіі. Дзесьці ў лютым прыехалі начальства і сабралі сесію сельсавета, мяне вызвалілі і паставілі старшынёй сельсавета Валянціна Тучкоўскага. Ён потым доўга працаваў на гэтай пасадзе, закончыў Магілёўскую саўпартшколу.

## Іўе

Я ў пачатку сакавіка прыняў кантору «Нарыхтсыравіна». Гэта кантора раённага значэння. Аклад быў мяне 610 рублёў, мы нарыхтоўвалі скуру, шэрсць, пушніну. У нас быў штат: бухгалтар, рахункавод, касір, дырэктар, заг. склада, заг. шапіка, 4 рабочыя, 12 няштатных зборшчыкаў сыравіны і 3 штатныя зборшчыкі. У нас былі мука і цукар для атаварвання паляўнічых за здадзеную пушніну, шрот і порах для 110 ці 120 паляўнічых раёна, якія былі вызваленыя ад лесанарыхтовак і здабывалі пушніну: скуркі зайцаў, кратоў, ліс, ваўкоў, куніц, выдры, і другіх звяроў.

Гаспадарка была амаль ў цэнтры, на другой вуліцы на поўдзень ад цэнтра. Будынак вялікі, відаць канфіскаваны ў нейкага заможнага чалавека. У доме канторы было жыллё (бухгалтар жыў), пад будынкам вялікі склад, у двары студня, унізе на адлегласці 0,5 км ад будынка гумно, дзе ляжала сена і знаходзіліся коні. Вакол гумна і дома быў не агароджаны сад, ім карысталіся ўсе, хто хацеў, не давалі саспець яблыкам, зрывалі з лісцем, поўная безгаспадарчасць.

Мяне паслалі ў абласную кантору на пацвярджэнне. Я прыехаў ў Маладзечна, сустрэўся з упраўляючым абласной канторай «Нарыхтсыравіна» Іванам Фёдаравічам (Янкелем Фолкавічам) Шмідовым. Ён са мной паразмаўляў і даў згоду, выдаў даверанасць на права фінансавых аперацый у Іўеўскім дзяржбанку. Увёў у курс усіх пытанняў, якія неабходна будзе вырашаць, пазнаёміў мяне з работнікамі абласной канторы. Я як паглядзеў, божа мой, усе адны яўрэйчыкі, чорныя, кучаравыя. Ну, думаю, с гэтым народам не прападзеш, толькі трэба іх слухаць і не ўмешвацца ў іх справы, галоўнае не спрачацца.

Прыехаў дадому ў Іўе, я знайшоў кватэру ў нейкага амерыканца, аж зняў тры пакоі па 50 рублёў за кожную і паехаў ў Суботнікі за сям'ёй. Перавёз сям'ю—жонку і сына. Аннушка зразу адмовілася ад двух пакояў, і засталіся мы ў адной з аплатай 50 рублёў. Райспажыўсаюз назначыў Анушку галоўным бухгалтарам раймага. І зажылі мы шчаслівым жыццём. Здаецца лёс змілажаліўся над намі, Бог пашкадаваў і паслаў нам дзве такія добрыя работы. Сына Жэню накіравалі ў дзіцячы сад, які быў адзін у райцэнтры і знаходзіўся ў другім канцы горада, прыходзілася на руках насіць праз увесь горад, і гэта ў асноўным рабіла маці жонкі.

Я ж як заўсёды акунуўся з галавой у працу, пачаў націскаць на збор скурсыравіны, пушніны. Сабраў паляўнічых, завёз ім порах, шрот, мукі, цукру. На сходзе іх атаварылі і паляўнічыя былі вельмі задаволены. Я паставіў дадатковы пытанне аб агароджы садоў і мы дамовіліся, што ўсе хто мае коней (а большасць паляўнічых былі аднаасобнікамі) прывязуць жэрдкі і частакол, а тыя хто не мае коней зробяць плот вакол сада. Тут жа вызначылі, хто колькі і калі зробіць.

Я павінен сказаць, што ўсе паляўнічыя адрэагавалі вельмі дружна. Быў завезены матэрыял: слупкі, жардзіны, штыкетнік, і паляўнічыя дзесьці ў канцы красавіка пачатку мая, усё загарадзілі. І ўжо ў сезоне 1951 года сад даў добры ўраджай, было шмат яблык і груш. Адну машыну паслаў ў абласную кантору для работнікаў, зразумела бясплатна, і начальнік Шмедаў быў вельмі задаволены. Частка яблык была прададзена і грошы зрасходавалі на пагашэнне затрат на цвікі і нанялі вартаўніка на 2 месяцы. Праца была вельмі цікавая, шмат знаёмых звярталіся за дапамогай на куплю сыравіны для хромавых ботаў і па магчымасці іх просьбы выконваліся. Жыццё наша наладжвалася.

У красавіку вызвалілася дзяржаўная кватэра ў будынку гарсавета ззаду і мы яе занялі з дапамогай кіраўніцтва. Мяне выбралі партаргам раённага камітэта па загатоўках (начальнік Прусакоў). У мяне склаліся сяброўскія адносіны з заг. склада яўрэям Гумніцай.

Ён нас забяспечваў па нармальных цэнах харчаваннем: мукой, цукрам. Мяса нам абыходзілася 1 кг за 1 руб. Затым мы купілі карову, даілі і ў нас было малако, смятана, тварог. У раймагу Аннушка заўсёды даставала, што трэба з вопраткі і харчаванне. У цэлым жыццё рабілася багацей і цікавей.

Адно было кепска, што мяне замацаваў райком за калгасам і прыходзілася амаль увесь час знаходзіцца там. Так мне яны надакучылі і спрацівелі: МТС кепска працаваў, тэхнікі было мала, мужыкі сабаціравалі, старшыні мясцовыя п’янствавалі, гаспадаркі ішлі на развал. Народ быў незадаволены і нам ўпаўнаважаным прыходзілася цяжка і не заўсёды мы маглі нешта зрабіць, бо ад нас іншы раз нічога не залежала. Можна было толькі крыху змякчыць наступствы дзяржаўнай палітыкі.

«Быў такі выпадак, калі нас двух ўпаўнаважаных* паслалі ў адну вёску для вырашэння нейкіх пытанняў. Позні́м восеньскім вечарам, амаль ноччу загарэлася вясковая хата, народ кінуўся тушыць, але дзесьці ў гаспадара былі схаваная скрынка з патронамі і яны пачалі рвацца, вясковы народ аслупянеў ад жаху, а потым проста завыў. Хаты тады стаялі блізка адна ад другой, стрэхі былі саламяныя і маглі гарэць як порах, падняўся вецер, паляцелі галавешкі ў розныя бакі. Страляніна ад патронаў працягвалася, народ не ведаў што рабіць. Былі такія выпадкі, што пры пажарах згаралі цэлыя вёскі. Наперадзе блізкая зіма, а ў тыя часы зімы былі працяглыя, снежныя і з моцнымі маразамі за трыццаць градусаў. Жанчыны загаласілі.

---

* З вусных успамінаў аўтара. Назва вёскі і прозвішча другога ўпаўнаважанага, на жаль, не захаваліся ў памяці родных.



Я напружана думаў, потым ускочыў на ганак, падняў руку ўверх і крыкнуў: — Слухай маю каманду. Бярыце дзяругі, мачыце ў вадзе і накрывайце стрэхі суседніх хат дзяругамі. Палівайце іх вадой. Мужчыны бярыце багры і расцягвайце сцены хаты на бярвенні з тога боку дзе няма страляніны.

Людзі там былі талковыя і жвавыя, зразу ажылі і пачалі дзейнічаць. Мітулям нанеслі дзяруг, намачылі вадой, накрылі стрэхі, потым пачалі баграмі расцягваць бярвёны хаты, паліваць вадой. Пажар затушылі і вёску выратавалі. Пад раніцу вельмі задаволеныя мужыкі пачалі пацiскаць мне руку, казаць:

— Вялікі дзякуй! Як ты здагадаўся наконт дзяруг? Каб ні ты, згарэла б вёска. Сталі б пагарэльцамі перад зімой.

У хату дзе мы прыпыніліся на начлег, мужыкі ішлі, неслі самагонку, закуску, сала, частавалі ад душы. У пагарэльца было шмат сваякоў у вёсцы і мужыкі казалі, што ён не прападзе, сельсавет выдзеліць лес, а вяскоўцы памогуць збудаваць яму хату. Галоўнае, што вёска выратавана.

Мой таварыш, другі ўпаўнаважаны збег, а ў раёне наплёў, што напала банда. Потым прыйшлося ў райкаме тлумачыць, як было на самай справе. Пасмяяліся тады з майго таварыша, як у яго ад страху намалявалася ў вачах банда.

А я пераканаўся яшчэ раз, якая вялікая роля кіраўніка, тога хто можа даваць правільныя разумныя каманды і тады людзі з вялікай ахвотай і энтузіязмам будуць гэтыя каманды выконваць.

Вясной у сакавіку, калі снег дзе-нідзе ляжаў, упаўнаважаных паклікалі ў райком і паставілі задачу па вывазу з раёна *ворагаў Савецкай ўлады*, так нам патлумачылі. (Гэта была чарговая партыйна-дзяржаўная акцыя.) Я быў назначаны разам з землямерам, былым лётчыкам Мірановічам — пасля вывазу гэтага «ворага», а гэту работу выконвала МГБ — стварыць калгас.

І вось ноччу, пад раніцу мы прыехалі ў вёску і афіцэр з салдатамі абкружылі гумно з адгароджанай бакавуш-

кай з двума маленькімі акенцамі. Афіцэр МГБ пастукаў у акенца. Гаспадар адчыніў, пачалі вобшук, нічога не знайшлі, толькі ў куфайцы знайшлі амерыканскія долары і фота польскага капрала — гаспадара з дзяўчынай. Гэты «*вораг*» быў андэрсаўцам, жаўнерам войска польскага, сфармаванага з палякаў, што жылі на тэрыторыі СССР і потым перайшлі праз Іран у Афрыку, дзе фарміравалася армія Андэрса, якая ваявала потым з немцамі. Вось гэтых людзей ізноў вывозілі.

Я ў душы моцна шкадаваў гэтую сям'ю, яны былі абсалютна ні ў чым не вінаватыя. І калі старшы лейтэнант даручыў мне арганізаваць і прыгледзіць за зборамі (а дазвалялася браць з сабой 1,5 тоны грузу), я даў распараджэнне каб людзі памаглі сабраць сям'і патрэбныя рэчы. Сабраліся радня, аднавяскоўцы. Пачаўся плач. Я ім прапанаваў: «Не плачце, а памажыце. Можна ўзяць 1,5 тоны грузу: забіце парсюкоў, забярыце карову сабе, а на гэта месца пару кабанчыкаў, збярыце хлеб, соль, вопратку, абутак, каб было не менш 1,5 тоны». Праўда, людзі там былі талковыя і хутка ўсё арганізавалі. У цэлым мы добра памаглі гэтаму няшчаснаму і яго сям'і. Іх павезлі на станцыю, а мы засталіся. З'явіліся падпітыя дзецюкі, пачалі прыдзірацца да нас.

Міранoвіч кажа:

— Што будзем рабіць, як калгас арганізоўваць?

Я яму адказваю:

— Ты што, хочаш, каб нас ў студню паўкідвалі? Я гэтага не жадаю.

З вёскі мы пешкам на станцыю, а адтуль хутчэй дадому і на гэтым для нас закончылася гэтая непрыемная, балючае, трагічнае дзейства.

У 1953 годзе ў сакавіку памёр Сталін і вельмі перажывалі па ім прадстаўнікі мясцовай улады. Ужо старшынёй райвыканкама стаў Сямён Данілавіч Карпушэнка, а сакратаром Вікенцій Карлавіч Сінчук з Мінска. Вельмі вялікая процілегласць Лукашэвічу і Сталярову.



## Татальная мабілізацыя на ўмацаванне калгасаў

На месца Сталіна стаў Хрушчоў. Пачаліся дэмакратычныяператварэнні краіны. Гэтыя рашэнні знайшлі адлюстраванне і ў жыцці Іўеўскага раёна. Пачалося ўзбуйненне калгасаў, падбор кадраў і пасылка ў калгасы на пасады старшынь узбуйненых калгасаў. У 1953 годзе з прыходам да ўлады Хрушчова жыццё неяк вельмі актывізавалася, народ пачаў смялей і больш шчыра размаўляць між сабой, чым пасля вайны, нягледзячы, што цяжка было з харчаваннем, але народ пачаў жыць весялей.

У нас у сям'і нарадзілася 1 мая дачка Ларыса, гэты дзень запомніўся на усё жыццё. Было вельмі цёпла, усё квітнела, цвіў бэз. Гэта быў асаблівы дзень 1 мая, да гэтага і пасля гэтага я не заўважаў столькі кветак. З намі жыла маці Аннушкі. Праца ў партарганізацыі ішла паспяхова.

Я атрымаў новую кватэру, побач з той дзе жыў, раней ў ёй жыў нам. пракурора Бізюк. Кватэра была лепшая, яна нас цалкам задавальняла. Жылі па тым часе выдатна, *і мне здаецца што з усёй пражытага жыцця гэта былі самыя шчаслівыя гады, калі мы жылі ў Іўі і я працаваў дырэктарам канторы «Нарыхтсыравіна».* Я тады пашыў скуранoе паліто, хромавыя боты, кажух вельмі файны.

Але 1953 год скончыўся, а з ім і ўвесь наш дабрабыт. Надыходзілі новыя выпрабаванні. У канцы года ўсё больш і больш пачалі пасылаць у калгас кіруючыя кадры работнікаў раёна на пастаяннае месца жыхарства, і вось майго сябра Пятра Пратасавіча Пазнякова паслалі ў канцы 1953 года старшынёй калгаса ў Сураж.

Надышоў 1954 год. У пачатку года ўжо была татальная мабілізацыя, куды трапілі і загадчык дзіцячага дома Кезля і Крукаў — загадчык рана і іншыя таварышы, у тым ліку і я. Нас сабралі ў райкаме і павезлі ў Гродна, у абкам партыі, мы ў той час ужо былі ў Гродзенскай вобласці. Я сярод усіх быў адзін інвалідам вайны і гэта давала мне надзею, што

мяне не зацвердзяць, але я глыбока ў гэтым памыліўся. На бюро абкама доўга асабліва і не гаварылі. Помню генерал справа ад мяне сядзеў і ўсё мне казаў, што быў дзесьці ў калгасе, то старшыня таксама інвалід, то ён пешкам не ходзіць, а ўсё на кані. Покуль ён гэтыя байкі казаў, бюро абкама зацвердзіла мяне кандыдатуру на пасаду старшыні калгаса ўзбуйненага калгаса. Калі я выйшаў у калідор, то ўбачыў т. Кезля — дырэктара дзетдома.

Той расказаў, што быў у другога сакратара абкама, свайго сябра, які яму зразу сказаў:

— Відна, Іўеўскае кіраўніцтва раёна сур'ёзна ўзялося за справу ўзбуйнення калгасаў, калі яно рэкамендуе такіх таварышаў, як Кезля.

І параіў не шукаць ніякіх лазеек, ад калгаса ўсё роўна не ўдасца збегчы. І ўсё ж такі Кезля ў калгас не пайшоў. Яго на пленуме райкама знялі з пасады дырэктара дзіцячага дома і выключылі з партыі. Пасле гэтага ён напісаў апеляцыю ў ЦК і даў згоду пайсці ў любы раён старшынёй калгаса, толькі не ў Іўеўскі. І тады ЦК узнавіла яго ў партыі і паслала ў Ашмянскі раён старшынёй, дзе ён і працаваў шмат год.

З Гродна з абкама партыі наша група накіравалася дадому. Вельмі сумны настрой быў у нас, кожны думаў пра сябе, я ж асабліва хваляваўся. Я ужо добра засвоіў жыццё ў вёсцы, працуючы ў Суботніках, колькі пакут прыйшлося там перанесці. І вось зараз, калі так усё добра ўладкавалася, пайшло добрае, спакойнае жыццё, і раптам усё разбурылася. Куды я паеду, куды павязу сям'ю, сваіх мілых дзетак, ізноў у вёску. Я ведаў, што калгасы ў той час існавалі толькі на паперы, уся маёмасць была ў сялян, таксама ўсе пасеяныя зерневыя належалі сялянам. Яшчэ дзейнічалі банды і ўжо пачалі прыходзіць былыя бандыты па амністыі, якую аб'явіў Хрушчоў, прыйшоўшы да ўлады. Прыехаў дадому разбіты, сумны. Жонка Аннушка пытае:

— Ну што прывёз? Відаць, ізноў паедзеш у вёску, ты без яе не можаш, я так і ведала.



Заплакала і кажа, знай, што я нікуды не паеду, хопіць з мяне Суботнікаў.

Вось так нечакана накінулася на нас гэтае ліха, і ніяк і ніхто не мог яго паправіць. Катэгарычна адмовіцца — гэта значыць страціць працу і ўсё астатняе. Так зрабіў Гарбуноў — дырэктар «Нарыхтлёну». Колькі ён, бядак, перанёс — і знялі з пасады, і выключылі з партыі, і вазілі па ўрачах, і ў газетах як толькі не плявузгалі, і так давялі, што ён сур'ёзна захварэў, злёг, але ў калгас не пайшоў. Я ж на гэта не пайшоў.

Стаў чакаць, што будзе далей, можа калгасаў не хопіць. І ўсё ж такі дзесьці ў канцы студзеня выклікалі, пытаюцца:

— Куды пойдзеш, у які калгас?

Я згадзіўся, назваў «Нёман» Марыйскага сельсавета. Там ужо было занята, туды пайшоў Кропаў.

Я кажу:

— А дзе не занята?

Мне назвалі некалькі вельмі глухіх вёсак. Я выбраў Жэмаслаўскі сельсавет, гэта 4 км од Суботнікаў на поўнач. Туды ўваходзілі вёскі Лаўкінікі, Шаркуці, Гута, Дабраполь-1, Дабраполь-2, Высоцкія і Падваранцы на хутарах, у кожнай вёсцы свой калгас, вось туды і я і рушыў.

## Калгас імя Кутузава

Прывезлі мяне ў клуб саўгаса Жэмаслаўль, начальства сабралі поўны клуб мужыкоў, пашумелі, пакрычалі і мяне зацвердзілі. Як назавём калгас? Мужыкі гавораць, што аб гэты казаць, няхай скажа сам старшыня. Я кажу:

— Назавём калгас імем Кутузава.

На тым і вырашылі. Пасля сходу, як звычайна, папойка. Завезлі мяне і бухгалтара спіртзавода, які быў побач, ну і канечне замачылі спіртам. Доўга сядзелі, шмат пілі, потым начальства села ў машыну і паехала дадому. Я і бухгалтар спіртзавода Осіпчык стаім, ён і пытае:

— Куды цяпер пойдзеш?

Я адказваю:

— Не ведаю, цяпер хоць у вір, ды рэчка замерзла.

Ён гаворыць:

— Пойдзем дап'ём, што засталося, пераначуеш у мяне, а раніцой бачна будзе.

На тым і вырашылі.

Раніцой прачнуліся, пахмяліліся, і я пайшоў у вёску Шаркуці, яна была побач. У дробных калгасах не было тады ні кантор, а старшыні нават баяліся гэтых назваў Але я ўсё ж такі адшукаў старшыню, з якім ў размове высветліў, што самыя лепшыя справы ў калгасе Суворава былі ў вёсцы Лаўкінікі, рахункавод там самы разумны і граматны.

З гэтым і накіраваўся ў вёску Лаўкінікі, канечне пехам. Там адшукаў рахункавода, ім быў Баляслаў Кропа — пажылы, вельмі талковы чалавек, і ўсё, што ён расказваў, мне падабалася, адчувалася шчырасць і чэснасць. Так я пасяліўся ў Лаўкініках, а Баляслаў Кропа стаў маім бухгалтарам, а Кропа Канстанцін маім намеснікам. Яны былі зацверджаны на агульным сходзе. Я запытаў Баляслава Кропу:

— З чаго будзем пачынаць?

Ён выклаў свой план, які быў у тым, што мы штодзень зоймемся знаёмствам з калгасам, прымем дакументы, якія меліся. Зачынялі папярэднія маленькія калгасы. Параіўшыся з людзьмі, давалі каманду брыгадзірам, што трэба рабіць. Так за тыдзень мы аб'ехалі ўсе вёскі.

Патрэбна была кантора, мы вырашылі зрабіць яе ў Шаркуцях. Дамовіліся з Васілеўскім, ён выдзеліў палову свайго дома. Затым паехалі ў вёску Дабраполь, заключылі дамову з дзвюма дзяўчатамі Юхневіч і Крашынскай, дакладней з іх бацькамі і яны згадзіліся адпусціць іх працаваць у кантору рахункаводамі. Затым з Падваранцаў прыйшла адна дзяўчына Юзя Мацкевіч. Такім чынам у нас ужо была кантора, бухгалтар і два рахункавода.

Цяпер я сваю ўвагу скіраваў на падрыхтоўку да вясны: торф, гной, інвентар, насенне. Пачалі ўцяпляць канюшні, ужо тады, калі вясна была на носе, гэта дзеля таго, каб людзі ведалі наперад, што жывёл трэба трымаць у цяпле і дагледзаць іх неабыякава. І ў будучыя гады гэта адыграла сваю пазітыўную ролю, не было выпадкаў, каб памяшканні не былі падрыхтаваныя да зімы своечасова.

Але справы ішлі кепска, брыгадзіры п'янствавалі, людзі іх не слухалі, справы не рухаліся, усё стаяла на мёртвай кропцы. Я біўся як рыба аб лёд і нічога не мог зрабіць. Нарэшце я выбіўся з сіл, застудзіўся і захварэў ангінай, схуднеў, гімнасцёрку прыходзілася зашпільваць булаўкай, а затым іголкай з ніткай, на 3 пальцы. Злёг канчаткова, тэмпература 39–40, есці не магу, ляжу суткі, двое, трое. На трэція суткі прарваўся нарыў у горле, стала лягчэй.

За гэты час чаго толькі не перадумаў. «Гэта мне за грахі такія мукі, за тое, што не адмовіўся. Бацьку і маці загубілі калгасы, а я ўлез у гэтую бездань».

А ў другое вуха іншыя думкі: «Што ты соплі распусціў, франтавік, прайшоў агонь і ваду і медныя трубы, адгрохаў такую вайну, быў в блакадзе, а тут — сала ёсць, самагонка ёсць, вайны няма — ачніся, вазьмі сябе ў рукі».

Божа мой, я мог застацца на Урале, дзе пасылалі мяне вучыцца, давалі добрую працу, давалі кватэру, дзяўчаты прасілі застацца. А я: «Не, паеду ў Беларусь». Вось і прыехаў.

Нарэшце на трэція ці чацвёртыя суткі я ўжо выпрацаваў план дзеянняў.

Неабходна, па-першае, увайсці ў давер да сялян, правесці сходы па брыгадах, выявіць разумных і заможных людзей, уплывовых, з іх ліку выбраць брыгадзіраў і саветы брыгадзіраў. Неабходна напрасткі паставіць пытанне: «Будзем усе змагацца за жыццё дружна, каб выжыць у гэтае ліха». Распавесці па сакрэце пра сябе, аб сваіх бацьках, якія сталі ахвярамі калгаснага ладу (гэта ў вузкім коле ўплывовых людзей), і дзейнічаць. Будзе атрымлівацца — працаваць, не — кулю ў лоб і на тым канец.

І вось пачаў я гэтыя планы настойліва праводзіць у жыццё. Першае сход правёў у самай вялікай і цяжкай вёсцы

Гута. Сабраў заможных мужыкоў параіцца з імі да сходу. І вось на сходзе пачаў напрасткі: «Хто з вас за польскім часам жыў і вёў гаспадарку лепш за ўсіх?» Яны называюць некалькі чалавек, у тым ліку Станіслава Васілеўскага, па вясковай мянушцы Мулер. Моцны, стройны мужчына, з чапаеўскімі вусікамі, гадоў 40–45.

Я прапанаваў выбраць яго брыгадзірам. Ён на дыбы, я, гаворыць на ўліку ў МГБ*.

Я кажу: «Няважна, здымем з гэтага ўліку». І вось усё ж яго выбралі. Які гэта быў выдатны брыгадзір. Ён шмат потым мне памог парадамі і справамі. Выбралі яшчэ 4 мужыкоў, моцных, разумных у савет брыгады, раздзялілі, што каму рабіць. І так пайшлі па ўсіх вёсках.

У гэты час прыехаў старшыня РПС Саўчык — начальнік маёй Аннушкі. Пабыў ён са мной на сходах дня тры і кажа: «А не пападзе табе ад райкама, што ты кулакоў ставіш на чале брыгад?». Я кажу: «Не павінна». Ох, і памыліўся ж я тады, ад райкама мне сапраўды моцна папала. Але я ад сваёй тэорыі не адмовіўся і гэтыя брыгады ўвесь час працавалі добра і працавалі выключна добра. Я тады да таго дайшоў, што іншы раз сяджу, ем, гаспадар кватэры нешта гаворыць, а я нічога не чую.

Дзесьці ў канцы сакавіка пачало распускаць. Я паехаў дадому ў Іўе, і напэўна таварыш Саўчык правёў размову з маёй Аннушкай, а можа доўгая разлука паўплывала, яна памякчэла, паглядзела на мяне і кажа: «Прападзеш без мяне, на каго ты стаў выглядаць, шукай кватэру і будзем пераязджаць».

Я вельмі абрадаваўся і паехаў у калгас. Дамовіўся на кватэру ў Паплаўскіх, жылі дзед і баба, яны на кухні, а нам аддалі пакой. Я помню, адно акенца ад ложку выходзіла ў хлеў і часта карова глядзела ў гэта акенца.

Паехаў у Іўе, ужо пачаліся паводкі. Папрасіў грузавую і легкавую машыны ў райвыканкаме і перавёз сваю сям'ю ў вёску Шаркуці — жонку, сына, дачку і цешчу. Жыць

---

*МГБ — Министерство государственой безопасности.



стала ўжо весялей, у мяне з'явілася надзея і настрой, ды і ў людзей у брыгадах таксама.

## Першая калгасная пасяўная

Неабходна было рыхтавацца да вясны, рыхтаваць плугі, бароны, патрэбны былі кавалі. Уся гэта праца праводзілася, усё было ўзята на ўлік — што ў якой брыгадзе і колькі чаго трэба рамантаваць, вазы, вупраж, хамуты, аброці, пастронкі. Трэба было разабраць, што дзе ёсць, колькі трэба насення, чаго не хапае. Усё гэта неабходна было дакупіць ці пазычыць у калгаснікаў ці абмяняць.

Помню, неяк яшчэ ў лютым выдзелілі па таннаму кошту 8 тон жыта ў «Нарыхтзерне» на станцыі Гаўя, гэта 18 км напрасткі. Мы жыта выкупілі і паслалі 1-ю брыгаду Лаўкінікі забраць жыта. Пагрузілі і прывезлі, і што вы думаеце, аднаго меха не хапае, нехта ўзяў. Давай разбірацца і высветлілася, што М. Броніcь, не даехаўшы да вёскі, адстаў і ўкраў мяшок. Мы яго выклікалі і кажам: «Ці мяшок аддавай, ці сядай, паедзем у Іўе, сядзеш у турму». Ён прызнаўся і вярнуў мяшок, папрасіў прабачэння. Гэты выпадак і яшчэ адзін далі нам вельмі важны ўрок, у будучым мы нікога і ніколі не пасадзілі ў турму, а самі разбіраліся і каралі сваім калгасным судом.

Другі выпадак кардынальна змяніў наш падыход да барацьбы з крадзяжамі. Павезлі малоць свінням фураж, і вось М. украў два мяхі і насыпаў узамен пяску. Мельнік саўгаса Казлоўскі выявіў падмену і выклікаў участковага Кухту і мяне. Мы з участковым павезлі М. у Іўе да начальніка міліцыі. Начальнік міліцыі кажа, што гэта не крадзеж, а шкодніцтва і выклікаў начальніка МГБ. Начальнік МГБ пачаў даказваць, што гэта прамы крадзеж. Яны спрачаліся цэлую гадзіну. Мне надакучыла гэта і я кажу: «Іван, паехалі дадому, там самі разбяромся». Але Івана М. не адпусцілі і далі яму некалькі год турмы. Вось

гэта быў адзін выпадак па нашай недасведчанасці, што наш калгаснік сеў у турму, больш мы такога не дапускалі. І калі гады праз тры прыехалі ў калгас абласны і раённы пракуроры і запыталі: «Што гэта ў цябе за калгас, што за тры гады не паступіла ні адной справы і не воднага чалавека не пасадзілі»? Я адказаў: «Мы самі абыходзімся, у нас не крадуць і не хуліганяць».

Але вернемся да асноўнай працы. Акрамя ўсяго гэтага, працы па падрыхтоўцы да пасяўной, ужо тады ўзнікла пытанне — куды ссыпаць зерня падчас жніва. У калгасе адзін свіран у 1-й брыгадзе, былым калгасе Суворава. Дамовіліся, падабралі гумны добрыя, шчыльныя, з добрымі саламянымі стрэхамі, выпрасілі лес, нарыхтавалі дошкі і абсталявалі ўжо да пасяўной такіх тры свірны — у Шаркуцях, Гуце і Высоцкіх. Выбралі на сходзе і паставілі трох сумленных кладаўшчыкоў — Грынюк, Быль і Ародзь у вёсцы Лаўкінікі. Свірны абсталявалі так: паклалі падлогу ўразбежку, дошкі добра прыбілі і столь. На столі захоўвалі ў асноўным зернеадыходы і моцна зачынялі, так што з гарышча не пралезці ўніз, калі не праламаць столь. Да жніва дошкі добра прасохлі, яшчэ прыбілі больш моцнымі цвікамі і свірны былі гатовыя. Трэба было адрамантаваць астатнія гумны, стрэхі, брамы, куды складзіраваліся снапы.

Далей трэба было думаць куды сабраць авечак, свіней і кароў. Запланавалі будаваць першы кароўнік у вёсцы Шаркуці, свінарнік і цялятнік ў Лаўкініках, другі кароўнік у вёсцы Гута, аўчарню ў Падваранцах, канюшні ў Шаркуцях, Гута і Высоцкія. Электрыфікацыя ў вёсках толькі пачыналася, электрычнасць была ў Шаркуцях і Лаўкініках. Патрэбна была дакументацыя для вёсак Гута, Дабраполь 1-я і 2-я, Высоцкія і Падваранцы. На хутарах мы потым самастойна паставілі дызель з дынама-машынай і далі свет. Патрэбна быў гараж з майстэрняй, таксама кантора. Але гэта ўжо потым, а зараз галоўнае — падрыхтоўка да вясны. Гною не хапала, торф знайшлі, узнялі амаль сухое балотца на полі каля Гуты. Там торфу было на 1,5–2 метра, затым ішоў выдатны іл, вельмі добрае ўгнаенне, па



навуковаму сапрапель. Мы гэтую «кудру» выбіралі тры ці чатыры гады. А потым выменялі на салому ў суседнім калгасе вёскі Рудзеўшчына такую самую «кудру» і адтуль вазілі сапрапель. У Шаркуці і Падваранцах вазілі торф з паплавоў рэчкі Гаўя, там яго шмат было.

Але падыходзіла пасяўная. Пачалі МТС прысылаць трактары з тэхнікай, адна брыгада на два калгасы: калгас Кутузава і калгас Калініна. Помню цяжкую дыскавую барану падзялілі на дзве секцыі на два калгасы. І калі гэтыя секцыі папрацавалі на полі ў двух кірунках, атрымалася не поле а магільнік.

Мы дамовіліся ўсё бульбовішча араць пад ячмень толькі коньмі, а таксама іншыя лёгкія грунты, а цяжкія полі араць трактарамі. Сеялі канечне ўсё ўручную, тады яшчэ не было сеялак, а калі і былі, то ніхто не ведаў, як імі карыстацца. І вось вясна, глеба саспела.

У 1-й брыгадзе выйшла 37 конных плугоў, у 3-й — 23, у 2-й — 42, у 4-й — 16, у 5-й — 14, у 6-й — 12, і пайшло, паехала. Падрыхтоўка глебы ішла з тыдзень, потым пачаўся сеў. Калі сеялі зерневыя, прысутнічаў я ці старшыня рэвізійнай камісіі Грынюк ці бухгалтар Кропа. Без нас сеяць не маглі, брыгадзіры не хацелі браць на сябе адказнасць. Трэба адзначыць, што брыгадзіры разам з тым, што яны кіравалі ў брыгадах, яны разам працавалі з калгаснікамі і ім налічалі працадні за выкананую працу і за кіраўніцтва брыгадай. Праўленне і я гэта дазволілі. Брыгадзіры вялі ўлік выкананых аб'ёмаў работ кожным калгаснікам і рахункаводы ў канторы залічалі. Трэба адзначыць, што яны гэтую працу выконвалі добрасумленна, хаця частка брыгадзіраў умелі пісаць толькі па-польску.

Сеў у нас прайшоў добра, нідзе не было ніякіх непаразуменняў. Яравыя пасеялі, пачалі саджаць бульбу, развозіць гной, сеяць лубін на ўгнаенне пад восеньскі пасеў жыта. Калі пасадзілі бульбу, пачалі рыхтаваць глебу пад лён, уносіць курыны памёт пад барану пасля ворыва, «лён любіць цвёрды ложак і мяккую коўдру». І вось добра прыгрэла сонца, брыгадзір Васілеўскі з брыгады

прайшоў басанож і кажа: «Будзем сеяць лён». Неабходна адзначыць, што планёрак ніякіх мы штодзень не праводзілі ў той час. Пасяджэнне праўлення рабілі па неабходнасці, а ўсе пытанні вырашалі на радзе брыгады, і я штодзень быў у кожнай брыгадзе. У мяне быў беленькі конь пад сядлом, ці на брычцы аб'язджаў штодзень усе брыгады ў час пасяўной і жніва і ўсе пытанні вырашаліся на месцы.

Пасля пасеву лёну трэба яшчэ было пасеяць грэчку. Помню, першы раз гэта было ў пачатку чэрвеня, калгаснікі некалькі раз выязджалі ў поле і вярталіся назад нічога не пасеяўшы. І вось аднойчы, я пад'ехаў да поля, а ў гэты час калгаснікі бягуць да коней, насыпаюць у лубкі насенне і давай сеяць. Я пабыў каля іх, покуль яны сеялі, а як закончылі, кажу: «Гэта вы, напэўна мяне напалохаліся і пабеглі сеяць, вы ж ужо тройчы выязджалі і ўсё ніяк не пасееце». Яны мне адказваюць: «Не, не гэта, а іншае. З'явіліся ватныя хмары, і вылецела муха грачанка — вось момант пасеву грэчкі. Ураджай будзе добры.». І пачалі баранаваць. Баранаваць грэчку трэба некалькі разоў. Сялянская прымаўка: «Пыл на баране — блін грачаны на патэльні». І потым жыццё пацвердзіла гэты досвед не адзін раз. У той год мы атрымалі грэчкі па 8 цэнтнераў з гектара, а на наступныя гады ураджай давялі да 12–16 цэнтнераў. Вось што значыць сялянскі досвед і веды. А нам потым колькі я ні працаваў на Магілёўшчыне ўсё вучоныя дзяўблі, што грэчку трэба сеяць у мае, і начальства патрабавала гэтага, і ніколі больш 5–6 цэнтнераў з гектара мы грэчкі не атрымлівалі.

Яшчэ адна бабовая культура якую мы высявалі — гэта серадэла. На насенне мы высявалі ў чыстым відзе, а на кармы — па жыту. Сеялі серадэлу для калгаснага жывёлагадоўлі і для калгаснікаў, бо ў калгасе на 1200 гектараў узаранай зямлі было толькі 186 гектараў выгану і і 42 гектара сенажаці на паплавах рэчкі Гаўя. Таму мы высявалі серадэлу і канюшыну. Канюшыну падсявалі па жыту і касілі на наступны год, а серадэлу рана вясной, калі яшчэ глеба мерзлаватая, па жыту сеялі, а восенню



пасля ўборкі жыта касілі. Калі зжыналі жыта, серадэла хутка падымалася і літаральна праз месяц яе можна было касіць. Калі восень была сухая, то убіралі серадэлу на сена, а калі дажджлівая, то на зялёнку. Рабілі вешалы з жардзінамі і раскладвалі на вешалы, а затым скормлівалі жывёлам. Трава замярзала, яе завозілі ў гумны, адтайвалі і давалі жывёлам.

Вось так пасяўная была завершана нядрэнна, пачаўся догляд за пасевамі яравых, ячмень і лён асабліва. Па льну спачатку трэба было паганяць блыху, якая літаральна на пяты дзень пасля узыходу асабліва нішчыць лён. Тады гербіцыдаў не было, і жанчыны ўсю зіму збіралі пячны попел. За попел мы плацілі, і вось гэтым попелам мы знішчалі блыху льняную і адначасова падкормлівалі лён. Акрамя гэтага унасілі курыны гной, таксама збіралі ў калгаснікаў за плату і падкормлівалі пасевы. Праполку праводзілі ўручную. І ў гэтым праблем не было, бо за травой усе людзі ганяліся, ды яшчэ налічалі за гэтую працу добра, а траву яны мылі і сушылі для асабістай жывёлы на зімні перыяд. Ячмень таксама палолі і свірэпку ўручную, таксама праблем не было. Сеялі таксама гароды, буракі, гуркі, капусту для сваіх патрэб.

Вось такая праца была ў калгаснікаў да сенакосу, з гэтай працай спраўляліся. Акрамя таго ішло будаўніцтва кароўніка ў Шаркуцях. Туды вазілі каменні для бетаніравання падмуркаў і слупоў, а затым праёмы між слупамі закладвалі бярвёнамі. Матэрыял выкарыстоўвалі з гумнаў сялянскіх, якія было складана ўзнавіць, не было стрэх, вось іх разбіралі і ўкладвалі ў сцены кароўнікаў.

Вось такая праца вялася вясной і летам у першы год працы. Будаўнікі былі мясцовыя калгаснікі, гэта вельмі працавітыя людзі. Кіраваў брыгадай будаўнікоў Франусь Грынюк — вельмі талковы і працавіты чалавек, ён заслугоўваў вялікай павагі.

Можна ўспомніць, як яго брыгада ў шэсць чалавек у 1955 годзе збудавала кантору памерам $10 \times 12$ м$^2$. Зрабіла падмурак, пачасала бярвенні, зрабіла дах, вокны, дзверы,

падлогу і столь, а таксама перагародкі. Пачала першага красавіка, а скончыла да 1 траўня. Першага ўжо праводзілі ўрачысты сход. Праўда печы не паспелі зрабіць. Вось гэта была прадукцыйнасць працы. Пры тым усё самі нарыхтоўвалі: на дах самі нарэзалі дранкі, і сталярку — вокны і дзверы — таксама рабілі самі. Вось дзе праца, што можа чалавек, толькі дай яму магчымасць для працы, ды зацікаў. Здзівіўся увесь раён, як гэта магло быць, многія не паверылі. Кантора была гатова, у ёй размяшчалася зал на 100 месцаў, бухгалтэрыя і маленькі кабінецік. 1 мая, як і дамовіліся, было праведзена ўрачыстае пасяджэнне расшыранага праўлення, прысвечанае 1 Мая.

Будаўніцтва кароўніка ішло ўжо ў першым годзе поўным ходам. Акрамя таго праводзілася праца па ачыстцы ад хмызняку выганаў з наступным дыскаваннем і ўзворваннем тэрыторыі. Векавыя вясковыя выганы зараслі куп’ём з чырвоным імхом, а таксама хмызняком і ядлоўцам. Па-сутнасці, дзесьці толькі 15–20 адсоткаў плошчы было карыснай. Вось на гэтай працы і працавалі калгаснікі да жніва. Асабліва шмат працы было задзейнічана ў вёсцы Дабраполь, 60 гектараў такіх выганаў. Пасля ачысткі ад хмызняку, задыскавалі, парэзалі дзернавіну, у тры— чатыры прайшлі дыскавай бараной, а затым зааралі. Калгаснікі смяяліся, што так глыбока зааралі, дасталі жаўцяк, ні будзе нічога расці. Я ім казаў, што будзеце прасіць яшчэ, каб соткі тут атрымаць. І трэба адзначыць, што на гэтай дзялянцы расла вельмі добрае жыта, асабліва на другі год карыстання, а на трэці год мы рызыкнулі і пасадзілі бульбу. Якая гэта была выдатная бульба, уражай вельмі добры.

І на наступны год калгаснікі сапраўды папрасілі даць гэтую зямлю пад соткі, што і было зроблена. Яны паклалі якасны гной і восенню пачалі капаць, то калі я прыехаў паглядзець, то сам здзівіўся, усе дзялкі былі застаўлены мяшкамі з бульбай. Бульба ўрадзіла выключна якасная. Такім чынам, гэты галоўны участак быў прыведзены ў парадак. Сорак гектараў пайшло на ворыўную зямлю, астатняе пад выган. Падсеялі травы, разнатраўя і гэта задаволіла патрэбы калгаснікаў. Астатнія ўчасткі выганаў у Лаўкініках, Высоцкіх, Гуце і балота ў вёсцы Шаркуці прыводзілі ў парадак крыху пазней. На гэтай справе мы моцна папрацавалі, і асабліва на балоце, дзе першы год нічога не ўрадзіла, а на наступны год быў выдатны травастой.

Урэшце прыйшоў час жніва, жыта ўжо саспела паўсюль, закончылі будаўніцтва «азярэдаў» под лён. Справа ў тым, што ў гэтых месцах сяляне выбіралі лён у раней васковай спеласці. Церабілі лён, зразу ж завозілі ў гумны на ток. Там было уладкавана бервяно на два бакі, дзе снапы закручвалі, каб пры ачосе не вырывалася саломка, і ачэсвалі галоўкі. Саломка ішла на рассціл, а іншы раз яе спачатку замочвалі. Два тыдні паляжыць у вадзе, а затым вымаецца і рассцілаецца на выганах для канчатковай вылежцы. Валокны ад гэтага лёну, што замочвалі ў мачулішчах, было белае, як шоўк і ішло найвышэйшым нумарам 16–18. А той, які адразу рассцілалі, ляжаў тры тыдні, іншы раз месяц і ішоў 20–22 нумарам. Калі месяц жнівень быў сухі, яго пераварочвалі. Потым паднятую і высушаную трысту звозілі ў гумно, дзе яно захоўвалася да перапрацоўкі. Перапрацоўвалі яе ў кожнай брыгадзе асобна. Рабілі сушылкі — гэта нешта як лазня. Там трэсту сушылі, затым трапалі і здавалі дзяржаве. Гэта работа ішла зімой. Валакно ішло высокім нумарам, за гэта атрымлівалі вялікія грошы, таксама выдавалі ў вялікай колькасці пшаніцу, алей, цукар. Усё гэта выдавалі калгаснікам, помню атрымлівалі вёдрамі.

Дык вось пасля цераблення і ачосу галовак, галоўкі дасушвалі і малацілі. У гэтых мэтах у кожнай брыгадзе будавалі «азярэды». Гэта рабілася так: убіваліся ў зямлю слупкі двума радамі, шырынёй прыкладна 2,5–3 метры, да слупкоў прыбіваліся планкі знізу даверху на адлегласці 0,6–0,7 метра, затым рабілі насціл жэрдак ачышчаных ад кары і падсохлых, і так 4–5 радоў. Зверху дах двухбалкавы, каб дождж не залівау, і на жэрдкі рассцілалі салому, а на салому клалі льногалоўкі роўным слоем прыкладна

20–30 см. Каб яны не прэлі, рэгулярна пераварочвалі, каб галоўкі сохлі.

Да гэтых «азярэдам» замацоўваўся чалавек, каб глядзеў і пераварочваў своечасова. Затым па меры высыхання іх звозілі да малатарні і малацілі, частку якога пакідалі на насенне, астатняе здавалі дзяржаве. Азярэдаў у калгасе было ў кожнай брыгадзе па 4–6 штук. Было 12 звенняў, па два звяна ў кожнай брыгадзе. Калгас за лён атрымліваў вялікія грошы, мы сеялі яго па 60 гектараў.

## Першае выпрабаванне — жніво!

Тым часам прыйшло жніво — першая ўборка зерня ў калгасе. Цяжкасць заключалася ў тым, што частка жыта пасеяна сялянамі як аднаасобнікамі і належала па факту ім, а ўбіраць пасевы належала калгасу і ўраджай належаў калгасу. Уборка ўжо кіпела ў суседніх калгасах — ім. Сталіна, Куйбышава і іншых. Там сядзелі пракурор, органы карныя, саджалі мужыкоў, а яны ўсё роўна жалі і вывозілі ў лес, іх лавілі. Усё гэта ведалі я і нашы калгаснікі. Што ж рабіць, як выкруціцца з гэтага становішча? Мы дамовіліся жаць покуль што калгаснае жыта, а там бачна будзе. За 3–4 дні гэта работа была зроблена. Я даю каманду: «Жніце і свае надзелы». А сяляне баяцца, не ведаюць што рабіць Я паехаў у другую брыгаду дзе брыгадзір Станіслаў Васілеўскі і вырашыў пагаварыць шчыра, што рабіць. Гавару брыгадзіру: «Пакліч дзядоў сваіх, параімся і што-небудзь прыдумаем. Так і зрабілі. І вось мы выпрацавалі такі план: «Кожны сажне свой участак, выдзелім два ці тры гумна, калі жыта падсохне, яго звязуць у гумны, кожны аддзеліць свой уражай ад іншых жэрдачкамі. Я прышлю малатарню, вы жыта абмалоціце і разбярыце кожны сваё зерня і салому. Зерня абавязкова ўзважыць і запісаць у ведамасці, нібы атрыманне авансу з абавязковым роспісам. Сходаў не праводзіць, пагаварыць з людзьмі на хаду — каля студняў, на стайні, на полі. Гэту працу трэба зрабіць хутка, у тры дні. Я пастараюся нікога да вас не пускаць і сам не паеду. Пасле заканчэння мне аддасце ведамасць. Астатніх брыгадзіраў прышлю да цябе, ты ім усё раскажаш і няхай дзейнічаюць.

Нам гэтую працу трэба зрабіць хутка і акуратна. Калі што дойдзе да вярхоў, то мне першаму пападзе, бо хлеб дзяржаве мы яшчэ не здалі. Таму адказнасць на мне вялізная і на вас таксама. Глядзіце каб стукач не знайшоўся і не сапсаваў справу. Калі пойдзем па іншаму шляху, вы ведаеце, што робіцца ў іншых калгасах. Пры гэтым ужо пачалі вяртацца былыя бандыты і я не хачу ляжаць у студні на дне.

Вось мужычкі падумалі і падтрымалі першы прапанаваны варыянт. І я павінен адзначыць, што гэта мерапрыемства прайшло без ніякіх цяжкасцей і складанасцей. Некаторыя мужыкі не паверылі і павезлі з поля дадому і самі малацілі цапамі. Гэта чалавек 5, яны таксама былі ўлічаны і з іх аванс у далейшым утрымалі. Гэтым я яшчэ больш дасягнуў даверу ў працалюбівага сялянства і мне потым сталі больш верыць, а гэта вялікая справа. Па астатніх брыгадам таксама было зроблена такая работа.

Я яшчэ з кожным брыгадзірам перагаварыў і ўдакладніў некаторыя дэталі і ўсе справы па жніву пасеянага для сябе жыта былі закончаны паспяхова. Канечне, калі б дасканала, як у сталінскія часы было праверана, то нікуды б не дзеліся ад пакарання ні старшыня ні брыгадзіры. Напэўна новыя хрушчоўскія часы, а можа наогул надакучыла змагацца з сялянамі ў іншых калгасах, а можа яны і не ведалі нічога, але ўрэшце пранесла.

Пачалося жніво ячменю, а потым аўса. Усё жніво, як і жыта праводзілася ўручную, сярпамі, і мы за 4 дні зжалі. Пачалося жніво ячменю, а потым і аўса. Уся ўборка праводзілася ўручную, сярпамі. Мы за 4 дні зжалі жыта, за 2 дні —ячмень, за 1 дзень — авёс. Грэчку пазней таксама зжыналі сярпамі.

Трэба было думаць наконт малацьбы, рыхтаваць насенне, здаваць хлеб дзяржаве і выдаваць на працадні. У калгасе ад МТС быў адзін камбайн. І вось будучы ў МТС мы ўбачылі, што ў іх шмат стаяла спісаных вялікіх малатарань. Мы папрасілі дырэктара даць нам тры малатарні. Ён згадзіўся. Мы знайшлі газазваршчыка, заплацілі яму, і ён абрэзаў ніз, перад і зад малатарні, пакінуў адзін барабан, пад ніз мы паклалі санкі і гэтыя малатарні ў нас выдатна працавалі. Да гэтага часу мы ўжо купілі два трактары ДТ-12, якія і круцілі барабаны.

Вырашэнне справы па жніву пасеянага для сябе жыта прынесла веру ў людзей, узняло іх настрой і яны лепш удзельнічалі ў калектыўнай грамадскай працы. Трэба сказаць, што ўсё ж такі былі калгаснікі, якія не сеялі жыта, асабліва ў брыгадзе 3-й Шаркуці і калгаснікі гэтых брыгад бурчэлі, але іх было меншасць і яны баяліся выступаць супраць.

Калі жалі калгаснае жыта, то кожны дзень тры рахункаводы з канторы пад вечар ішлі ў брыгады, па дзве брыгады на кожную, яны лічылі колькасць нажатых снапоў. Гэта не так складана, як можна падумаць. Яны лічылі бабкі, па 10 снапоў у кожнай бабцы (8 снапоў у бабцы і два звязаных зверху накрывалі, каб не замоклі ў перыяд дажджоў). Пасля таго як жыта зжыналі, яно стаяла па 3–5 дзён, а іншы раз і тыдзень-другі, у залежнасці ад таго, якая пагода стаяла. Толькі пасле таго, як снапы добра прасохнуць, іх везлі ў гумны, і дзяўчаты —рахункаводы таксама лічылі, колькі снапоў трапіла ў гумно. Быў адзін выпадак, калі ў шостай брыгадзе вёскі Высоцкія не хапіла 6 коп, гэта 60 снапоў. Іх знайшлі ў лесе ў зямлянцы, частка ўжо абмалочаных. Каб зберагчы ад крадзяжу ноччу акрамя вартавых яшчэ выязджалі 2 атрады на конях, якія аб’язджалі брыгады. Часцяком і я ўдзельнічаў у гэтых рэйдах.

Рахункаводы раніцой прыносілі вынікі падліку снапоў. Такім чынам, я кожны дзень ведаў, колькі ў якой брыгадзе нажата снапоў і да заканчэння жніва, яшчэ да абмалоту снапоў я ведаў, колькі ў якой брыгадзе будзе хлеба. Адзін сноп даваў 2 кілаграма зерня. І так усе культуры — ячмень, авёс, грэчка, лён.

Калі звозілі снапы на конях, то абавязкова засцілалі вазы дзяругамі, каб пазбегнуць страты зерня. Малацілі зерневыя пасля ўсіх работ, у асноўным зімой, бо гэтак больш эканомна выкарыстоўвалася салома. Яна ішла на корм жывёл. Буйна-рагатыя жывёлы і коні кармілі ў большасці саламянай рэзкай. У дзень карова атрымлівала 10 кг рэзкі. Былі спецыяльныя саламарэзкі, якія прыводзіліся ў дзеянне трактарам ДТ-12 ці электраматорам. Саломы наразалі ў запас на 3–5 дзён. У 10 кг рэзі ўваходзілі 4 кг жытняй, 3 кг ячменнай і 3 кг серадэлы ці канюшыны. Побач у нас быў спіртзавод, які забяспечваў бардой жывёлу саўгаса Жэмаслаўль, ну і нам перападала. Я пад’ехаў да кіраўніцтва спіртзавода, даў ім канюшыны для саўгасных кароў, яны давалі нам барду. Былі зроблены скрыні і на параконках вазілі гэтую барду. Спачатку даяркі прама з скрынь разбіралі барду і палівалі ёй саламяную рэзку. Каровы вельмі добра елі і давалі шмат малака. Пазней, калі ўжо былі збудаваныя кароўнікі, спачатку ў Шаркуцях, а затым у Гуце і Лаўкініках, мы зрабілі ямы, забетаніравалі. Частка ямы заходзіла ў кароўнік і зачынялася накрыўкай, а частка была звонку дзеля зліву барды. Гэтыя ямы дазволілі нам заўсёды мець барду ў запасе, бо іншы раз спіртзавод прыпыняў сваю працу.

Канцэнтратаў было мала, мы іх выкарыстоўвалі ў асноўным на корм свінням і маленькім цялятам. І толькі калі адсутнічала барда, то пасыпалі сечку канцэнтратамі, спачатку іх зрабіўшы вільготнай. Коням давалі авёс восенню, зімой і асабліва вясной. Вось таму мы малацьбу вялі не спяшаючыся, бо калі гумно снапоў абмалочвалі то атрымлівалася 2 гумна саломы. Так як запасных гумнаў не было, то салому звозілі ў гумно, дзе рэзалі сечку, і паступова па расходаванню сечкі вялі малацьбу.

Зразу пасля жніва мы пачалі малаціць для закладкі запасу насення, патрэбна было сеяць жыта, далей — здаваць дзяржаве і выдаць аванс калгаснікам. Так што, лічы 40%

мы зразу пасле уборкі малацілі. Гумны да гэтага часу былі ўсе адрамантаваныя, асабліва стрэхі. Выдавалася салома ў снапах для рамонту стрэх у прыватных гаспадарках гумнаў, хлявоў і хат. Тады гэтыя калгаснікі самі малацілі салому цапамі пад кантролем кладаўшчыка. Зерня здавалі ў калгас, а снапы забіралі сабе. Кладаўшчык зачыняў іх у гумне на замок, пакідаў ім 2 вядры: адно з вадой, другое «па-патрэбе», каб не замачылі зерня.

Сартавалі зерне, накупілі веялак, ды і ў калгаснікаў былі невялікія, яны працавалі ад электраматораў. Іх круцілі ўручную, гэта не вельмі цяжка, толькі надакучліва.

Разам з жнівом, пачалі рыхтавацца да сяўбы азімых. Аралі пад азімыя ячменішча, серадзелішча, канюшынішча. Увесь сеў азімых праводзіўся ўручную. Азімыя сеялі пасля «Прачыстай». Спачатку абавязкова пасвяцілі ў касцёле, а затым сеялі, таксама пад наглядам, бо ў тыя часы крадзеж квітнеў. Калі не нашы калгаснікі, то суседзі ці з Літвы пад’язджалі.

Вялікую ўвагу рабілі ільну. Пасля вылежкі падымалі і звозілі трэсту ў гумны да кастрычніка. А ў кастрычніку жанчыны пачыналі мяць і трапаць лён. Была распрацавана сістэма аплаты, асноўная і дадатковая і калгаснікі, асабліва жанчыны вельмі стараліся. За лён яны атрымлівалі вялікія грошы, расліннае масла, цукар. Акрамя ўсіх выплат, якія плаціў калгас калгаснікам, яшчэ атрымлівалі за лён брыгадзіры і звенавыя. Помню такі выпадак, атрымаў вялікія грошы брыгадзір 2-й брыгады вёскі Гута Станіслаў Васілеўскі. І вось з усёй вёскі усіх мужыкоў пачаў клікаць да сябе. Сабраў усіх, дзе колькі было самагонкі і закускі — усё закупіў і добра пачаставаў мужыкоў. А калі добра ўсе пагулялі — палічыў грошы. Высветлілася, што страціў толькі адну трэціну. Тады ізноў назначыў дзень, закупіў бычка, кабанчыка, гарэлкі і зрабіў цэлы бал. Жанчыны таксама атрымалі падарункі. Звенавыя, атрымаўшыя грошы, ці куплялі падарункі жанчынам ці палову грошай раздавалі. Лён здавалі вельмі высокай якасці, таму і атрымлівалі вялікія грошы.



Пасля жніва жыта, таксама рабіліся дажынкі ў кожнай брыгадзе. Гарэлку выраблялі самі, а закуску прыносіў кожны сваю і ставілі на агульны стол, усе імкнуліся быць лепшымі з сваімі стравамі і закуска атрымлівалася вельмі добрая і разнастайная.

Усё гэта зносілася на сталы, што стаялі ў гумне, упрыгожаныя зялёнымі галінкамі бярозы. Да пачатку святкавання прыязджаў старшыня, віншаваў з дажынкамі, жадаў здароўя, казаў колькі ў брыгадзе будзе хлеба і натуральна выпіваў кілішак, дзякаваў і рушыў далей — трэба было паспець пабываць ва ўсіх брыгадах. А ў 1-й брыгадзе ўжо заставаўся да канца. Было шмат песень, і добра гулялі, танцавалі.

Быў і такі звычай. Звычайна, калі чалавек ідзе па дарозе ўзбоч працуючых людзей, казалі: «Памагай Бог», але зараз, ці тое жартам ці назло людзі пачалі казаць: «Дарма робіш». І адказвалі: «Праўду кажаш». Прыйшлося з гэтым змагацца. Але ўсё роўна гэта працягвалася да тога часу покуль не пачалі добра атрымліваць на працадзень. У першы год мы выдалі па 2 кг хлеба і 2, 5 рублі на працадзень і з кожным годам усё павялічвалі, а апошнія гады майго кіравання ў калгасе ім. Кутузава мы выдавалі па 4 кг зерня і 7 рублёў на працадзень. У тыя часы суседнія калгасы нічога не атрымлівалі ці атрымлівалі капейкі. І калі я выязджаў у Дзявенішкі ў Літве ці Трабы на рынак, то часцяком чуў ад людзей: — Вунь Кудравец пайшоў! Народ мяне называў Кудравец.

Але гэта было потым, а да гэтага яшчэ далёка, трэба было шмат працаваць.

Бульбу мы выкапалі хутка, прымянілі індывідуальную здзельшчыну — выдавалі 10% ад выкапанага. А ў 1956 годзе далі 20%, тады рана маразы пачаліся і бульба засталася некапанай ва ўсіх калгасах. І толькі наш калгас усё выкапаў, не пакінуў ні воднага гектара нявыбранай бульбы.

Вось так мы першы год з Боскай дапамогай і падышлі да заканчэнню. Шмат канечне было і непарадку. Яшчэ шмат хто паказваў нязгоду з калгасным строем, асабліва

тыя, хто вярнуўся з турмы, а іх было больш 30 чалавек. Частка з іх вялі сябе ціха, працавалі і не выпучваліся. А былі і такія, хто гатовы быў ізноў ісці ў турму. Але я быў вельмі цярплівы і стрымана адносіўся да іх выхадак, асабліва калі адзін маёр МГБ неяк прагаварыўся:

— Калі б я мог паказаць табе як у кіно, што ў цябе ў калгасе робіцца, колькі тут варожых людзей і што яны вытвараюць, то ты тут ні воднага дня не быў бы, збег бы. На ўсялякі выпадак трымай пісталет, толькі ў ім два патроны.

Так я стаў ужо «узброеным» чалавекам. Праўда, аднойчы, я сарваўся. Прыйшоў у кантору адзін з тых, хто быў пакараны за бандытызм з вёскі Гуты і пачаў здзекавацца над бухгалтарам Баляславам Кропам, якога я вельмі паважаў, ён вельмі шмат мне памог у станаўленні калгаса. Дык вось ён пачаў яго зневажаць: «Як гэта ты, Кропа, быў «белы» і стаў ужо «чырвоны»? Як хутка пачырванееў, не перашкодзіла б табе пусціць кроў, каб ты ізноў пабялееў». Я выбухнуў, падскочыў да яго і кажу: «Ах жа ты гад! Цябе нічому не навучылі і турме!» І за каўнер, і Кропа памог і выспяткам пад дупу выкінулі з канторы. Потым з ім была яшчэ сустрэча ў вёсцы Гута. Я прыехаў вясной і трэба ж зрабіў памылку, пайшоў адзін глядзець у гумнах колькі засталося саломы, кармоў і сустрэў гэтага бандыта. Ён і кажа: «Вось мы зараз з табой паквітаемся і вымае «багнэнт», гэта нож-штык ад нямецкай вінтоўкі і да мяне. Я не разгубіўся, а хутка выхапіў пісталет і да яго: «Вось я табе зараз прасвідрую ў ілбе». Праўда ў пісталеце да гэтага часу ні было ўжо ніводнага патрона. Ён замешкаў, я ў гэты час абяззброіў яго. Я штык забраў, сеў на каня і з’ехаў. Больш ён да мяне не прыставаў.

Быў яшчэ адзін бандзюга ў Падваранцах, праўда яго з турмы не выпусцілі. Яго прывезлі, рабілі дадатковае следства па факту забойства ўчастковага ў мястэчку Суботнікі. А справа была так. Лейтэнант, прайшоў вайну, малады, сімпатычны прыехаў пасля фронту ў Суботнікі і пачаў працаваць участковым міліцыянерам. Гэта было яшчэ да майго прыезду ў Суботнікі. Дык вось гэты ўчастковы заходжваў на Антопаль, гэта вуліца такая ў Суботніках. Там ён заляцаўся да дзяўчыны, з якой быў звязаны гэты бандыт з Падваранцаў. І вось, калі зайшоў участковы, там ужо сядзелі гэтыя бандыты за сталом і выпівалі. Натуральна, запрасілі за стол і ўчастковага, ён жа не ведаў, што яны бандыты. І калі выпілі, то адзін бандыт узяў бязмен і ўдарыў участковага па галаве. Затым яны яго дабілі і разрэзаўшы па частках перанеслі і закапалі ў яме за Суботнікамі. У гэтым чорным злачынстве былі замешаны і дзяўчына і яе маці, якія пераносілі астанкі міліцыянера. Уся гэта справа высветлілася ў 50-м годзе і ізноў гэтага бандзюгу прывозілі на месца злачынства. Пасля чаго забралі дзяўчыну і яе маці і пасадзілі.

Яшчэ хадзіў на свабодзе бандыт, які забіў агента Жэмаслаўскага сельсавета Грынюка. Гэта было злачынства здзейснена незадоўга да майго прызначэння старшынёй калгаса. Чорная злачынства было зроблена ў вёсцы Высоцкія, 6 брыгадзе, у доме Венскеля. Агент сядзеў у доме ўвечары. Яшчэ было не позна. І вось праз акно грымнуў стрэл і чалавека не стала. І што характэрна, што агент райфа забіты ў вёсцы Высоцкія быў жанаты на настаўніцы родам з Чавускага раёна Магілёўскай вобласці. Сам Грынюк быў мясцовы, з суседняга калгаса родам. І вось ягоная жонка, якая паехала ў водпуск на радзіму сустрэла пры вяртанні чалавека ў масцы, які стрэліў у яе і пабег у лес. У гэты час ехаў малакавоз, кіроўца ўбачыў гэта і падвёз жанчыну. Ён бачыў чалавека ў масцы, які страляў у настаўніцу. Гэта сведчыць, што жонка Грынюка і сам Грынюк добра ведалі забойцу і не выключана, што яны ведалі і пра ягоныя цёмныя справы, таму ён і вырашыў прыбраць іх з сваёй дарогі.

І галоўнае, што ён хадзіў на волі. І аднойчы, мне распавяла Аннушка выпадак, калі яна ішла з вёскі Высоцкіх, была на прымерцы ў мясцовай краўчыхі Венскеліхі. Венскеліха пайшла праводзіць яе да Жэмаслаўля. І вось каля ляска па дарозе Жэмаслаўль–Дзявенішкі нечакана выйшаў Донусь, брат брыгадзіра 5-й брыгады. А ўжо цямнела, і

яны спалохаліся, Венскеліха крыкнула: «Ну ты, Донусь, і напалохаў!». Ён засмяяўся і схаваўся ў лесе. Пасля гэтага мне стала зразумела, што не выключана магчымасць, што гэты Донусь мог здзейсніць чорную справу забойства Грынюка. Але не злавіўшы — не дакажаш, ён працаваў агентам пасля Грынюка.

Вось такія абставіны патрабавалі пільнасці, што не заўсёды ўдавалася выконваць. Толькі Гасподзь Бог верагодна памог пазбегнуць такога лёсу. Значыць неабходна было яшчэ жыць.

Прыйшла зіма. Калгас разлічыўся з дзяржавай па ўсім планам: па зерню, па бульбе. Пачалася малацьба зерневых, апрацоўка ільну. Трэба было сушыць, затым мяць, а потым трапаць трасту. У кожнай брыгадзе было па два звяна, адно мне, другое трэпле, кожны сваё, і кожная жанчына асобна і яе лён з біркай здаецца. Вазілі лён здаваць у асноўным звенавыя ці іх мужы ў райцэнтр у Іўе, здавалі высокай якасцю 16–18–22–24 нумарамі і атрымлівалі вялікія грошы.

Ішло будаўніцтва кароўніка ў Шаркуцях, рабілі сцены, дах, столь, падлогу.

## Брыгадны гаспадарчы разлік Венскеля

Калгас рыхтаваўся да справаздачы на сходзе. Падлічвалі рахункі: што зроблена, што недагледжана. І вось праўленне сабралася, пачалі шумець багацейшыя брыгады, наязджаць на бяднейшыя, а тыя аднекваюцца.

І вось брыгадзір Венскель кажа: «Ведаеце, браткі, мае продкі і дзед і бацька жылі без вашага хлеба на сваім і таксама не хочам, каб вы нас папракалі. Давайце дамовімся дзяліць па брыгадам.».

Так у нас нарадзіўся свой брыгадны гаспадарчы разлік, вельмі просты і вельмі зручны. Быў збудаваны ён наступным чынам. Устанаўліваўся агульнакалгасны фонд — гэта



дзяржаўныя і агульнакалгасныя расходы, разлік з дзяржавай, утрыманне ў калгасе адміністрацыі, ферм, будаўніцтва і іншыя расходы. У кожнай брыгадзе ішоў адлік у гэтыя фонды — хлеб, бульба і другія каштоўнасці. Памер адліку быў у залежнасці ад якасці зямлі. Сярэднія былі дзве брыгады, гэта значыць, яны выплачвалі ім устаноўленыя 100 %, вышэйшым устанаўлівалася надбаўка + 20%, а бяднейшым скідка — 20%. Астатняе дзялілася між членамі брыгады і ішло на агульнабрыгадныя патрэбы. Такі гасразлік у будучыні адыграў вялікую ролю. Прыязджалі вучоныя, вывучалі наш досвед. І мы працягвалі так працаваць да канца.

Помню першы раз атрымалі лепшыя брыгады па 2,2 кг. Хлеба, сярэднія па 2 кг. Бяднейшыя па 1,8 кг, у сярэднім па — 2 кг і грошы. Дзяўчаты-рахункаводы выключна дакладна лічылі і колькі не было потым праверак ні разу не было выяўлена злоўжыванняў.

Ужо ў наступныя гады пачалі атрымліваць па 4 кг зерня і па 7 рублёў грошай на працадзень.

Я неяк разгаварыўся з брыгадзірам 2-й брыгады Васілеўскім Станіславам і кажу яму «Вось цяпер у нас сапраўды справядлівасць, няма ніякага ашуканства». А ён мне адказвае: «Не, я не згодзен. Несправядлівасць усё роўна ёсць і яна ў наступным. У мяне ў сям'і два працаздольных — я і жонка, і двое дзяцей малых. Зямлю я здаў у калгас вельмі добрую і ў два разы больш, чым такія галадранцы, як Лукашэвіч, які здаў зямлі ў два разы менш мяне, а дзяцей у яго ў тры разы больш чым працаздольных. Выходзіць яны на маёй зямлі зарабляюць у два разы больш, чым мая сям'я. Вось ваша справядлівасць. Я, канечне, хлеба атрымліваю шмат і грошай таксама. Толькі Лукашэвіч і другія галадранцы больш». Я з ім згадзіўся і давай шукаць, як паглыбіць гаспадарчы разлік, каб улічыць і гэты несправядлівае пытанне. Трэба было акрамя ўкладзенай працы яшчэ ўлічыць, колькі і якой зямлі было абагулена ў кожнай сям'і, колькі коней, кароў, авечак, вупраж і г. д. Усё гэта не заўсёды можна было знайсці ў дакументах,

прыходзілася весці апытанне. Але такі гаспадарчы разлік не мог здзейсніцца, набеглі новыя справы, новая палітыка кіраўніцтва, аб чым будзе сказана далей.

Справаздачны сход быў у клубе саўгаса Жэмаслаўль, які быў у маёнтку графа Умястоўскага. Яго тытул быў такі: ваявода Ашмянскі, маршалак Варшаўскі граф Умястоўскі. Маёнтак — гэта дзівоснае тварэнне чалавечага генія, паркетная падлога, кафельныя печы, сам двухпавярхові прыгажун палац на беразе возера, выдатны парк вакол яго. На кафлі малюнкі з баек. Наогул, гэты палац — унікальная архітэктурная рэч, выключна прыгожы будынак. Там былі на першым паверсе кантора саўгаса Жэмаслаўль, сельсавет і дзіцячы сад—яслі. На другім паверсе былі клуб і склады. Трэба сказаць, што за выключэннем дзіцячага сада, усе астатнія пакоі былі перароблены на рускі лад: загаджаны, абшарпаны, на кожнай кафліне цвіком было надрапана мацерныя словы з трох ці пяці літар, вокны выбіты, частка зачынена фанерай. А ў парку частка дрэў былі спілаваныя, астатнія захламлены смеццем. Наогул быдла і ўсё, вось што значыць наша, а значыць нічыё. З журбой можна было глядзець на гэтую жыццёвую сучаснасць, такое геніяльнае тварэнне ператварылі ў брыдоту.

Сход праводзіўся арганізавана. Падчас майго даклада была абсалютная цішыня, было чутна, як муха пралятала. Былі выступленні. Начальства пасля сходу было запрошана і на свае кроўныя я рабіў пачастунак. А я тады атрымліваў толькі 800 рублёў, вось і разгуляйся. Пасля сходу выдаваўся канчатковы разлік: зернем і грашыма.

Зімой праводзіліся загатоўкі торфакампосту, торф перакладвалі гноем. Торфу мы шмат вывозілі. Чысцілі насенне, заканчвалі апрацоўку льнотрасты, праводзілі рамонт плугоў, барон, нарыхтоўвалі лес для будаўніцтва. Лес вывозілі коньмі. Заканчвалі будаўніцтва кароўніка ў Шаркуцях і там жа рыхталіся будаваць майстэрні. Так што працы на ўсю зіму хапала. Мы з сям'ёй перайшлі на кватэру да Блажыеўскіх, дзе раней жыў Лабкоў, старшыня



суседняга калгаса імя Калініна, ён перабраўся ў другі дом. Тут было крыху лепш.

За гэты час змянілася кіраўніцтва раёна і першым сакратаром райкама стаў Ксенафонт Харытонавіч Дагура, вельмі талковы чалавек, просты і чэсны. Старшынёй райвыканкама стаў Качкоў, таксама неблагі чалавек. З імі мне было лягчэй працаваць, яны мяне лепш разумелі і памагалі, наколькі ў іх было магчымасцяў. Былое кіраўніцтва ўсё ж такі зрабіла сваю чорную справу ў адносінах да мяне: яны не ўключылі мяне ў спісак дваццаціпяцітысячнікаў (накіраваных партыяй ў калгасы) для атрымання 1,5 тысячы рублёў у месяц згодна пастановы ЦК, матывуючы, што мой калгас моцны, і мне хопіць зарплаты калгаснай.

Я быў вымушаны падаць заяву аб звальненні, і тады новае начальства сабрала сход і на ім мне зацвердзілі 1200 рублёў. Калгаснікі патрабавалі, каб мне далі ад калгаса партыйныя 1500 рублёў і гэтыя 1200 рублёў калгаснай зарплаты, але пакінулі толькі 1200. Трэба сказаць, што за ўсё маё працоўнае жыццё толькі з Ксенафонтам Харытонавічам Дагурам, і ў Быхаве пазней з Анатолем Васільевічам Маслаковым мне было лёгка працаваць, яны разумелі калгасныя цяжкасці і праблемы. А так увесь астатні час мне было лягчэй працаваць з працоўным народам, чым з кіраўніцтвам. І невыпадкова за ўвесь час ад ўсесаюзнай выставы атрымалі толькі два бронзавых медалі, а ордэна мне ў асноўным абласныя кіраўнікі націскалі на раённых і тыя вымушаны былі вылучаць да ўзнагароды.

## Кіруючы актыў калгаса

Зіма ў напружанай працы прайшла, нарыхтоўвалі гной, збіралі курыны памёт, попел пячны, ішла падрыхтоўка да вясны. Жыта мы сеялі 55–60 % ад воранай зямлі. У гэтай справе добра памог бухгалтар Кропа, засведчыўшы, што жыта дае большы ўраджай зерня і саломы, чым іншыя

культуры. І мы паслухалі яго парады. Баляслаў Кропа пабацькоўскі раіў па ўсіх пытаннях, ад душы, ад чыстага сэрца, і яго парады прыносілі часта вялікую карысць.

Да вясны, другой вясны майго кіраўніцтва ў калгасе імя Кутузава ўжо склаўся ў нас актыў, кіруючы актыў калгаса, які цалкам уплываў на хаду спраў у калгасе, ад іх залежалі ўсе справы і ўся эканоміка калгаса. І хоць потым у наступныя гады і прыйшлі новыя людзі актыву: аграном, заатэхнік, інструктар, але яны не мелі асобага ўплыву на калгасныя справы. Па-ранейшаму заставаўся той першапачатковы касцяк, гэтыя людзі, трэба сказаць, былі людзі з вялікім сумленнем і стараннем і дбайнасцю. Сярод іх быў Баляслаў Кропа самы старэйшы, бухгалтар калгаса. Жыў ён на хутары каля вёскі Лаўкінікі, хутар называўся Божы Дар. Гэта чалавек сціплы, ад душы хацеў палепшыць справы ў калгасе. У яго было 4 ці 5 сыноў, некаторыя ўжо жанатыя. На хутары ў яго была лазня, потым ён перавёз хату ў вёску Лаўкінікі. Хадзіў на працу пешкам да Шаркуцей, дзе была кантора. Ён арганізаваў кантору і ўвесь улік у калгасе, ён ведаў усе справы брыгад, прама гаварыў, як і што трэба рабіць, і заўсёды быў праў. На ўсё жыццё ён застаўся для мяне добрым, разумным, чэсным, прыстойным і не толькі я, але і ўсе калгаснікі яго любілі і паважалі.

Грынюк Іосіф (Косцік) — старшыня рэвізійнай камісіі, ён таксама ва ўсіх справах падказваў, разбіраўся сам і напрамую без сораму гаварыў, як кажуць «праўду матку гнуў». Глядзеў за станам калгасных спраў і захаваннем матэрыяльных каштоўнасцей. Ён жыў у вёсцы з жонкай Зосяй і дачкой Стасяй. Вельмі прыстойныя людзі.

Сярод брыгадзіраў гэта Васілеўскі Станіслаў, жыў на заходнім баку вёскі Гута, апошні дом злева, з жонкай і двума дзецьмі падлеткамі. Гэты чалавек рэзкі і патрабавальны, карыстаўся вялікім аўтарытэтам сярод людзей вёскі Гута. Ён вельмі шмат першапачаткова зрабіў і памог у ўмацаванні калгаса.



Іосіф Васілеўскі — брыгадзір 3-й брыгады вёскі Шаркуці, вельмі працалюбівы, чэсны і ўплывовы чалавек.

Брыгадзір 1-й брыгады Іосіф Грынюк (брат Косціка), служыў і ваяваў у складзе польскай арміі, меў шмат узнагарод, у тым ліку і вышэйшую польскую ўзнагароду «Віртуті Мілітарі»*, граматны малады талковы мужчына.

Ясь Мацкевіч — брыгадзір 4-й брыгады в. Дабраполь, вельмі разумны, з хітрынкай, добры працаўнік і сем’янін.

Іосіф Венскель — брыгадзір 6-й брыгады. Вельмі тэмпераментны, рэзкі і гарачы пры размове. Гэта ён першы падаў думку аб гаспадарчым разліку, і як гэта было своечасова і адыграла вялікую ролю ў умацаванні і выбудаванні калгаса імя Кутузава.

Франусь Васілеўскі — брыгадзір 5-й брыгады. Брыгада была на хутарах, на пясках. Нягледзячы на свой пасіўны характар, ён шмат зрабіў карыснага па ўмацаванню калгасных спраў.

Брыгадзір будаўнікоў Франусь Грынюк, гэта швагер Іосіфа і Косціка Грынюкоў. І наогул яны ў большасці былі ці дваюрадныя ці ў блізкай радне, увесь наш актыў. Франусь Грынюк вельмі дбайны будаўнік, ён трымаў моцную дысцыпліну, людзі ў яго працавалі сумленна. Гэта брыгада ў складзе 5 чалавек за адзін месяц збудавала кантору 10 × 12.

Кладаўшчыкі былі талковыя. Гэта Станіслаў Ародзь, у 1-й брыгадзе, граматны, чэсны. Яго сын потым скончыў інстытут і будзе працаваць старшынёй калгаса у лідскім раёне, а пазней у Мінску яму зробяць аперацыю і ён памрэ на аперацыйным стале. Як шкода мне было гэтага чалавека і яго бацькоў.

Ясь Грынюк у вёсцы Шаркуці граматны кладаўшчык і выключна чэсны чалавек, цікавіўся палітыкай, быў начытаны.

* «Віртуті Мілітарі» — польскі ордэн вайсковай доблесці, зацверджаны ў Другой Рэчы Паспалітай 1 жніўня 1919 г.

Біль Станіслаў — кладаўшчык 6-й брыгады, добры чалавек, іграў на скрыпцы і флейце, чэсны, граматны і разумны, але вельмі забыўчывы. І Грынюк Франц з вёскі Гута 2 брыгады, вельмі асцярожны з хітрынкай чалавек.

Звенавыя жанчыны былі талковыя. Сярод іх Юралевіч с 1-й брыгады, пазней яе выберуць дэпутатам Вярхоўнага Савета БССР. Гэтыя людзі шмат сіл і старання прыклалі, каб лён ішоў высокім нумарам.

Вось асноўны касцяк, на каго апіраўся ў вырашэнні ўсіх спраў я, як старшыня калгаса.

Быў сельсавет тут жа паблізу. Старшыня сельсавета Кукліс. Адна партарганізацыя, куды уваходзілі дырэктар саўгаса Канойка, дырэктар спіртзавода Трушкоў, старшыня суседняга калгаса Лабкоў Аркадзь і я, а таксама некалькі камуністаў з саўгаса. Партаргам была Зоя Браніславаўна Харытановіч, з якой мы былі суседзямі яшчэ ў Суботніках, а гэта 4 км ад Шаркуцей. Яна там жыла і працавала дырэктарам школы. Партсходы нічога карыснага для мяне не давалі, наадварот, былі ўсялякія кляўзы, абвінавачванні мяне ў зрастанні з кулакамі і варожымі элементамі. Карацей кажучы псавалі кроў.

Вось у такім асяроддзі прыйшлося жыць і працаваць.

Але пра справы, якія трэба было вырашаць узімку. Завезлі лес для будаўніцтва канторы і лес быў не з лепшых, вельмі сукаваты, і ляжаў некалькі тыдняў на дзялянцы адведзенай пад кантору.

Некалькі разоў прыходзілі будаўнікі, пасядзяць, папаляць тытунь, і ідуць назад дабудоўваць кароўнік. І вось аднойчы, гэта было на 1-е красавіка, прыйшлі будаўнікі часаць бярвёны. Цёпла, вясна, хто ні ідзе, прыпыніцца, пасядзіць, пагаворыць. Мужыкі жартуюць, што пабудуюць кантору да 1 мая. Зайшоў старшыня сельсавета Кукліс, пасядзеў, паспрачаўся на 3 літры, ішла дырэктар школы Харытановіч і тая таксама пайшла ў заклад, а тут і я зайшоў, яны мне і гавораць, што мы ўжо выйгралі 6 літраў гарэлкі, а колькі старшыня паставіш у заклад. Я кажу: «Калі гэта праўда, што вы зробіце кантору за месяц красавік, я стаўлю 10 літраў гарэлкі і абяцаю, што ўсё ад мяне залежыць будзе зроблена». І вось гэтая брыгада 5 чалавек зрабіла за месяц зруб, накрылі, паклалі падлогу і зрабілі столь, вокны і дзверы. Карацей кажучы ўсё зрабілі, акрамя печак. Гэтым ўсе былі ў захапленні і ў калгасе, і ў раёне, і нават у суседняй Літве. Вось што можа зрабіць чалавек, калі яго зацікавіць. Канечне, гарэлка гэта лухта. Я ім паклаў аплату: калі зробіце за месяц, я ім дам яшчэ 50% ад дагаворанай сумы хлеба і грошай, вось гэта галоўнае. І таму дошкі пілавалі на сваёй цыркулярцы ноччу, калі была свабодная электраэнергія. Сталярку рабілі на доме з свайго сухога матэрыялу, рамы аконныя, дзверы філенчатыя. Столь была пакладзена ўразбежку і падлога прыбіта часовымі кароткімі цвікамі. Затым, калі дошкі высахлі, падлогу ўзарвалі і шчыльна сцягнулі і прыбілі па-сапраўднаму. Кантора атрымалася выдатная і зроблена была выключна ў кароткі тэрмін на здзіўленне ўсяго насельніцтва і кіраўніцтва.

## Вясна 1955 года

Ішла другая вясна 1955 года. Ужо лепш была праведзена падрыхтоўка, пашырыліся пасевы зерневых, бульбы, кармавых культур. Павялічыліся закупкі жывёл. Мы закупілі толькі дойны статак, колькі дазвалялі нашы рэсурсы, закупалі сметанковае масла. Тады трэба было здаць 500 кг масла, каб купіць грузавую машыну. У тыя часы гэта было падзеяй. І мы ўсё ж такі ўжо ў 1955 годзе купілі ў ліку першых калгасаў свой грузавік. Уяўляйце, якая гэта была падзея. Я помню быў у гэты час у Іўі. І вось увечары ідзе па вуліцы новенькая машына, тады яшчэ мала было машын, і я падумаў, што гэта наш кіроўца гоніць машыну з Гродна. І сапраўды, так і было. Калі я яго сустрэў, то ад радасці праслязіўся. Вось так стваралася база калгаса, з

вялікімі працоўнымі намаганнямі. Першым шафёрам у калгасе быў Аркадзь Шабуня, механік спіртзавода.

Вясенні сеў мы правялі больш паспяхова, дружна, у лепшыя тэрміны. Больш унеслі ўгнаенняў і на палях рос добры ўраджай. Пачалі распрацоўваць балота ў вёскі Шаркуці. Каля рэчкі Гаўя нарэзалі канавы, нанялі трактарыстаў з дапамогай сакратара райкама Ксенафонта Харытоновіча Дагуры. Ён вельмі шмат памог нам у гэтай справе. Зааралі, раздыскавалі, укаталі і ўнеслі якое было ўгнаенне і пасеялі траву. І што вы думаеце, дачакаліся восені, а на балоце пуста. Увесну ізноў тое самае. Нашы травы не выраслі. І мы паехалі с Дагурам у Мінск да вучоных. Яны выслухалі нас і далі рэкамендацыі, якія, колькі, і калі ўнесці ўгнаенняў. Калі вярнуліся, я пачаў рыхтаваць усё, каб было зроблена згодна рэкамендацыяў вучоных. Аб'ехалі Гродна, Літву, але ўсё дасталі. Унеслі ўгнаенні і ў жніўні пасеялі траву.

І ўжо ў 1956 годзе мы касілі гэту траву на балотцы на сена, травастой быў вышэй метра, а ўнізе белая канюшына. Не луг, а маляўнічая карціна!

Касіць былі запрошаны лепшыя касцы па 10 чалавек з брыгады. І пасля гэтага кожная брыгада прасіла зрабіць іх выганы такімі, каб такая ж трава расла. У далейшым так і была, амаль ва ўсіх брыгадах самыя няякасныя сенажаці раскарчаваны, перааараныя, дзе патрэбна было праведзена асушэнне, ўнесены ўсе неабходныя ўгнаенні і атрыманы якасныя вынікі. Частка зямель была паразалужана, Потым высветлілася, што глеба была вельмі кіслая, прыйшлося ўносіць вапну, якую ў тыя часы цяжка было знайсці і таму шмат унасілі фосмукі і яна дала добрыя вынікі ў сумесі з вапнай.

Ішло далейшае будаўніцтва — у Шаркуцях быў дабудаваны кароўнік, пачалі будаваць ферму ў Гуце. Падмурак і слупы рабілі з камення, якога ў калгасе было вельмі шмат і бясплатна, толькі цэмент трэба было купляць. Гравію таксама было дастаткова ў вёсцы Высоцкія. Акрамя гэтага пачалі будаваць цялятнік у 1-й брыгадзе і дом для жытла старшыні калгаса. Дом збудавалі ў 1957 годзе, ужо і патынкавалі. Дом будавалі доўга, пачалі ў 1956 годзе і закончылі ў восень 1957. Можна было пераязджаць, усё гатова. І вось жанчыны вёскі Шаркуці кажуць, што халодна трапаць лён у гумне. Я ім аддаў свой дом: «Трапіце лён у доме і вясной пачысціце». Так і зрабілі: пачысцілі, пабялілі, паклеілі і я пераехаў з сям'ёй у гэты дом. Дом гэты збудавалі за калгасныя сродкі і лічыўся ён калгасным.

Калгаснікі вырошчвалі добры ўраджай усіх культур. За лён мы атрымлівалі вельмі вялікія грошы і добра плацілі льнаводам за працу. Ужо ў 1959 годзе калгаснікі атрымалі па 4 кг зерня і 7 рублёў грошай на 1 працадзень. Калгас займаў 1-е месца ў раёне па ўсім паказчыкам. На раённай выставе, якая штогод праходзіла ў доме культуры, калгас Кутузава займаў першае месца і па ўраджайнасці зерня, ільну, бульбы, і па жывёлагадоўлі, па мясу і малаку. Мы купілі яшчэ 3 машыны, ужо ў 1959 годзе ў калгасе мелася 5 грузавых машын і шостая легкавая, 5 трактароў, 3 камбайны і іншая тэхніка. Спачатку бралі крэдыт, а потым на працягу аднаго года разлічваліся. Калгаснае вытворчасць развівалася як на дражджах. *І вось тады ў мяне ўпершыню з'явілася думка, што пры такіх тэмпах развіцця сапраўды праз некалькі год можа быць камунізм!*

Быў такі выпадак. Ехаў я неяк вясной па вёсцы Лаўкінікі і вось бачу, Кропа вынес у мяшках зерня і пасыпае на дарогу мяшкоў гэтак штук дваццаць. Я пытаю: «Што гэта такое?» «Вось, — гаворыць Кропа, — бяда. Я калі запісваўся ў калгас, думаў, загіну без хлеба. А зараз вось што атрымалася, вясна, а ў мяне хлеба тон 20, вось знізу і замокла, я яго і перасушваю». У Кропы 4 чалавекі працавала ў калгасе.

Гаспадыня, дзе я жыў на кватэры казала: «Я насыпала на гару ў хаце столькі хлеба, што я ніколі не мела столькі». Калі калгаснік працаваў, ён меў 800–900 працадзён, вось па 4 кілаграма — гэта ўжо 3 тоны, а грошай 5–6 тысяч. Помню Альбін Васілеўскі, такі хваравіты мужычок, ён працаваў на ферме, жонка і дачка таксама, ён атрымаў за

год 17 тысяч рублёў, у той час калі добры дом каштаваў 10 тысяч рублёў, карова — 350–400 рублёў.

У той час па прыходзе да ўлады Н. С. Хрушчова, ішлі дэмакратычныя пераўтварэнні грамадства. Стала неяк лягчэй дыхаць. Народ пачаў казаць, што думае. Менш сталі баяцца начальства. Узбуйнення калгасаў прайшло і працягвалася далучэнне адсталых брыгад і калгасаў да перадавых калгасаў. Тут нас і падпільнавала буйная непрыемнасць. Першая сур'ёзная сутычка адбылася ў мяне яшчэ да прыходу Дагуры і Качкова да ўлады ў раёне. Справа была так: прыехаў Сямён Данілавіч Карпушэнка, старшыня райвыканкама да мяне ў калгас і пачаў: «Чаму вы выдаяце зерне калгаснікам і такі вялікі аванс? Вы не маеце права, бо райвыканкам яшчэ не зацвердзіў вашу гадавую справаздачу!» І ўсё гэта ў прысутнасці калгаснікаў. Я адказваю: «Прабачце, мы здалі дзяржаве дзяржпастаўкі з значным перавыкананнем і маем права выдаваць калгаснікам аванс, бо ў нас столькі зерня, што нам няма дзе яго захоўваць». Карацей, пасварыўся з начальствам, і ў гэтым мне моцна памаглі калгаснікі. Яны казалі: «Едзьце ў калгас ім. Сталіна, там кіруйце, там няма ні шыша, а тут вы ўбачылі нашу працу…».

Гэта была першая сур'ёзная сутычка з начальствам. Трэба адзначыць, што раней да калгаса я жыў з гэтым старшынёй па-суседскі і быў з ім ў добрых адносінах. І я вельмі не хацеў весці з ім такую размову. Затым адбылася наступная непрыемнасць. Прапанавалі мне прыняць у калгас імя Кутузава вёску Рудзеўшчыну суседняга калгаса ім. Сталіна. Яна была на захадзе ад нашых зямель праз лясок.

Я не мог адмовіцца, не хацеў псаваць адносіны з начальствам. Людзі і актыў, а таксама ніжнія чыны раённага кіраўніцтва ўгаворвалі мяне не прымаць Рудзеўшчыну, я шукаў прычыну, каб адмовіцца, вельмі не хацелася браць пад сваю апеку гэту вёску, тым больш, што яна была бандыцкая вёска.

І вось у пачатку сакавіка прыехала начальства ў калгас. Мы зрабілі аб'яву калгаснікам аб пачатку сходу на



4 гадзіны. Я паехаў на кані разам з участковым Кухто ў Рудзеўшчыну. Там ужо было ўсё начальства, абышлі ўсю іх гаспадарку. Я ужо даў загад з іх склада, там было паўтоны зернеадыходаў, перавезці заўтра і здаць на склад 2-й брыгады вёскі Гута, а кладаўшчыка скараціць, таксама скараціць аднаго конюха і рахункавода. Менш гультаёў, больш карысці працоўнаму народу. Сабралі калгаснікаў, правялі сход, вылучылі прадстаўнікоў для паездкі ў калгас імя Кутузава з просьбай аб прыняцці іх у наш калгас і на гэтым сход закончылі.

Раённае начальства паехала з мясцовымі старшынёй калгаса імя Сталіна, як звычайна палуднаваць і замочваць паспяхова зробленую справу, а мы з участковым не былі запрошаныя і паехалі дадому. Па дарозе заехалі да аднаго мужыка перакусіць, крыху выпілі і прыехалі ў свой калгас. Услед нам прыехала і начальства. І вось нашы калгаснікі сабраліся, чакаем прадстаўнікоў вёскі Рудзеўшчына, нарэшце калгаснікі з Рудзеўшчыны таксама прыехалі, і трэба ж у гэты час прыехалі тры машыны, нашы прывезлі пшаніцу за здадзены лён і пытаюцца, куды везці зерне, у які склад. Я адказаў: «Пшаніцу вязіце ў Рудзеўшчыну, там у іх склад пусты і людзі галодныя». Я гэта сказаў, цвёрда вырашыў не прымаць Рудзеўшчыну ў наш калгас. І што тут пачалося, жанчыны кінуліся да машын, загналі кіроўцаў у кабіны і паехалі з імі ў свой склад, разгрузілі пшаніцу, вярнуліся ў кантору, шум, гам, пагрозы. Тады начальства гаворыць: «Мы гэта табе прыпомнім». Я адказаў: «Як хочаце, хоць зараз». На гэтым эпапея з далучэннем Рудзеўшчыны да калгаса Кутузава была завершана. У хуткім часе змянілася кіраўніцтва ў раёне, прышлі да ўлады новыя людзі, больш прагрэсіўныя і справядлівыя. Але справа з Рудзеўшчынай пэўнымі людзьмі пры ўладзе не была забыта і яны гэта хутка паказалі. Але аб гэтым пазней, а зараз некалькі яскравых прыкладаў з таго часу.

## Бягучыя і штодзённыя справы

У калгасе імя Кутузава было 1200 га аранай зямлі, а сенакосу толькі 45 гектараў. Па нашай заяўцы нам вылучылі 10 га сенажаці дзяржфонду на паплавах ракі Нёман. Гэта ад нас 40 км з гакам. І вось мы падлічылі, якія нам патрэбныя рэсурсы, каб скасіць гэты луг, забраць сена і прывезці дадому. Вылучылі людзей, коней, 86 вазоў і паехалі. Праз Іўе ў Марына, а затым на луг. Прыехалі, знайшлі луг, распрэглі коней і пачалі касіць, пераначавалі і зноў працягваем касіць. І вось прыязджаюць мясцовыя калгаснікі на чале з старшынёй калгаса і давай з намі лаяцца, не даваць касіць. Я паказваю дакументы, а яны ні ў якую не прызнаюць паперы. Мы таксама не здаёмся.

Надышоў вышэйшы напал, вось-вось пачнём біцца і раптам пачалося сонечнае зацьменне! Зрабілася амаль цёмна, народ разгубіўся, дзе тая агрэсія дзелася. Але потым хутка пачало світаць і нашы супрацiўнікі і мы здаліся. Мы кажам: «Бярыце ваша сена». А яны: «Не, братцы, мы вінаватыя, вы прыехалі здалёк, забірайце сена і едзьце з Богам». Пасля гэтага мы сабралі колькі ў нас было самагонкі, пачаставалі марынскіх людзей, нагрузілі вазы сенам і паехалі дадому. Пасля гэтага я неяк сустрэў старшыню сельсавета, ён расказаў, што яны праводзілі ў сельсавеце сесію і вось, калі пачалі ехаць наш калгас па дарозе каля сельсавета (а дарогі там былі ўсе выкладзеныя каменем) то вымушаны былі прыпыніць сесію на цэлую гадзіну, покуль не прайшлі ўсе вазы, бо ніяк не было нічога чутна. Вось так згуртаванасць і арганізаванасць перамагла.

Другі цікавы выпадак з пшаніцай. Неяк перад новым годам, за два ці тры дні, калі я быў у нарыхтзерне ў горадзе Ліда, мне сказалі, што мы можам забраць за здадзены лён 9 тон пшаніцы, а не забяром да Новага Года, то магчымасць гэтае прападзе. Ад Ліпнішак да калгаса 16 км і да Ліды яшчэ 30 км. Да Ліды 30 км дарогі расчышчана, а да калгаса 16 км замецена снегам, машыны не пройдуць. Мы прымаем рашэнне. Накіроўваем 4 машыны з грузчыкамі і мяшкамі і адказнымі людзьмі ў Ліду на мелькамбінат. Гэтыя машыны вывозяць пшаніцу з Ліды да Ліпнішак, а там пшаніцу перагружаем на падводы і вязём і здаём на склад. Кожная падвода прымае зерне пад лік колькасці мяшкоў пад распіску і здае на склад брыгады. Колькі зерня якой брыгады было разлічана ў залежнасці ад здадзенага ільновалакна.

Брыгадзіры ўзначальвалі падводы і адказвалі за вываз зерня з Ліпнішак.

І гэтая работа была праведзена паспяхова, ні воднага мяшка не прапала, усё давезлі як трэба. Усё было дасягнута дзякуючы высокай арганізаванасці і зацікаўленасці людзей.

Калі стваралі калгас, то электрычнасць была толькі ў Шаркуцях і Лаўкініках. А ў вёсках Гута і 2 Дабраполі не было, таксама не было ў Высоцкіх і Падваранцах, якія былі на хутарах. Там людзі жылі без электрычнасці. Электраэнергію пастаўляў саўгас Жэмаслаўль ад збудаванай імі гідраэлектрастанцыі. І вось я пачаў прабіваць справу, каб падвесці электрычнасць і ў гэтыя брыгады і дамогся, што ў вёскі Гута і Дабраполь-1 і Дабраполь-2 святло можна даць. Калгас павінен быў падрыхтаваць дакументацыю і заключыць дамову на работу з СМУ. Даведкі саўгас даў на згоду забяспечыць электрычнасцю гэтыя тры вёскі. Аб дамах на хутарах не магло і быць размовы. Пасля вялікіх ходак па арганізацыям у Гродне, нарэшце зрабілі патрэбныя дакументы, затым дамову на выкананне работ, а ўсе работы былі пазапланавыя. Не было трансфарматара, а як яго дастаць? Ніхто не дае так, патрэбны ласунак, а дзе яго ўзяць? І вось пагаварылі з людзьмі. Народ сабраў мёд і павезлі са мной гэтыя ласункі. Пасля чаго пытанне пайшло лепш. Трансфарматар дасталі. Прыехалі нарэшце людзі, пачалі работу. Спачатку электраправодку правялі ва ўсе хаты. За ўсё гэта трэба было плаціць, лічыльнікі, разеткі, выключальнікі, адно ёсць, другога няма. Але з горам папалам зрабілі, запусцілі, святло далі людзям. Гэта ізноў была перамога. А дзве брыгады заставаліся

яшчэ без святла. Што рабіць? І вось параіўся я з разумным чалавекам, т. Пуціла — механік саўгаса Жэмаслаўль. Ён параіў дастаць дызель «Шкоду» і дынама. Дызель мы дасталі ў сельгастэхніцы, чэшскі «Шкода», а дынама нідзе не дастаць. Паехалі нашы людзі з адным шулерам у Вільню, заплацілі двайную цану, ды і шулеру яшчэ адну тысячу, але дынама прывезлі, зрабілі работу і далі святло. Гэтай электрычнасцю мы рэзалі саламяную рэзку, круцілі сарціроўкі і веялкі, чысцілі ў свірнах зерня. Такім чынам, увесь калгас з горам папалам і з Божай дапамогай быў электрыфікаваны. У тыя часы гэта была вялікая перамога.

Побач з нашым калгасам знаходзіўся саўгас Жэмаслаўль. Палі гэтага саўгаса знаходзіліся ўнутры зямель калгаса Кутузава. Гэты саўгас быў створаны на падмурку маёнтка Жэмаслаўль. Гэты маёнтак належаў буйному магнату графу Умястоўскаму, у якога, па меркаванні мясцовых жыхароў было такіх яшчэ 82 маёнткі. Зразумела, што ў часы графа Умястоўскага былі парадкі іншыя, быў прыгожы палац, парк, возера і гаспадарка, свірны, жывёлагадоўчыя фермы. Усё гэта зараз належала саўгасу Жэмаслаўль, парадкі там былі ўжо іншыя, смецце, бруд, платы паломаныя, частка дрэў спілавана, запусценне.

На другі ці трэці год маёй працы ў гэты саўгас прыбыў новы чалавек, аграном т. Рудаў. Гэта быў граматны талковы чалавек, жонка ў яго таксама была аграномам, і ён папрасіў, каб я ўзяў яе ў калгас аграномам, што я і зрабіў. Гаспадарка ўжо развівалася добра, і аграном быў патрэбны нам, і галоўнае, мы раней часцяком, калі дырэктар быў у ад'ездзе, дамаўляліся з іхнімі саўгаснымі трактарыстамі зрабіць тую ці іншую працу па апрацоўцы глебы калгаса іхняй тэхнікай, зразумела за наяўную аплату. То зерня дадзім, то яшчэ што-небудзь. Асабліва культывацыю ці дыскаванне, яны гэтую работу выконвалі вельмі якасна. І было для нас вельмі выгадна. І зараз, калі ўзнік такі спрыяльны момант, гэта было тым больш выгадна. У далейшым наша меркаванне пацвердзілася на справе. І хоць аграном жонка Рудава не магла шмат часу ўдзяляць працы



ў калгасе, у іх былі малыя дзеці, але затое яе муж заўсёды быў рад нам памагчы.. Ён і раіў і тэхніку даваў заўсёды, калі мы мелі ў гэтым патрэбу. Ён быў для нас знаходкай.

Мы заўсёды першыя скончвалі сеў, і ўсе палявыя работы праводзілі своечасова і на высокім агратэхнічным узроўні.

Аднойчы Рудаў паклікаў нас з жонкай Аннушкай у госці. Мы прыйшлі як звычайна, покуль рыхтаваўся стол, нам далі сямейныя альбомы глядзець, і якое ж было маё здзіўленне, калі на фота я ўбачыў чалавека з скрыпкай у кампаніі маладых людзей. Я спытаў: «Хто гэта?» Рудаў адказаў, што гэта наш студэнт. І гэта быў мой зямляк, даваенны сябра Віктар Іванавіч Пратасенка, якога я навучыў іграць на скрыпцы, гэта ён мне даў адрас Кранштата, куды мы паступалі, іх не прынялі, а я адзін як сірата прайшоў.

Я ўсю гэтую гісторыю распавёў і запытаў, а як ён вучыўся. Рудоў адказаў, што так сабе, яго выцягвалі як маглі, як інваліда вайны. Пасля вайны Пратасенка служыў у Дрыбінскай міліцыі. Потым ужо, калі ён прыходзіў шасцімесячныя падрыхтоўчыя курсы ў акадэміі, я сустрэўся з ім, ён працаваў лабарантам. Яшчэ пазней ён кудысьці з'ехаў і след яго згубіўся. Вось такія ў жыцці бываюць павароты.

Неяк у пачатку чэрвеня ўзнавілася добрая і цёплая пагода. Мы знаходзіліся ў 5-й брыгадзе ў Падваранцах, да абеду закончылі сеяць грэчку, там на пяску радзіла добрая грэчка. І вось жара, рашылі пайсці на рэчку Гаўя, яна была побач, пакупацца і ўзялі брэдзень. Пакупаліся і давай лавіць рыбу, тады яшчэ не было аховы прыроды і рыбу дазвалялася лавіць усімі сродкамі, акрамя глушыць, гэта было забаронена. І вось мы пачалі лавіць рыбу і так яна добра лавілася. Зацягнем брэдзень — палову вядра рыбы. І налавілі мы гэтай рыбы вёдзер пяць. Прыйшлі на хутар, засмажылі рыбу, выпілі канечне і толькі сталі збірацца дадому, як прыязджае сусед літоўскі старшыня калгаса з карэспандэнтам Віленскай газеты. Вось кажуць да нас Масква прыдзіраецца, абвінавачвае ў нацыяналізме. А мы з табой даўно дружым, давай гэта адзначым у

рэспубліканскай газеце. Я кажу, што я не супраць, але спачатку трэба пачаставаць дарагіх гасцей брацкай Літвы, што і было зроблена.

Далі мы ім яшчэ на дарогу рыбкі, і яны паехалі, а мы таксама паехалі дадому. Дадому я прывёз вядры два рыбы, мы з жонкай выбралі вядро буйнай, і яна з шафёрам паехалі ў Іўе, завезлі сакратару райкама Дагура гэтую рыбу. У гэты час у калгасе ўжо быў легкавы аўтамабіль Газік. Газік нам далі бясплатна і справа была так. У той час я быў дэпутатам Гродзенскага абласнога Савета. І вось прыехаў у калгас старшыня аблвыканкама І. С. Канонович. Зайшоў у калгасную кантору і размаўляў з дзяўчатамі, цікавіўся жыццём— быццём. Я быў у брыгадах, калі вярнуўся, зайшоў у кантору, бачу — ён сядзіць, размаўляе. Я павітаўся і назваў сябе. Ён гаворыць: «Вось прыехаў паглядзець, як працуе наш дэпутат абласавета». Я кажу: «Калі ласка, куды паедзем?» Ён адказаў, што ў размове з дзяўчатамі высветліў амаль усё, а зараз хоча паехаць паглядзець пару ферм, а па дарозе зірнуць на палях пасевы. Я на хаду шапнуў дзяўчатам, каб перадалі жонцы падрыхтаваць абед, і бутэльку няхай закінуць мне дадому. Мы і паехалі. Па дарозе глядзелі пасевы, пасевы былі добрыя. Заехалі на ферму ў Лаўкініках, а там сапраўды ідэальны парадак. Свінкі вялікія, чыстыя, у памяшканнях чысціня, толькі адно кепска — дзяўчаты ходзяць босыя, цёпла летам. Заехалі яшчэ цялят паглядзелі і вярнуліся ў цэнтр. Я прапанаваў паабедаць, я тады яшчэ жыў на кватэры ў Блажыеўскіх, абед быў гатовы, і Кананович згадзіўся. Выпілі па чарцы, ён працягваў распытваць. Як, кажа, у цябе ногі раненыя, кульгаеш, напэўна цяжка шмат хадзіць. Не, адказваю, я прывык, езджу ў сядле, у брычцы. Ну на гэтым развіталіся і ён паехаў у Іўе. На наступны дзень прыязджае 3-й сакратар райкама Сыраватнікаў і гаворыць, што ты наскардзіўся Кананович. Я кажу, што нікому ні на каго не скардзіўся. Сакратар гаворыць: «Давай шафёра і даверанасць, атрымай машыну-«казла» К. Х. Дагуры». Я пытаюся: «Вы жартуеце?» Ён смяецца: «Бяры, так загадаў Канонович, прытым бясплатна». Так я займеў «казла». К гэтаму часу я ўжо сам нядрэнна кіраваў аўтамабілем, але на «казла» узяў усё-такі шафёра, сына Атрушкевіча, каваля з Гуты.

Неяк так склалася, што з новым кіраўніцтвам, сакратаром райкама Ксенафонтам Харытонавічам Дагурам і старшынёй райвыканкама Качковым адносіны склаліся добрыя. Гэтыя людзі імкнуліся быць уважлівымі да патрэб людзей, былі сціплыя і ні ў якім выпадку не былі падобнымі на былых сваіх папярэднікаў першага сакратара Віктара Карлавіча Сіньчука і старшыня райвыканкама Сямён Данілавіч Карпушэнка, якія да нашых патрэб адносіліся чэрства, не маглі развітацца з чванствам і чыноўніцкімі паводзінамі.

Новае начальства было па-сапраўднаму народнымі выбраннікамі, простыя ў адносінах, не цураліся размоў з звычайнымі калгаснікамі і ўсё ад душы, без усялякіх чыноўніцкіх фанабэрый.

Былыя кіраўнікі Сіньчук і Карпушэнка так ужо ўеліся ўсім сваімі дзеяннямі, што далей цярпець было немагчыма, тым больш, што ў часы Хрушчова ўсё болей укаранялася дэмакратыя. І вось аднойчы, гэта было на партыйнай раённай канферэнцыі, я рашыў выказаць усё, што накіпела, пакуты і цяжкасці ад раённай улады. Я абмяняўся сваімі думкамі з перадавымі старшынямі П. П. Пазняковым, Зайцавым, Мачульскім. І пасля даклада на канферэнцыі Сіньчука, а за ім яшчэ двух аратараў, мне далі слова. У гэты час прышлі вітаць нас піянеры, як звычайна было ў тыя часы. Я за гэты час яшчэ лепш умацаваў свой стан і пасля піянерскага прывітання працягнуў сваё выступленне, якое без перабольшвання было крытычна накіравана на заганную практыку кіраўніцтва раённых улад райкама і райвыканкама. Усё выступленне было падмацавана фактамі, ад якіх нікуды не дзенешся. І зал мяне шматкроць падтрымліваў сваімі воплескамі. Пасля мяне пайшлі выступаць іншыя, і ўсе яны былі ў маю падтрымку, і з вялікай крытыкай у бок райкама і райвыканкама. Пасля заканчэння партканферэнцыі пры галасаванні супраць

старшыні райвыканкама т. С. Д. Карпушэнка і Сіньчук шмат атрымалі галасоў супраць. Сакратар абкама Іваноў двойчы збіраў пленум, тэлефанаваў у абкам і ўсё ж такі Карпушэнка не прайшоў.

На яго месца прыслалі Качкова, а ў хуткім часе перавялі некуды і В. К. Сіньчукова, а на яго месца прыехаў Ксенафонт Харытонавіч Дагура, дасведчаны, чэсны, добрасумленны таварыш. Ён быў без левай рукі, а ў Качкова наогул палову лёгкага была выразана з-за атрыманай раны. Гэты таварышы былі вельмі прыстойныя і з імі было нашмат лягчэй працаваць і вырашаць складаныя пытанні.

Аднойчы сакратар райкама Ксенафонт Харытонавіч Дагура прапанаваў мне перад раённым сходам пабываць у адным адстаючым калгасе, дзе старшынёй быў былы сакратар райкама аднаго з раёнаў вобласці, прозвішча якое было К. Я згадзіўся, і вось мы паехалі глядзець гэтаю гаспадарку. Я ведаў, што справы там ідуць дрэнна, але тое што я ўбачыў, гэта быў жах, аб такім становішчы я нават і не здагадваўся. Цяляты худыя ў гразі, свінні плаваюць у жыжы, адносіны абыякавыя, ніхто нічым не цікавіцца. У размове з старшынёй я сказаў, а потым на сходзе раённым паўтарыў: «Колькі ж трэба не мець сумленне, каб так злачынна кіраваць калгасам! А яшчэ чалавек быў сакратаром райкама. Калі няма чым карміць — не трымай, не здзекуйся з жывёлы, аддай людзям ці другому калгасу». Хлявы не ўцеплены, холад, голад — адным словам бардак.

*І я павінен сказаць, што ўсе справы ў калгасах у асноўным залежалі ад прыстойнасці і чэснасці старшынь калгасаў.*

У раёне былі такія старшыні, як мой сябар Пётр Пратасавіч Пазнякоў, Мачульскі, Баум, Зайцаў, Цітоў, Заяц з калгаса «Радзіма» і іншыя. Але былі і такія як Коркаў, Савянкоў і яшчэ чалавек 6–8 якія глядзелі, каб толькі нажыцца і з'ехаць у горад.

Так яно потым і было. Калі мая жонка Аннушка захацела пашыць паліто і заказала ў Лідзе ў быткамбінаце, то загадчыкам там быў той самы К. Гэтаксама і іншыя збеглі



ў больш цёплыя месцы, дзе ім самім і іхнім сем'ям жылося значна лепей, чым нам у калгасе, не маючы ні выхадных ні водпускаў. Жонкі нашы таксама нічога добрага не бачылі. Але нікуды ні дзенешся, трэба было цягнуць лямку, жыць і працаваць.

## «Не дай бог, каб вецер ізноў павярнуўся з поўначы»

Надышоў 1958 год. Справы ў калгасе раслі як на дражджах. Ураджаі з кожным годам павялічваліся, выраслі грашовыя даходы. Калгас меў ужо два поўных кароўнікаў кароў, вялікую колькасць свіней. Мы ў тыя часы надойвалі на карову па 3600–3700 літраў малака, і гэта на саламянай рэзцы і бардзе і займалі 3-е месца ў рэспубліцы па надою на фуражную карову. Раслі грашовыя даходы, асабліва ад ільну. Калгас меў у той час 7 аўтамашын, 5 трактароў і 3 камбайны. Людзі атрымлівалі па 4 кг хлеба і 7 рублёў грошай на працадзень, акрамя дадатковай аплаты. Пасадзілі сад на плошчы 15 гектараў і абгарадзілі яго плотам. Жыццё кіпела. Калгас заўсёды займаў у раёне адно з першых месцаў, і партрэт старшыні штогод быў на раённай Дошцы Пашаны. Беларуская Рэспубліка рыхтавалася да свайго юбілею. І вось 30 снежня наша дэлегацыя на чале з сакратаром райкама Ксенафонтам Харытонавічам Дагурам прыбыла ў г. Мінск. Сход актыву праходзіў у Вялікім Оперным тэатры. На сходзе прысутнічаў Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, і выступіў з вялікай прамовай, спачатку на 2 гадзіны па ўнутраным пытанням, а затым аб міжнародным становішчы. Па ўнутраным пытанням ён зрабіў даклад выдатны. Ён выказаў усё, ці амаль усё, аб чым мы думалі, аб чым марылі і нават больш таго. Мне яго даклад вельмі спадабаўся. У той час ён яшчэ не гаварыў аб тым, што калгаснікі павінны здаць кароў і атрымліваць малако ў

калгасе. Гэта потым, пазней, праз некалькі год, а тады казаў пра жыццёва важныя пытанні, і, канечне пра кукурузу.

Пасля перапынку выступіў з другой часткай даклада аб міжнародным становішчы. Гэта быў ужо зусім іншы Хрушчоў. Дзе дзеліся яго ўсмешкі, жарты. Гэта быў грозны расейскі правіцель, які хваліў ідэі камуністычнага руху і кляйміў капіталістаў на чым свет стаіць. Як быццам толькі буржуіны вінаватыя ва ўсіх нашых бедах, што і кукуруза у нас кепска расце, і ва ўсім, што у нас дрэнна, яны буржуі вінны. На перапынку мы праглядалі газеты, якія ляжалі ў кожнага на спінках крэслаў, там былі спісы ўзнагароджаных.

На адным з перапынкаў мяне пачалі віншаваць з узнагародай. Я спачатку здзівіўся, бо не мог і ўявіць, што мяне могуць узнагародзіць.

І вось на табе, сапраўды Аляксандр Пятровіч Кудраўцаў — ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга. Гэта для мяне была вялікая нечаканасць і я рад быў, ад душы дзякаваў кіраўніцтва за такую высокую ўзнагароду за маю сціплаю працу. Так я стаў ардэнаносцам.

Пасля справаздачнага сходу, які быў у калгасе і які мы заканчвалі да 2 гадзін дня, заўсёды нам у гэты дзень выконвалі па нашых заяўках песні, асабліва я любіў песню «Пшаніца залатая».

Помню неяк на раённым сходзе пасля майго выступу былі вялікія апладысменты і затым першы сакратар і сакратар абкама вельмі хвалілі мяне за маю сціплую працу у калгасе, за старанне і шчырасць. І вось тады я ўспомніў як у гэтым жа зале ў пачатку 1947 года, калі прысутнічаў першы сакратар абкама Іван Фраловіч Клімаў, і калі выступаў Коўтун, начальнік МВД і гаварыў, што райком недаравальна марудзіць і не прымае мер да такіх камуністаў, як Кудраўцаў. «Гэта прайдзісвет і яго месца даўно ў турме». І я быў ні ў чым не вінаваты, нічога не браў для сябе, усё жыццё імкнуўся працаваць чэсна. Вось і прайшло толькі 8–9 год, і ужо Кудраўцава хваляць, а ён які быў, такі і застаўся. *То ў чым жа справа, чаму так атрымліваецца?*



*А справа проста ў сістэме. Адкуль падзьме вецер. Павее вецер з поўначы сухі, халодны, палітыка жорсткая, усё не па сумленню, а за страх,» бі сваіх, каб чужыя баяліся»: садзі усё і ўсіх, трымай працоўную чэрнь у страху. Вось так гэта было. Затым вецер паўднёвы, вільготны, чалавечыя адносіны, патрэбны сапраўдны працаўнік, а не балбатун, вось цябе і ўбачылі і адзначылі. Не дай бог, каб вецер ізноў павярнуўся з поўначы.*

Дзеля дапамогі калгаснікам, якія жылі на хутарах і ў кепскіх хатах, калгас пачаў дапамагаць у будаўніцтве дамоў больш дабротных. У гэты час адбываўся масавы выезд у Польшчу покуль што яшчэ сялян з Літвы. Яны прадавалі дамы і іншыя пабудовы. А мы куплялі па сходнаму кошту. Помню, неяк паехалі мы ў Літву ў адну маленькую вёску, назву ужо не помню, і вось мы закупілі ўсю вёску: некалькі дамоў і гумнаў. Калі вярталіся праз Дзявенішкі, у краме закупілі цукар і макароны, усё, колькі было, і тым выклікалі вялікае здзіўленне мясцовых жыхароў. Вось, кажуць, «беларускі Кудравец забраў усё, што было ў крамах». Вядучы размову з мясцовымі сялянамі (яны спрэс гаварылі на беларускай мове, бо другой не ведалі), яны мне тады сказалі, што хутка твае калгаснікі таксама паедуць у Польшчу Я купіў у краме цукру і макаронаў і самаўпэўнена адказаў, што мае калгаснікі ў Польшчу не паедуць.

Як я памыліўся! Літаральна ў наступным годзе пачаўся масавы ад'езд у Польшчу і ў нас. Выехала 56 сямей, гэта чацвёртая частка ўсяго калгаса. Для мяне гэта быў вялікі ўдар! І людзі паехалі працалюбівыя, нават загадчык фермы камуніст Паплаўскі таксама здаў партбілет і з'ехаў з сям'ёй, пакінуў добры дом, нядаўна збудаваны. Вось так паварочваліся жыццёвыя падзеі. *Да гэтага года вельмі шмат сваякоў з Польшчы прыязджалі ў госці да нашых вяскоўцаў, напэўна яны правялі моцную агітацыю, і вось вынік — масавы ад'езд.* Праўда, дамы іх куплялі на месцы ці прыязджалі з другіх раёнаў людзі, якія затым працавалі ў калгасе ці спіртзаводзе. Нехта з паехаўшых затым пры-

сылалі пісьма і прасілі мяне пагаварыць з кіраўніцтвам, каб прыехаць назад. Я звяртаўся да раённага начальства, з мяне толькі пасмяяліся і нічога не адказалі. Зразумела, што ў асноўным усе яны потым прыстасаваліся на чужыне, прывыклі, уладкаваліся і жылі, хто як здолеў. Але і былі і сумныя, нават трагічныя выпадкі. Франусь Васілеўскі, у якога я быў на кватэры нейкі час, як гаварылі сваякі, скончыў жыццё самагубствам.

У той год мы сынам Яўгенам пасадзілі сад каля свайго дома, некалькі дзясяткаў яблынь рознага гатунку. Пры гэтым зямля была там пясчаная, калі выкапалі ямкі вялікія, завезлі і засыпалі гліны, затым перагною і толькі потым пасадзілі яблынькі. (Затым ужо праз гадоў 15 прыязджалі мы з Быхава, яблыні былі вялікія, яблык буйных было шмат. Але паспытаць мы іх не здолелі, бо ў гэты час у доме жыў дырэктар саўгаса, а ў садзе хадзіла аўчарка. І гаспадароў сваімі ўспамінамі мы вырашылі не турбаваць.)

## Пасля доўгіх роздумаў

У гэты прыкладна час, ці крыху раней з'явіўся фельетон у раённай газеце з малюнкамі, дзе распісалі маю Аннушку, як кажуць пад арэх, прытым гэта была абсалютная лухта, кляўза. Мяне гэта моцна зачапіла і я даў мясцовай інтэлігенцыі бой, па— праўдзе і не бой, а выгавары двум пісакам— настаўнікам.

Праз нейкі час ізноў новы скандал, суседні старшыня калгаса Лабкоў Аркадзь Аляксеевіч, з якім мы знаходзіліся ў сяброўскіх адносінах, затым быў вымушаны з ім прыпыніць сяброўства. І вось ён пайшоў палічыў калгасных кароў у кароўніках і напісаў дакладную ў райком. «Вось, які ён перадавік, каровы лішнія». Пачалі ехаць камісіі, праверкі, нерваванне. Фактычна было ўстаноўлена 37 лішніх кароў. Налічвалася 340, а на справе было 380 галоў. Я давай даказваць, на 380 галоў 10% абавязкова будуць



нядойныя, маладыя каровы першага ацёлу не раздояцца і яны пойдуць на мяса, іх адкормім і здадзім на мяса. Дзе там, трэба, кажуць, было паставіць асобна на адкорм. Кажу: «Мы гэта зробім восенню, адкормачны кароўнік яшчэ не гатовы». Карацей вырашылі папярэдзіць і палічыць па выніках года 380 кароў.

Затым пачалі зямлю перамяраць, пайшлі прыдзіркі за прыдзіркамі. Пачалі мераць пасевы то ячменю, то ільну, то бульбы.

Усё гэта разам узятае прывяло мяне да думкі, што мяне хочуць выкурыць з гэтага калгаса. У хуткім часе аднойчы позна увечары ў акно кінулі тры камяні і чуць не забілі маю дачку Ларысу, якая сядзела побач на канапе, на якім я адпачываў. Вялікі булыжнік праляцеў літаральна ў 3–5 см ад яе галоўкі.

Гэта былі як знакі лёсу. Пасля доўгіх роздумаў я вырашыў з калгаса пайсці.

К гэтаму часу я ўжо падрыхтаваў сабе «запасны аэрадром», купіў сабе домік у Быхаве, каля вакзала, перавёз трысцен, які падрыхтаваў у калгасе і шалёўку, каб дом абшаляваць. Усё гэта зрабіў у калгасе, усё выпісаў, усё аплаціў, усё аформіў чын-чынаром. І ў хуткі часе ўжо ў райком прыйшло пісьмо, што старшыня калгаса з'язджае, усё падрыхтаваў і па гэтаму пытанню адбылася размова ў райкаме. І я ўсё выказаў як ёсць і падаў заяву аб сыходзе з калгаса. Сход быў вельмі бурны, на маё месца ставілі інструктара райкама, і калі б не я сам, то ніхто б не прагаласаваў.

Я ўсё правёў на сходзе і пайшоў. Пайшоў з вялікім болем у сэрцы, мне было вельмі цяжка сыходзіць. Я так шмат паклаў сіл і старанне, мне было вельмі шкада калгаснікаў, яны мне паверылі, яны мяне падтрымалі ў цяжкі час. І вось зараз у росквіце спраў я вырашыў пайсці. І гэта было цяжкае, але правільнае рашэнне, бо так працаваць далей, калі пачалі падседжваць на кожным кроку, працаваць было немагчыма. А падседжвала частка настаўнікаў з знакамітай дырэктаркай Зояй Харытонаўнай, таксама саўгасныя

дзеячы з спіртзавода, мае некаторыя новыя спецыялісты. Пры такіх умовах не было магчымасці працаваць, так як было неабходна. І вось я калгас здаў і паехаў у Быхаў.

Тут я ў Быхаве зрабіў памылку. Мне трэба было раней, калі я прыязджаў у Быхаў, зайсці і дамовіцца спачатку па пытаннях працы. А я гэтага не зрабіў. А калі зайшоў у райком тады, калі здаў калгас Кутузава. І вось, ці яны былі заняты вельмі ці яшчэ што, толькі прынялі мяне вельмі суха. А магчыма я прывык да адносін больш душэўных, уважлівых як да перадавіка і ардэнаносца, таму мне такі прыём не спадабаўся і я паехаў назад «дадому» у калгас Кутузава. Так я зрабіў вялікі пракол у жыцці і гэта ў далейшым прынесла яшчэ пакуты мне і маёй сям'і.

## Калгас «Вольнае жыццё»

Вярнуўшыся назад я даў згоду пайсці старшынёй калгаса «Вольнае жыццё» у Геранёны. Геранёны я ведаў, гэта мястэчка, і да яго прылягалі яшчэ 7 вёсак. Землі там добрыя, лепшыя, чым у калгасе Кутузава. За гэты час там ужо змянілася 3 старшыні. Першы быў зампаліт МТС Захаранка, затым Мацей, і апошні Гончанка, якога я павінен быў змяніць, былы сакратар райкама УЛКСМ, былы дырэктар школы. Калгас быў запушчаны, але там можна было навесці парадак. Народ там працалюбівы. У самым мястэчку шляхта, касцёл.

Усё гэта мяне спадабалася і я даў згоду. Сход быў у клубе, народу было поўны клуб. Прынялі мяне добра, яны аба мне ўжо чулі, калгас Кутузава быў недалёка, дзесьці 12 км і яны чулі аб маіх калгасных справах, тым больш былі сваяцкія сувязі. Прысутнічаў на сходзе першы сакратар Ксенафонт Харытонавіч Дагура, які сказаў, што я вам прывёз старшыню навечна! Людзі былі вельмі задаволены і прагаласавалі аднагалосна. Такім чынам, я стаў старшынёй калгаса з такой назвай «Вольнае жыццё». Я ведаў,



што ў калгасе справы запушчаныя, але калі сутыкнуўся, жахнуўся ад тых спраў, што ўбачыў у калгасе.

Спачатку былы старшыня па традыцыі пасля сходу запрасіў «откушать» і замачыць, і калі я ўвайшоў у ягоны дом, то моцна быў уражаны. Да стала прыйшлося дабірацца як па бузгарках, падлога была з'едзена грыбком, у доме халадэча. Пераначаваўшы, і на наступны дзень пачаў знаёміцца з гаспадаркай.

Калгас мне падабаўся, само мястэчка Геранёны — гэта цэнтр, ёсць касцёл, разбураныя муры замка, плошча, сельскі савет, 7-летняя школа, бібліятэка, клуб, кантора калгаса, участковы. Мясцовасць перасечаная, з узвышшамі. Геранёны разлегліся на ўзвышшы, побач былы маёнтак Геранёны. Калгас створаны на аснове панскага маёнтка. Гэты калгас быў створаны пасля вайны і ўзначальваў яго выдатны чалавек, чэсны працаўнік Уладзімір Мамчыц, ён не мясцовы, а прыехаў аднекуль з-за Нёмана. Далей вёска Мелехі, вялікая вёска з урадлівай зямлёй, сяляне заможныя сераднікі, вельмі працавітыя. У вёсцы быў адзін кароўнік, а ў Геранёнах была свінаферма, у маёнтку каровы і цяляты. Трэцяя вёска Кузьмічы, гэта сярэдняй велічыні вёска, з землі таксама сярэднія, але слабей чым Мелехах. Затым па колу на мяжы з Літвой фальварак — маёнтак адваката графа Умястоўскага. Ён невялікі, быў падараваны графам Умястоўскім свайму адвакату, які жыў у асноўным у Вільні і прыязджаў іншы раз у свой маёнтак Раднішкі. На той момант там пражывалі ягоныя былыя парабкі, прыкладна сямей пяць. Маёнтак быў запушчана, гразь, паркет пабіты, кафля паломаная, аркі напалову разбураныя. Усе гэтыя людзі вельмі працавітыя, але для сябе яны не маглі захаваць той узровень культуры, якую стварыў адвакат.

Калі я з імі размаўляў, яны казалі, што пану яны рабілі камфорт таму, што баяліся пана, баяліся што ён іх прагоніць. Таму была паўсюль чысціня і парадак.

У гэтым фальварку стаялі цёлкі-нецелі, дзесьці 30–50 галоў. Побач была невялікая вёсачка Гуцішкі, там не было ферм. Далей балота, а за балотам вёска Казоры з хутарамі.

Вёска больш бедная і землі там пясчаныя. У бок Літвы вёска Тулонка і ў 1,5 км прылягаючая да яе вёсачка, усяго 5–7 хат, я яе назвы не помню. У Тулонцы была ферма — маленькія цяляты ў круглым цялятніку. З поўдня Тулонак быў лес, вельмі стройны сасновы бор. Гэту мясцовасць называлі канцылярыяй і казалі, што з Геранёнскага замка быў пракладзены падземны ход да гэтага лесу, але я гэтага не правяраў, некалі было. Узначальваў гэтую брыгаду ў Тулонцы брыгадзір Дудойць. Яшчэ малады чалавек, гадоў 30–35 у той час, былы бандыт, былы зэк. Ён атрымаў 25 год і быў вызвалены датэрмінова ў сувязі з смерцю Сталіна в 1953 году. Ён быў пастаўлены брыгадзірам да мяне, і я яго не турбаваў. Ён нядрэнна выконваў свае брыгадзірскія абавязкі, і я нават падтрымліваў з ім сяброўскія сувязі, нават быў неаднойчы ў яго ў гасцях. Там раслі ў бару добрыя баравікі, і мы іншы раз туды наведваліся за грыбамі, збіралі, затым смажылі ў яго і канечне выпівалі па чарцы.

Вось такі прыкладна быў мой калгас «Вольнае жыццё». Мястэчка Геранёны знаходзіцца на поўначы раёна. Да Вільні 70 км, да Дзявенішак 12 км. На захад да г. Ліды — 30 км, туды хадзілі аўтобусы (арбоны) Ліда–Геранёны, на поўдзень — мястэчка Ліпнішкі і да райцэнтра Іўе 26 км.

Першапачаткова ўзяўшыся за працу, я звярнуў увагу на два пытанні: падрыхтоўка да веснавой сяўбы і заканчэнне зімоўкі жывёл.

Трэцяе пытанне было знайсці жыллё для маёй сям'і. З маім прыходам актывізавалі загатоўку кампостаў. Недастаючую колькасць насення павялічылі за кошт абмену з іншымі калгасамі. Падрыхтоўку тэхнікі таксама актывізавалася. З жывёлагадоўляй справа была выключна кепская, асабліва з цялятамі. Напрыклад, цёлкі, што былі побач з калгаснай канторай у прыстасаваным гумне ад 3 да 5 год былі схуднелыя, скура ды косці. Яны атрымлівалі акрамя саламянай рэзі, 50 г мукі. Не лепш было і з цялятамі на іншых фермах. Мы вырашылі пры свінафермах стварыць гурты цялят асабліва схуднелых і даць ім узмоцнены рацыён: саламяную рэзь запараную бульбай і мукой. Знайшлі чалавека Івана, ён крыху не адэкватны, але вельмі працавіты. Вось я яму даў 45 схуднелых цялят, добрыя кармы, устанавіў добрую аплату і паставіў дадатковыя ўмовы: калі захаваеш усе 45 галоў — купім табе касцюм, калі здохнуць 2 галавы — дам адны штаны, калі здохнуць 5 галоў — нічога не атрымаеш акрамя зарплаты. Ён выдатна выканаў сваю працу, і хоць і здохла адна галава (абкарміў), але мы яму ўсё ж такі выдалі касцюм. Там жа у Тулонцы зрабілі печ, умуравалі кацёл і парылі бульбу, абмешвалі саламяную рэзь і цяляты пачалі набіраць вагу і выпраўляцца. У цэлым мы з КРС справіліся добра і падзеж быў невялікі. Горш было з свіннямі. З свіннямі быў адзін кашмар, свінаматкі паядалі парасят, было дапушчана роднаснае скрэшчванне, бруд, падзеж. Доўга я біўся і нічога не мог зрабіць. Там працавалі тады не свінаркі, а свінары. Я ўжо выйшаў з цярпення, а свінары былі ўсе члены пастаяннага камітэта і члены праўлення. Я гэтых тоўстых дзядзькаў сабраў і кажу: «Што гэта за парадак? Ва ўсіх калгасах працуюць свінаркі, а ў нас свінары». І культурна іх замяніў, паставіў прыстойных працавітых жанчын, даў ім добрую зарплату, даў добрыя кармы, пачалі сепарыраваць малако, здавалі дзяржаве вяршкі, а перагон аддаваць свінням. Накіраваў будаўнікоў, яны зрабілі рамонт памяшканняў. Нарэшце справы пайшлі на паляпшэнне. Затым завезлі племянных хракаў. І трэба сказаць, што справы пайшлі вельмі паспяхова, людзі падказвалі па ўсіх кірунках. Я знайшоў кватэру, праўда адзін пакой, бо калгасны дом займала сям'я былога старшыні калгаса Гончанкі. Я перавёз сям'ю і пайшла праца паспяхова. Мне нават лягчэй было тут працаваць, чым у сваім калгасе Кутузава. Тут быў добразычлівы калектыў настаўнікаў, актыў калгаса вельмі прыстойны, Уладзімір Мамчыц і шмат іншых. Вельмі добра і весела пайшлі справы.

Праўда не абышлося і без непрыемнасцяў. Год 7–8 таму назад, калі я яшчэ працаваў у дырэктарам заготжыўсыр'ём, я быў партаргам райзага. І вось агент райзага па Геранёнах т. Гушча папрасіў, каб я прыехаў у Геранёны.

Калі я прыехаў, Гушча ўзяў участковага, мяне, і мы ўтрох паехалі на паўночную ўскраіну Геранён да грамадзяніна К., які стварыў масавую перапрацоўку скур. Мы яго вытворчасць зачынілі, а скуры, паўфабрыкат канфіскавалі, напісалі пратакол. Канфіскаваныя скуры ў вялікай колькасці былі здадзены на склад па ў Іўі. На гэтым справа была закончана. І вось у сучасны момант гэты К. і ўся яго радня, а пляменнік яго працаваў старшынёй сельсавета, брат — агароднікам, усе гэтыя К. адносіліся да мяне непрыхільна, я гэта пастаянна адчуваў у сваёй штодзённай працы.

Галоўны бухгалтар Ч. занадта вольна сябе вяла, прыходзілася ёй тлумачыць субардынацыю згодна займаных пасад і абавязкаў, пасля чаго яна таксама непрыхільна адносілася да мяне. Я яе планаваў замяніць, але яна покуль працавала. Галоўны аграном П. таксама зраслася з мясцовымі брыгадзірамі, звенавымі, таксама было рыльца ў пушку. Не падабаліся ёй мае парадкі, якія я ўсталёўваў. Усіх я планаваў замяніць пазней, калі становішча маё умацуецца, але гэтаму не дадзена было здзейсніцца. Асноўная маса калгаснікаў і актыву адносілася да мяне выключна добра. Нават ксёндз і з тым былі добрыя адносіны. Аднойчы мой ездавы, у мяне былі два кані — хуткая Магнатка і больш цяжкі жарабок, а ездавым быў дзед Амілюк, сыны ягоныя жылі ў Польшчы, і жыў ён з сваёй жонкай удвух, дзядок вельмі хітранькі. Я ездзіў у асноўным адзін, а ён глядзеў коней і іншы раз ездзіў са мной. Вось ён аднаго разу кажа: «Пан Ксёндз прасіў мяне, каб я яго падвёз да Дзявенішкаў у 5 гадзін раніцы».

Я яму гавару ў адказ: «Ты дзед разумны чалавек, а пытанні задаеш неразумныя. Ксёндз у нас адзін, і ты заўсёды, калі наша дапамога патрэбна яму, рабі яе і ўдзень і ўноч. І толькі тады, калі ты сам не можаш вырашыць, толькі тады звяртайся да мяне». Пасля гэтай размовы у нас з Ксяндзом былі добрыя сяброўскія адносіны.. Помню такі выпадак. Неяк падчас жніва, калі мы яшчэ толькі зжалі жыта, а жалі тады толькі сярпамі, падышоў Фэст, каталіцкае свята. А яго тут святкавалі 3–4 дні. У суботу я еду с Амілюком



на брычцы, злезлі на поле паглядзелі снапы, жыта амаль сухое. Я кажу, што заўтра трэба вазіць снапы, а пачынаецца фэст, а праз 3- 4 дні можа пайсці дождж, і прападзе хлебушак, і ніхто нас не выратуе ад гэтага.

І вось прыйшла нядзеля, у абед заходзіць у кантору Уладзімір Мамчыц. Я кажу: «Сядай, Валодзя, зараз знойдзем што-небудзь выпіць». Ён гаворыць: «Не, зараз піць не будзем, я зайшоў спытаць у якое гумно будзем вазіць снапы. Мужыкі ўжо пайшлі запрагаць коней». І расказаў, што Ксёндз правёў малебен, прачытаў пропаведзь і затым папрасіў усіх мужчын ісці дадому, запрагаць коней і вазіць снапы, а жанчыны могуць працягваць займацца хатнімі справамі. Так мы з дапамогай ксяндза практычна выратавалі ўраджай жыта. Мы вазілі снапы ў нядзелю да самай цемнаты, увесь панядзелак і ў аўторак да абеду, а пасля абеду пайшоў дождж.

Пасяўную мы правялі добра, шмат пасеялі канюшыны, бо ў калгасе не было лугу. Пасеялі шмат серадэлы па жыту для калгаснікаў і для калгаса. Пасадзілі бульбу і буракі, а вось план па кукурузе нам далі аж 300 га. Мы пайшлі па адказнаму, але небяспечнаму шляху. Мы пасеялі па агароду 30 га сумесі кукурузы, вікі, аўса, гароху, усё разам і вырасла выдатная зялёная маса. Калі пачалі касіць, то на адным месцы касілі воз. А астатнюю кукурузу пасеялі па цаліне, дзе збіраліся восенню сеяць жыта, там яна канечне не ўрадзіла. Але ў нас другога выйсця не было. Калі засеяць урадлівыя землі 300 га, гэта калі па 2 тоны зерня з га, і то 600 тон хлеба. Гэтым мы рызыкаваць не маглі. У той час раскруцілася кукурузаманія, якая вялікую шкоду нанесла сельскай гаспадарцы. У калгасах не было ні угнаенняў, ні арганікі для таго каб узрошчваць высокі ўраджай кукурузы на вялікіх плошчах, ні тэхнікі, каб яе скасіць і засіласаваць. Такая магчымасць з'явілася толькі праз 20–25 год. А тыя часы гэта было неразумна.

І яшчэ пра адно, неяк будучы ў Мінску з Н. С. Хрушчовым акадэмік Лысенка выступіў на сходзе і расказаў пра земленавозныя кампосты. Нашыя партыйныя органы

ўхапіліся за гэтую ідэю і пачалі ўкараняць у вытворчасць. Мне таксама прыйшлося прыняць гэты чарговы неразумны эксперымент.

Прыехаў сакратар райкама К. Х. Дагура, знайшоў дзялянку ўрадлівай зямлі, выгульны дворык каля фермы, навазілі туды торфу, гною, унеслі вялікую дозу мінеральных угнаенняў, дыскавалі шмат разоў, вось земленавозныя кампосты гатовыя. Вазілі іх 2 тыдні пад грэчку, пасеялі, і атрымалі пшык, дзе больш трапіла гэтых кампостаў там грэчкі наогул не было, а толькі свірэпка. І гэтае мерапрыемства пайшло ўпустую.

У тыя часы яшчэ адзін клопат быў партыі аб калгасах, гэта слабыя калгасы хаваць у багатыя. Гэтае мерапрыемства пачалі праводзіць напорыста і нахабна. Моцныя гаспадаркі аб'ядноўвалі з слабымі і ўсе рабіліся слабымі. *У мяне склалася ўражанне, што спецыяльна ідзе знішчэнне моцных калгасаў, пры тым мэтанакіраванае.*

Неяк калі я яшчэ працаваў старшынёй калгаса Кутузава, да мяне прыехаў першы сакратар райкама К. Х Дагура і другі Аляксандр Патапаў і прапанавалі мне быць «маяком» у раёне. Справы, кажуць у цябе лепш за ўсіх, і толькі табе быць маяком, мы ў гэтым цябе падтрымаем. Я катэгарычна адмовіўся і прапанаваў маяком Уладзіміра Баўмана, калгас «Стаханавец», вёска Жылі. Яны згадзіліся і паехалі да Баўмана. І вось праз нейкі час Баўм стаў маяком. Пачаў даваць 2 планы мяса, а потым і па тры гадавых плана, грымеў на ўвесь раён, а потым на ўсю вобласць і на рэспубліку. Далі яму Героя Сацпрацы. І трэба ж так здарыцца, што ў пачатку 1960 года з'явілася пастанова ЦК КПСС аб ілжэмаяках, прыехала камісія, праверылі, але ўсё замазалі. Між тым трэба было хаваць канцы, і ў раёне прыдумалі аб'яднаць калгас-маяк з калгасам «Вольнае жыццё». К гэтаму часу былі ўжо аб'яднаныя два раёны Іўя і Юрацішкі, і першым сакратаром стаў Побаль, а К. Х. Дагура пайшоў на пенсію. Такім чынам, я адпрацаваў у калгасе 10 месяцаў, апынуўся перад фактам, што калгас трэба здаваць, а самому ехаць



у Быхаў. У Быхаве ў нас быў дом, прыстроены трысцен і ўсё было падрыхтавана да жыцця.

У пачатку лютага 1961 года на сходзе я зрабіў справаздачны даклад, мяне прадстаўнік райкама прыпыніў, сказаўшы, «давай закругляйся, нам нецікава слухаць, наша задача аб'яднаць два калгасы ў адзін». Я закончыў і сеў. Пачалі з месцаў выступаць, начальства не хоча іх слухаць. Тады ўвесь зал рушыў на выхад і пайшоў на вуліцу, *«калі нас не слухаюць, нам рабіць тут нечага і пайшлі»*. Мы засталіся ў прэзідыуме адны, без калгаснікаў. Пасля гэтага начальства села ў машыны і паехала дадому, і аб'яднанне не адбылося.

Назаўтра мяне выклікалі ў райком і пачалі абвінавачваць у тым, што я сарваў сход. Я патлумачыў паводзіны прадстаўнікоў райкама, і тое, што адпрацаваўшы 10 месяцаў, не меў яшчэ моцнага ўплыву на калгаснікаў, акрамя таго ім проста надакучыла мяняць кіраўнікоў калгаса, тым больш, што ім абяцалі, што я буду ў іх навечна.

Назаўтра сабралі сход, прыехаў першы сакратар, і дамовіліся покуль не аб'ядноўвацца. Але я ведаў крывадушнасць партыйных органаў, што так яны гэта не пакінуць. Я прапанаваў папрацаваць да восені, а восенню аб'яднацца. На гэтым і дамовіліся, узамен я папрасіў адпусціць мяне з раёна па-добраму і даць мне «открепительный» талон.

Праца ў калгасе ішла выключна добра, ніхто і не мог уявіць, што гэта апошні год маёй работы, прытым не поўны, толькі да кастрычніка месяца. Добра падрыхтаваліся да пасяўной, правялі яе на якасным узроўні і ўраджай атрымалі вельмі добры, яшчэ больш накасілі канюшыны і нарыхтавалі кармоў, шмат накапалі бульбы. Будаўніцтва ішло нядрэнна, за перыяд маёй працы збудавалі два гумна для захавання кармоў, гараж з майстэрняй, канюшню ў вёсцы Кузмічы, баню ў Геранёнах, выкапалі некалькі калодзежаў на фермах. Трэба адзначыць, што будаўнікоў узначальваў Аніскевіч (Канапелька), вельмі працалюбівы чалавек.

Толькі пры яго настойлівасці быў вывезены лес з Юрацішскай зоны. Там нам выдзелілі лес, паехалі, паглядзелі — лес добры, высокі, стрункі. Вось толькі ехаць да яго 3 км па балоту, па пракладзенай ляжнёўкі. Ляснік гаворыць: «Да вас не адзін ужо прыязджаў за гэтым лесам, паглядзяць і паедуць. Вы таксама яго не вывезеце.» Але Аніскевіч нарыхтаваў каля тысячы паўтары металічных скоб і вялікіх цвікоў, адрамантаваў ляжнёўку і вывез лес. Гэта сапраўдны гераічны ўчынак, бо па ляжнёўкі нават немцы падчас вайны не маглі праехаць, гэта ляжнёўка было толькі для кол, а павярні ўправа ці ўлева хоць на паўметра і машына апынецца ў балоце і адтуль яе ўжо нічым не выцягнеш.

У Геранёнах у нас нарадзілася дачушка Сашанька, усімі намі любімая і дарагая. І пад час пераезда ёй яшчэ не было і годзіка.

Надышоў кастрычнік месяц, прыйшоў дзень, калі патрэбна было збірацца і пакідаць Геранёны, і наогул усю Заходняю Беларусь, дзе мы пражылі 17 год кіпучага, бурлівага, цяжкага і шчаслівага жыцця. Усе палявыя работы былі паспяхова завершаны, нарыхтавана дастаткова кармоў, асабліва канюшыны было шмат, сабраны ўраджаі зерневых, бульбы, караняплодаў.

Сход быў праведзены па брыгадах раніцой рана, калі жанчыны яшчэ палілі печы, а мужчыны збіраліся на сход. *Яны, зразумела з большасці маўчалі, іх да гэтага прывучыла ўлада, не адзін быў за лішнія размовы, за доўгі язык пасаджаны.* Выбралі прадстаўнікоў ад кожнай брыгады, па 5–7–9 чалавек, на агульны аб'яднаны сход. Для гэтай работы былі далучаны ўсе вышэйшыя кіраўнікі раёна, у колькасці дзесьці каля 15 чалавек, на чале з першым сакратаром А. Побалем, з якім мы такі сход праводзілі ў саміх Геранёнах у мястэчку, дзе ў асноўным народ шляхта і каталікі.

Я ведаў, што ўсялякі супраціў бессэнсоўны. Таму я ўзяў на сябе правядзенне сходу, і каб не падвергнуць калгаснікаў непатрэбным хваляванням і непрыемнасцям імкнуўся



хутчэй і прасцей правесці гэтую працэдуру, дзе ужо без нас даўно ўсё было вырашана там наверсе. Падчас сходу сакратар райкама не раз тузаў мяне за руку, каб я больш дэмакратычна вёў сход. Я адказваў на гэта, што нечага справу зацягваць, мужыкі ўжо есць захацелі, ды і бліны прастынуць, ды і Зосі хутка прыйдуць на дапамогу, даўшы зразумець калгаснікам, што лепш памаўчаць як заўсёды, і хутчэй закончыць гэтую камедыю. Дзесьці да 9 гадзін з усіх брыгад сабраліся прадстаўнікі і паехалі ў суседні калгас Стаханавец, з якім павінны былі аб'ядноўвацца. Там ужо такія дэлегацыі ад брыгад былі ў зборы, і пачаўся сход. Сход на працягу часу быў закончаны, былі абрана аб'яднанае праўленне, старшыня Баўм. На сходзе мяне падзякавалі за добрую ўдарную працу. І мы паехалі дадому.

Я запрасіў на сняданак першага сакратара Побаля і старшыню райвыканкама. Дома мы паснедалі з выпіўкай. Аннушка пачаставала як заўсёды вельмі добра. Старшыня райвыканкама т. Чарняўскі мне сказаў, каб я ніколі і нідзе не ішоў старшынёй калгаса, матывуючы гэта тым, што мне вельмі цяжка працаваць, таму што я чалавек шчыры, чэсны і прамалінейны. Я яму гэта абяцаў, не ведаючы, што праз 4 месяцы на радзіме на Магілёўшчыне ізноў траплю ў калгас, дзе прапрацую яшчэ больш 20 год.

На наступны дзень пачалі здаваць матэрыяльна-фінансава-эканамічную маёмасць калгаса. Прыехаў новы старшыня Баўм і дзесьці цэлы тыдзень я здаваў, а ён прымаў калгас. Паралельна ішла дакументальная рэвізія Усе добра ведалі, што я нікуды ні ўлез, ведалі маю чэснасць, але праверка ішла па поўнай праграме. Толькі я мог вытрымаць усе здзекі, што кожны дзень ішлі ад Баўма. Але вытрымаў. Праўда,налічаныя грошы, канчатковы разлік так ён мне і не аддаў, паабяцаў выслаць, але так мы не дачакаліся. Я не казаў пра гэта Аннушкі, каб хутчэй з'ехаць, у мяне не было сіл цярпець, а яны наўмысна кожны дзень усё больш здзекаваліся, вызываючы мяне на «біс», і мне вельмі цяжка было стрымлівацца. І мы паехалі, далі нам грузавую машыну і казёл для дзяцей і паехалі ў Быхаў у свой дом.

Месца для жыцця у нас было добрае і добра было, што мы не праспалі і своечасова падрыхтаваліся.

Што можна сказаць аб маёй рабоце ў Геранёнах.

Людзі як і ў калгасе Кутузава працалюбівыя, хацелі жыць, працаваць на сваіх сядзібах і калгасе чэсна, добрасумленна, з імі мне заўсёды было спакойна і радасна, яны былі шчырымі і падказвалі толькі праўду. Народ вылучыў сваіх кіраўнікоў. Гэта Уладзімір Мамчыц, Станіслаў Анісковіч, Станіслаў Дыль, Франц Дудойць і шмат іншых. Гэта сапраўдныя кіраўнікі вытворчасці, добрасумленныя працаўнікі. І нягледзячы на шматлікія супярэчнасці вялі справы паспяхова, чэсна і добрасумленна.

Начальства — райкам, райвыканкам і іншыя раённыя і абласныя кіруючыя органы, ад іх ішлі, калі класіфікаваць, напэўна ўладна-феадальныя адносіны. Пры якіх, мы, ніжэйстаячыя прадпрыемства і калгасы, тыя хто ўладзе падпарадкоўваўся, былі заўсёды вінаватыя. Ад іх заўсёды трэба было чакаць пагрозы, фальш, ашуканства, чынашанаванне, недавер, крывадушнасць, зло. Увесь час упаўнаважаныя прыязджалі, перашкаджалі працаваць. Трэба сеяць канюшыну, а яны сей кукурузу, трэба жаць — яны «малаці». Наогул з імі мне было вельмі цяжка. Мы пісалі фіктыўныя нарады ў калгасе, каб паіць, карміць начальства, на дарогу даваць, ды і сваю зарплату ў асноўным з начальствам прапівалі.

Урэшце, начальнікі толькі перашкаджалі працаваць і прыносілі зло для чэсных і працавітых людзей. Вечна выдумлялі нейкія праекты, то якія культуры сеяць, то якую жывёлу трымаць. Ад іх ішло зло. Напэўна гэта самой прыродай закладзена. То аб'ядноўваюць, то звышплана даюць, то вымову, то здымаюць.

І апошняе, мне да сённяшняга часу незразумела, як і чаму ў гэтым калгасе тры старшыні Захаранка, Гончанка і Малец не здолелі нічога добрага зрабіць? Як мог райком і райвыканкам такое становішча дазволіць? Мой папярэднік Гончанка, які за адзін год «дамалаціў» калгас, але сабе купіў аўтамабіль «Волгу». Куды глядзелі ўпаўнаважаныя, якія заўсёды не давалі мне паспяхова працаваць? Дзе быў звышпільны райкам? А можа так і трэба было працаваць? Але я не мог, не дазваляла сумленне.

Перад маім ад'ездам на радзіму з Геранён, я быў у Іўі і сустрэў некалькі старых сяброў, мы дамовіліся і сабраліся ў рэстаране. Разгаварыліся, успомнілі і падлічылі, што з 1946 года нас у раёне з тых хто прыехаў у тыя гады, засталося толькі 6 чалавек. Я з'язджаю, застаецца толькі 5 чалавек. За гэты час з 1946 года па 1961 год забіта бандытамі звыш 300 чалавека савецкага актыву.

Вось такая сумная статыстыка. Ні ў чым не вінаватых людзей, што прайшлі жахлівую вайну — вось цана сутыкнення двух супрацьлеглых ідэй і барацьбы за жыццёвую прастору, якая вялася вышэйстаячымі кіраўнікамі, ідэалістамі, фанатыкамі і дагматыкамі.

У цэлым мне ў Заходняй пашчасціла. Я знайшоў сваю сяброўку жыцця Аннушку. У нас нарадзілася трое дзяцей. І я прайшоў суровую школу жыцця, галоўнае не трапіў у турму, што ў тыя часы вельмі лёгка магло адбыцца, наадварот нават атрымаў першы ордэн Працоўнага Чырвонага Сцяга, а ў тыя часы гэта не кожнаму было дадзена. Я ўдзячны Заходняй за падораны мне мой лёс. Я ўдзячны і да канца сваіх дзён не забудуся добрых людзей, працоўных людзей, чэсных, якія добра паставіліся да мяне і падтрымалі. Вялікае дзякуй ім, а каго ўжо няма, — Царства ім нябеснае, вечны спакой!

Пройдзе шмат гадоў, дзесяцігоддзі, надыдзе новы час, калі на жніве ўжо не будуць завіхацца калгасніцы з сярпамі, а будуць працаваць камбайны. Аднойчы, мы жывучы ў Быхаве зрабілі выезд на Іўеўшчыну, дзе некалі жыццё віравала пасля страшнай вайны, адраджалася, выбудоўвалася намі. Яшчэ жылі тыя людзі з якімі мы некалі будавалі новае жыццё! І з здзіўленнем і радасцю мы глядзелі, як нас людзі сустракалі! Са слязамі, з радасцю, яны ўжо не маглі мець ад нас ніякіх карысных мэт, а сустракалі ад душы, як самых дарагіх гасцей!

А яшчэ раней, мой сын Жэня заехаў з студэнцкім атрадам у Геранёны і калі даведаліся, што сын старшыні Кудраўцава, то вельмі добра прынялі і яго і ўвесь атрад...

## Быхаў

І вось Быхаў. Сустрэў ён нас, непрыветліва, пахмура. Я вырашыў пару месяцаў адпачнуць. Але хапіла сіл на адпачынак аднаго месяца. Усе хатнія работы былі выкананы, зроблены і надышла туга па Заходняй. Ноччу спіш і бачыш Заходняю, то Шаркуці, то Геранёны, раніцой прачнешся, глядзіш Быхаў. Кашмар, цяжка прывыкаць да новага месца. І я вырашыў пайсці ў райком па пытанню працы.

І хадзіў я ў райком вельмі доўга: тыдні тры, то аднаго няма, то другі партыйны кіраўнік адсутнічае. У той час першы сакратар некуды паехаў, ці то ў водпуск, ці на вучобу, за яго заставаўся другі сакратар і ён усё не вырашаў, што рабіць са мною. І вось нарэшце, прыехаў першы сакратар Батурэвіч і ўбачыў мяне. Я ўжо ў яго быў раней і ён помніў мяне, тым больш, што ён вучыўся разам з маім былым першым сакратаром К. Х. Дагурам і ў іх яшчэ тады адбылася размова пра мяне, калі я працаваў у Іўі. Аб гэтым мне некалі казаў сам К. Х. Дагура. І вось Батурэвіч дае каманду другому сакратару Кузняцову накіраваць мяне на агароднінасушыльны камбінат загадчыкам сыравіннага аддзела. Кузняцоў адразу выканаў загад першага сакратара. Я прыйшоў у сушыльны камбінат. Трапіць зразу да дырэктара не ўдалося, спачатку не было пропуска, а затым не было дырэктара. Урэшце покуль я дайшоў да дырэктара, у мяне склалася ўражанне, што гэты камбінат з вялікай культура вытворчасці і дысцыплінай. І вось я ў намесніка дырэктара Турусунова, сам дырэктар на вучобе. Таварыш Турсунаў мяне прыняў, уважліва пагаварыў і выдаў загад аб назначэнні мяне на пасаду начальніка сыравіннага аддзела.



Аддзел — гэта маленькі пакой прыкладна 3 х 4 наша рэзідэнцыя. Служба — 10–15 нарыхтоўшчыкаў, якія займаюцца нарыхтоўкай сыравіны па ўсім Савецкім Саюзе. Акрамя безнаяўнага разліку ім дазволена браць вялікія сумы наяўных грошай. І нарыхтоўшчыкі закупаюць сельгассыравіну: цыбулю, вішню, гародніну і садавіну. Аграном, намеснік, два склады: засолачны і сховішча, рабочых чалавек 25–30, вось мой штат. Наша задача- нарыхтоўка сыравіны, захавання і передача для перапрацоўкі нарыхтаванай сыравіны двум асноўным цэхам: кансерваваму і крухмальнаму. Я падпарадкоўваўся акрамя дырэктара, намесніку Федасенку і галоўнаму інжынеру Чую.

Штодзень з раніцы ў дыспетчара з 7 гадзін мы атрымлівалі транспарт для вывазкі сыравіны з месцаў нарыхтоўкі. У той час галоўным было вывезці бульбу, нарыхтаваную і з восені складзеную ў калгасах. Дзесьці ў 10 гадзін раніцы планёрка-пяцімінутка, якая працягвалася 1 гадзіну ў галоўнага інжынера. Там збіраліся акрамя начальнікаў сыравіннага адзела, перапрацоўцы цэхаў, яшчэ і начальнікі жасцянабаначнага, тарнага і другіх.

У курс справы я хутка ўвайшоў, работнікі аддзелаў мяне з усім пазнаёмілі. Кладаўшчыкі мяне сустрэлі насцярожана і недружалюбна.

Сваю дзейнасць я сканцэнтраваў на вывазе бульбы з глыбінак, а яе налічвалася прыкладна 7 тысяч тон. Я ўгаварыў дыспетчара Марковіча і ён мне добра дапамагаў з вылучэннем транспарту, хоць яго ўсё роўна не хапала. Дзесьці за паўтара месяца мы вывезлі з Сідаравіч Магілёўскага раёна і Глух Быхаўскага раёна прыкладна 3 тысячы тон. Астатняя бульба лічылася напалову толькі на паперы, а фактычна яе не было. Я даклаў дырэктару Турсунову, што бульба вывезена і ўсе абставіны.

Ён падзякаваў мне за тое, што хутка быў арганізаваны вываз бульбы і далей кажа: — За 3,5 тысячы тон ліпавай бульбы мы з табой будзем адказваць. — Я кажу: «А мы прычым? Вы новы чалавек і я таксама, прычым мы?»

Турсунаў гаворыць, што таму мы і будзем вінаватыя. У далейшым я не ведаю, хто за прыпіскі адказаў. Я пайшоў з камбіната і чым гэта бульбяная справа закончылася мне невядома, ды я гэтым і не цікавіўся, некалі было. Я ведаў, што гэта брудная справа, зроблена нячэснымі людзьмі дзеля паказухі і яна мяне не датычыла. Аб камбінаце першапачаткова ў мяне склалася меркаванне, як аб культурным высокаэфектыўным сацыялістычным прадпрыемстве, у чым я глыбока памыляўся. На самай справе ўсё было наадварот: ручная праца, безгаспадарчасць, кругавая парука, масавы крадзеж, вялікія затраты вытворчасці. Усё гэта клалася на плечы з аднаго боку на калгасы і саўгасы, прыватны сектар, што выраблялі сыравіну; з другога боку на пакупніка закупаемай сыравіны. Вось у маім аддзеле былі такія справы. Завезеная на камбінат бульба была засмечана зямлёй, пяском і ў такім выглядзе ішла ў сховішча. Я прапанаваў галоўнаму інжынеру вырабіць у майстэрні грохат, праз які праходзіла б бульба перад тым, як накіраваць яе у сховішча. Ён прыняў прапанову, але выказаўся, што грохат павінен быць на буртах у полі, а паколькі на полі адсутнічае электраэнергія, то грохат быў перароблены ў канструкцыі і гэта ў выніку не дало патрэбнага выніку. Так бульба і паступала з брудам у сховішча, дзе рабочыя яе перабіралі ўручную. Бульба ішла ў сушыльны цэх на перапрацоўку на крухмал.

На камбінаце былі вельмі вялікія прыпіскі выкананых работ. Я з гэтым спрабаваў змагацца, але ўсё было дарэмна. Былі і іншыя недахопы. Карацей кажучы, праца на камбінаце мне зусім не падабалася. Начальнікаў шмат, а толку вельмі мала. Але я працягваў працаваць.

Аднойчы, гэта было ў пачатку лютага 1962 года, мяне паклікалі ў райком.

Калі я зайшоў да першага сакратара Батурэвіча, там знаходзіўся і старшыня райвыканкама Сычоў. Трэба адзначыць, што гэтыя таварышы былі вельмі прыстойнымі людзьмі, прайшлі вайну, былі некалькі разоў параненыя, закончылі Вышэйшую партыйную школу, дасведчаныя і чэсныя людзі з вялікім сумленнем. У наступнай працы з імі гэтыя якасці былі пацверджаны самім жыццём. І вось гэтыя людзі паклікалі мяне і пачаў гаварыць першым Батурэвіч. «На Вас прыйшлі паперы з Іўя, і Вы характарызуецеся з пазітыўнага боку. Мы параіліся на бюро і вырашылі прапанаваць пасаду старшыні калгаса мясцовага гарадскога «Рэвалюцыя». Мы ведаем, што Вы інвалід вайны, тым не менш вырашылі прапанаваць гэтую пасаду хаця б на пару год. Там старшыня моцны, але яму ўжо 61 год і таксама інвалід вайны, ён просіцца на пенсію. Падумайце, мы вам даём тры дні, парайцеся ў сям'і і потым нам інфармуйце.

Я адказваю: — Я пайшоў з пасады старшыні па хваробе і калі б я ведаў, што мяне тут чакае тая самая пасада старшыні, то не паехаў бы сюды. А наконт таго, каб думаць тры дні, то гэта дарэмна. Думаць тут няма аніякага сэнсу. Калі я адмоўлюся, Вы патэлефануеце дырэктару камбіната і інфармуеце яго, што я не тая асоба, на якую разлічваў райком і калі будзе магчымасць вызвалі яго ад займанай пасады. Я гавару, што ведаю працу райкама і назад у Заходняю ехаць не збіраюся і таму згодзен ісці ў Вашу «Рэвалюцыю», чаму быць — таго не мінаваць.

## Калгас «Рэвалюцыя»

Урэшце, праз пару дзён назначылі сход калгаснікаў, дзе мяне выбралі старшынёй калгаса.

Я тады, вядома не ведаў, што ў гэтым калгасе адпрацую 20 з гакам год. Сход пачаўся дзесьці ў 10 гадзін раніцы і ішоў да 1 часу ночы. На сходзе прысутнічаў 2-і сакратар райкама Георгій Сяргеевіч Кузняцоў. Гэта быў бязвольны, нерашучы чалавек. І сход вельмі мне напомніў фільм «Паднятая цаліна».

Галоўны сыр-бор разгарэўся па спісанню мешкатары, а затым установе зарплаты старшыню калгаса і маім

спецыялістам. І калі ўжо маё цярпенне лопнула, я ўстаў і заявіў, што я да вас ў старшыні не прашуся, я ўжо наеўся калгаснага хлеба. Я вам сябе не прадаю. Хочаце выбірайце — буду працаваць, не хочаце — да пабачэння, цалавацца некалі. Я за шапку і пайшоў дадому. Вось пасля гэтага нарэшце пытанне вырашылі, даць старшыню ў месяц 70 рублёў і 60 працадзён, а маім памочнікам і спецыялістам 70 адсоткаў ад старшыні і на тым закончылі сход.

Калгас «Рэвалюцыя» прыгарадная гаспадарка мела 4300 га зямельных угоддзяў, у тым ліку сенажацей каля тысячы га, такую ж колькасць выганаў, ворнай зямлі 2100 га, саду 50 га і агарод 20 га. Жывёлагадоўля БРС каля тысячы галоў, у тым ліку кароў 430, авечак 360, курэй 540, свіней 1200, коней 280. Ураджай з гектара ў той год сабралі зерня 12 ц с гектара, бульбы — 110 ц. Валавы надой малака па калгасу склаў 600 т і мяса — 110 т.

Калгас лічыўся ў раёне перадавым, меў 7 брыгад, 2 фермы КРС і 2 фермы свіней. У склад калгаса ўваходзілі 3 населеных пункты: г. Быхаў (паўднёвая частка), Няраж і Асоўшчына. Узначальваў калгас да мяне дасведчаны, усімі паважаны старшыня Сямён Сідаравіч Самусеў, дэпутат Вярхоўнага Савета, былы партызан, ардэнаносец, узнагароджаны ордэнам Леніна.

Тэхнікі ў калгасе: 7 трактароў, 7 аўтамашын і сеялкі, плугі, бароны і інш. Млын на 2 камяні памолу і крупарушка. Будынкі жывёлагадоўчыя ў большасці ў патрабавалі капітальнага рамонту. Сцены ў дубовых шулах падгнілі і патрабавалі пераборкі сцен з бетаніраваннем шулы і рамонт даху, унутры трэба было мяняць кармушкі, вокны, і столь. Такіх будынкаў было 14 з 17 існуючых. Быў добры навес на 1 тысячу тон сена, але напалову спалены, патрабавалася яго ўзнавіць У майстэрні была адна драўляная будка з дзіравым дахам. Вось прыкладна без перабольшвання тое, што мне прыйшлося прыняць.

Калгаснікаў было 224 працаздольных мужчын і 215 жанчын, гэта была сіла. Была ў калгасе вышэйшая дэмакратыя, сход мог цягнуцца суткамі, а праўленне калі



пачыналася ўвечары, то працягвалася да 2–4 гадзін ночы. На праўленні было заўсёды чалавек 100–150 калгаснікаў. У тыя часы калгаснікі атрымлівалі на працадзень хлеб, бульбу, грошы і быў моцны самакантроль. Крадзеж і псута былі выключэннем. У тыя часы гэта мела вялікі кошт. Быў такі выпадак ў калгасным садзе, туды залез салдат за яблыкамі і быў забіты вартавымі. Ноччу вартавых нават я баяўся правяраць.

Калгаснікі прынялі мяне сурова і непрыхільна. Яны прывыклі да Сямёна Сідаравіча і мяне доўга не маглі прызнаць. У першы год майго кіравання склаліся вельмі кепскія пагодныя ўмовы. У сувязі з моцнымі дажджамі ў чэрвені разліўся Днепр і заліў усе лугі і выганы. У самы пік сенакосу было нарыхтавана сена 350 тон і стагі ўсе былі ў вадзе. У гэтай сітуацыі мы прынялі рашэнне працягваць сенакос на высокіх месцах. К гэтаму часу пагода праяснілася. Пачалася жніво зерневых, частку зерневых прыйшлося зжынаць сярпамі на нізінах, збіралі і снапы і сціртавалі. У гэты час трэба было вырашыць тры задачы: 1 — загатоўка кармоў і падрыхтоўка да зімы. Гэтую справу я ўзяў на сябе. 2 — уборка зерневых і пасеў азімых. Гэтую справу ўзяў аграном Іван Ананьевіч Котаў, вельмі талковы чалавек. 3 — карміць жывёлу, гэтае пытанне вёў намеснік Ермалай Ніканоравіч Лысуха. І вось вада сышла з лугу, трава моцна палягла. Касілкі не могуць палеглую траву касіць. Мы прынялі рашэнне: аддаць калгаснікам увесь луг, няхай косяць уручную сабе, сваім каровам. Удалося нарыхтаваць да 360 тон яшчэ 250 тон і ўсё. Салому застагавалі, закупілі саламарэзкі, у «Нарыхтзерня» закупілі кукурузных тычынак тон 200. Нарыхтавалі ў лясах жалудоў тон 20. Сеяць жыта азімае прыйшлося без семяправадаў, ураскід, а потым баранаваць. Бульбу выкапалі добра. Зімой арганізавалі збор конскага памёту для кармлення свіней, зерня драбілі. Працавалі круглыя суткі па драбленню

кукурузных тычынак. Муку давалі толькі маладняку БРС. Нарыхтавалі шмат венікаў для авечак, развесілі іх

па гарышчах і авечкі паелі за зіму. Урэшце з цяжкасцю і Божай дапамогай перазімавалі.

На працадзень нядрэнна атрымалі людзі і ўжо да заключнага сходу калгаснікі мне прапанавалі даць прэмію — тэлевізар. Але я культурна падзякаваў і адмовіўся ад прэміі. Вось так караценька пра першы складаны і цяжкі год маёй працы ў калгасе «Рэвалюцыя».

У наступныя гады неабходна было вырашыць тры галоўныя задачы.

1. Павелічэнне валавага збору зерневых.
2. Павелічэння жывёлагадоўчай вытворчасці.
3. Будаўніцтва.

Пры вырашэнні гэтых пытанняў можна было вырашаць і пытанне павышэння матэрыяльнага становішча калгаснікаў.

Першае пытанне — павелічэння збору зерня, бульбы — вырашалася двума шляхамі. Першы — паляпшэнне ўрадлівасці зямлі, давядзенне бясплодных пустых зямель да высокапрадукцыйных, а такіх было дзесьці 65–70%. Для гэтага патрэбны быў гной і яшчэ раз гной.

Усе жывёлы былі пераведзены на гнаявое ўтрыманне. Колькі папрокаў я атрымаў ад начальства і заатэхнікаў усіх рангаў. Але мой дэвіз быў: «Каб жывёле было ўлежна і ўежна». Нават свінні і парасяты былі на гноевым ўтрыманні. Бывала зойдзе начальства ў свінарнік, і глядзяць: «Дзе ж твае свінні?» А іх не бачна. Паманілі — яны вылазяць з саломы чыстыя, беленькія і не кашляюць.

На гэтую справу не шкадавалі ні сіл, ні сродкаў. Гной і яшчэ раз гной. Увялі чыстыя пары. Самую малапрадуктыўную зямлю пакінулі пад чыстыя пары і ўсё лета вазілі туды жыжу, гной. А пасля загнойвання — зааралі, а затым пасеялі жыта ці пакінулі пад яравыя. Пазней з'явіўся торф, вазілі торф у падсцілку а наверх салому. *Дарэчы, у тыя часы яшчэ было дастаткова працаздольнага насельніцтва.*

Гэтымі мерамі мы дасягнулі, што валавы збор зерня з 1,5 тысячы тон павялічыўся да 2-х тысяч тон, затым — 2,5 тыс. тон, далей 3000 тон. Так да 80 гадоў давялі валавы збор зерня да 4100 тон. Затым ураджай стаў то ісці ўніз, то заставаўся на месцы. Ужо наступны рубеж — 5000 тон, мы так і не здолелі дасягнуць. Мы не здолелі ўвесці дадатковыя землі, тарфянікі ў Асоўшчыны 250 га, зрабіць іх урадлівымі. Але аб гэтым потым.

У нас у калгасе па сутнасці дзейнічаў не сяміпольны і дзевяціпольны севазварот, а звычайная дзедаўская трохполка. Гэта значыць у нас паша атрымлівала гной праз кожныя тры гады ці ў крайнім выпадку на чацвёрты.

А расклад угнойванай зямлі быў такі: бульба — 300 га, буракі — 80 га, гародніна —20 га, прысядзібныя дзялянкі, якія мы штогод мянялі, — 200 га, кукуруза — 80–100 га. У выніку 700 га. Плюс паравое поле 50–100 га, гэта ад 2100 га пашы састаўляла 30–35 %. Вось вам і трохполка. Ужо ў 70-я гады на ўсіх палях расла кукуруза.

Трэба адзначыць, што ўнясенне ў глебу арганікі я асабіста ўзяў пад кантроль, і толькі калі мной было праверана поле пасля раскідванне гною, было дазволена заараць поле.

І ўсё ж пад ціскам начальства і даярак мы вымушаны былі ў канцы 70-х і пачатку 80-х гадоў перавесці жывёлагадоўлю на палавое ўтрыманне. Бруд застаўся той самы, а гною паменшала.

Але мы страты кампенсавалі торфакрошкай. Павялічылі яе вываз, забіралі выдзеленую нам і дамаўляліся з іншымі гаспадаркамі, мянялі на салому, цёлак і іншае, а торфакрошку забіралі, прапускалі праз фермы і атрымлівалі якасную арганіку.

Бульбу мы атрымлівалі добрыя ўраджаі. З 100–300 цэнтнераў у 1960-я гады, ужо 1970-х — пачатку 1980-х атрымлівалі па 250–300 цэнтнераў з гектара, а валавы збор з 1–1,5 тысячы тон дасягнуў 7000 тон. Псута зерня і бульбы была даведзена да мінімуму. За іх захавання вялася дадатковая аплата выканаўцам, начальнікам і брыгадзірам.

Жывёлагадоўля таксама натуральна развівалася. Валавы надой малака павялічыўся ў 4 разы. Надойвалі 4300 тон

малака і здавалі мяса 450–530 тон у год. Але жывёлагадоўля развівалася павольна. Галоўная прычына таму, што ў жывёлагадоўлю мы не маглі ўкладваць столькі сродкаў, колькі было патрэбна для павелічэння прадуктыўнасці — з'яўлялася тое, што на жывёлагадоўчую ды і на ўсю прадукцыю існавалі вельмі нізкія закупачныя цэны. 1 літар малака быў танней 1 бутэлькі (0,5 л) ліманаду, 1 кг мяса — 1 руб. 97 кап., свініны — 2 руб. 10 кап., зерня —12 кап., бульбы — 8 кап., яблык — 10 кап., памідораў — 20 кап.

Зерня, бульбу калгас здаваў штогод па 1,5 плана. Затым зрабілі калгас насенняводчым, асноўнае зерне ішло на насенне, узамен нічога не атрымлівала, — ні зерня, ні грошай.

За гэты перыяд была заменена без нашай згоды парода БРЖ. У нас была парода Кастрамская, а ўпраўленне сельскай гаспадаркі і вобласці перавялі калгас на чорнапярэстую пароду. На гэта пайшло 5–10 год. Потым у пачатку 80-х пачалося будаўніцтва комплексаў. Спачатку без нашай згоды забіралі нашыя грошы, а калі ў калгасах не было грошай, то выдавалі пазыкі. Потым пачалі забіраць бычкоў і цялятак. Па 300–400 галоў і бычкоў павінны былі здаваць на комплексы і прытым самых лепшых. Затым адабралі лугі і па 300–500 тон фуражу ў год. Усё гэта, як і ўнутрыкалгасныя недахопы, моцна затрымлівала развіццё жывёлагадоўлі. Зменшылася колькасць працаздольных людзей у калгасе, калгас старэў. У выніку павялічылася нагрузка на даярак, а гэта значыць — недагляд і няўпраўка. Усё разам узятае прывяло да таго, што жывёлагадоўля не давала патрэбных вынікаў.

Дастаткова сказаць, што каб выбракаваць непрадуктыўную карову, якіх да восені збіралася 20–25%, а гэта ад 1000 кароў складала 180–250 галоў, каб на іх месца выгадаваць паўнавартасных кароў, трэба было ехаць у вобласць і там зацвердзіць выбракоўку а маглі і не зацвердзіць. І тады прыходзілася карміць непрадуктыўных кароў. Такім чынам атрымлівалася, што адна худая карова з'ядала двух выкармленых і сама здыхала. (На непрадуктыўную карову



ішло столькі кармоў, што можна было б утрымліваць двух прадуктыўных).

Не падтрымалі нас і з адкрыццём у калгасе каўбаснага цэха, цэха кансервацыі гародніны, садавіны і калгаснай крамы. Нам гэта проста забаранілі. У выніку мы кармілі кароў і свіней капустай, яблыкамі, гуркамі і памідорамі.

Іншы раз бывала, каб зацвердзіць наш прамфінплан на будучы год раённае кіраўніцтва даводзіла да слёз нашых спецыялістаў. Усе напрацоўкі, нашы планы ішлі кату пад хвост. Планы нам даводзілі завышаныя, а ў канцы года нашы спецыялісты атрымлівалі дадатковую аплату ў грашах. І атрымлівалася так, што той спецыяліст, які ў іншым калгасе дзе атрымлівалі значна меншую прадукцыю, меў 10–15 акладаў, а мы з высокай прадуктыўнасцю і завышанымі планамі толькі па 1,3–1,5 аклады.

Некалькі слоў пра будаўніцтва. З 18 жывёлагадоўчых будынкаў неабходна было тэрмінова 12 памяшканняў капітальна рамантаваць ці будаваць новыя. Мы пайшлі па першым кірунку. Пачалі рамонт і па 2–3 будынкі штогод рамантавалі. Залівалі падмуркі, бетонныя слупы, сцены закладвалі і столь рабілі з дошак. Дарэчы на гэтых столях мы сушылі зерня, калі яшчэ не было ў калгасах сушылак. Праўда адзін кароўнік я дамовіўся збудаваць праз МСО. МСО пачало яго будаваць і расцягнула будоўлю на 3 ці 4 гады. Гэта лічылася знешпланавай будоўляй і часцяком прыязджалі народны кантроль, праганяў будаўнікоў з знешпланавай будоўлі. Потым нам пабудавалі адзін склад і майстэрню, затым КЗС-10, пазней КЗС-20. Урэшце МСО збудавалі па праекту свінаферму такую бесталковую, што і зараз людзі мучаюцца, асабліва на дарошчванні і адкорме.

Мы вымушаны былі сам гаспадарчым спосабам збудаваць свіран у 10 раз талкавей і больш танна, матачнік, дом механізатара і іншыя пабудовы.. Асфальт паклалі ў Нераж. Паралельна з сваёй будоўляй нам трэба было вылучаць фінансы і на раённыя комплексы.

У той час калі мяне пасылалі ў калгас, начальства было талковае: сакратар Батурэвіч, старшыня райвыканкама

Сычоў. Гэта былі людзі сумленныя, здольныя, і вялі справы паспяхова. Затым іх забралі ў Магілёў. Першым сакратаром стаў Кузняцоў, што раней працаваў другім сакратаром. Старшынёй райвыканкама прыслалі нейкага п'яніцу. Кузняцоў паехаў вучыцца ў Маскву і ў раёне быў перыяд калі некаму было кіраваць. Потым прыслалі першым сакратаром Маслакова — вельмі талковы чалавек, другім сакратаром стаў Мацievіч, старшынёй райвыканкама Комар. Мяне выбралі члена бюро райкама. Для мяне гэта было нечакана і нежадана. Я не любіў бываць на пасяджэннях бюро.

Аднойчы помню такі выпадак: у райкаме вісела дошка паказчыкаў па надояў малака, і мой калгас займаў у гэты час першае месца. На дошцы было абазначана як машына з трыма цыстэрнамі. І вось першы сакратар Анатоль Васільевіч Маслакоў гаворыць, што калгас учора менш надаіў, пайшоў уніз. А я кажу, што нам некуды вышэй крочыць, далей столь і паказваю Дошку пашаны. І тут першы сакратар дае каманду перарабіць «Дошку Пашаны» і на новай дошцы ўжо было наверсе некалькі вольных месц. Вельмі талковы чалавек быў Маслакоў Анатоль Васільевіч і галоўны рост вытворчасці быў як раз у ягоны перыяд кіраўніцтва раёнам. За гэты перыяд мы адсоткаў на 70 павялічылі вытворчасць. Затым яго перавялі ў абкам.

На месца першага сакратара стаў Зміцер Герасімавіч Комар, а старшынёй райвыканкама стаў А. А. Мацievіч, былы другі сакратар. У гэты час наверсе брэжнеўская эпоха была ў росквіце. П'янкі поўным ходам ішлі зверху данізу, гаварылі толькі зверху, а ніз маўчаў і слухаў. Аднойчы я выступіў і сказаў, *што» да тога часу, покуль вы начальства гаворыце, а мы толькі слухаем, нічога не будзе!»*

Пачаліся прыпіскі, п'янкі, дыскатэкі, хабарніцтва і іншая неразбярыха. Пасля Комара прыйшоў С. П. Ціткоў. Тут ужо пайшла свістапляска: канцэнтрацыя, спецыялізацыя, комплексы. Адзін калгас ўзрошчвае бычкоў, другі цёлак, трэці сее лён, чацвёрты толькі бульбу, пяты займаецца толькі насенняводствам.



Неяк яшчэ не закончылі будаўніцтва комплексу па ўзрошчванні бычкоў у вёсцы Следзюкі, нас сабралі на семінар. Паглядзелі мы памяшканні, я і кажу: «Ну і гаўна ж тут будзе. Не зайздрошчу я таму хто тут будзе працаваць». Я нават і не ўяўляў, як угадаў.

Дзесьці праз тры гады тэлефануе першы сакратар і гаворыць: «Ты тады ўгадаў, на днях семінар, а следзюкоўскі комплекс засраўся. Памагі вывезці гной».

Я канечне арганізаваў транспарт і накіраваў вазіць гной ад комплексу сабе ў калгас. Праўда, прыйшлося заплаціць за гной следзюкоўскаму калгасу.

У пачатку сваёй працы Ціткоў пад уздзеяннем нагаварыў з боку прыўладных шаптуноў, наехаў на мяне, але я даў моцны адпор, сказаўшы: «Нягледзячы на перашкоды ў нашы справы з боку ўпраўлення сельскай гаспадаркі, завышаныя планы, наш калгас перавыконвае планы па мясу, малаку, зерню, бульбе. Якія могуць быць да нас прэтэнзіі, мы па валу вытворчай прадукцыі ўперадзе усіх калгасаў раёна?»

Першы сакратар гаворыць, што калі ты праўду кажаш, лічы, што гэтай размовы не было. Пасля гэтага пайшлі нармальныя адносіны. Помню такі выпадак: сабралі нас у райкаме і вось ніяк не могуць закрыць план загатоўкі бульбы па раёну. Усіх перапыталі, хто дае пяць тон, хто тры тоны. Падышла мая чарга, я кажу, а колькі трэба? Ціткоў кажа: «Не, ты ўсё не пацягнеш, ты і так здаў два планы. Колькі можаш?» Я кажу: «Трыста тон».

Вось тут у зале ўсталявалася нямая цішыня. Усе прысутныя кіраўнікі калгасаў і прадпрыемстваў раёна паднялі галовы і глядзелі на мяне. І мы стрымалі сваё слова — здалі трыста тон бульбы.

## Сустрэчы з Машэравым

Першы раз Машэраў наведаў наш калгас у тое дажджлівае лета. Ішло жніво зерневых. Жыта ўжо было амаль зжата і пачалася ўборка ячменю. Верталёт апусціўся каля пераезда, ад Быхава ў бок Неражы, прама на поле з канюшынай. Перад гэтым была прыгатоўлена пляцоўка, выкашана канюшына, пастаўлена палатка, накрапваў дождж. Побач ячменнае поле, працуюць тры камбайны. І вось верталёт сеў. Мяне зразу прадставілі Машэраву. Зайшлі ў палатку і галоўную размову ён вёў са мной. Першыя пытанні:

— Як вы прынялі нашага чалавека?

(Размова ішла пра прысланага першага сакратара С. П. Ціткова, які да гэтага працаваў у ЦК.)

Я адказваю:

— Па-мойму, нармальна.

— Як вы выконваеце яго ўказанні?

— Мне здаецца, добра.

— Які ў вас ураджай?

— 32 цэнтнеры, а ёсць участкі ячменю па 52 цэнтнеры.

(У раёне яму казалі, што па 20 ц/га.)

Затым былі зададзены яшчэ некалькі пытанняў і Пётр Міронавіч заўважыў, што «за такія ўраджаі мы даём Героя». Я адказаў, што справа не ў героях, а хлеб трэба ўбраць. Затым Машэраў падышоў да камбайнаў, якія пачалі жніво, хоць і марасіў дожджык. Пётр Міронавіч зразу ўзяў пробу паловы і мякіны, натуральна, што ў мякіне было адсоткаў 25 зерня. Я зразу адзначыў, сакратар ЦК мае сялянскую струнку і ведае, дзе страты. Ён даў каманду прыпыніць камбайны і кажа:

— Слухай старшыня, ты ж заганяеш зерня ў мякіну і салому, гэта ж вялікія страты.

Я адказваю:

— Не, усё гэта ідзе ў сілас. Вунь сіласныя траншэі, возім салому і сіласуем з зялёнкай і нічога не прападае, хаця канечне ўраджай змяншаецца. І звярніце ўвагу — колас ячменю ўжо сагнуўся і просіцца на зямлю. Калі мы яго не сажнём, то праз пяць дзён палову ўражаю будзе на зямлі.

Машэраў з гэтым згадзіўся, але папрасіў прыпыніць уборку дажджом, можа ўсё ж такі абветрыць, тады будзе менш страт.

Затым вярнуліся ў палатку, яшчэ вялі гаворку пра ўборку, пра ўгнаенне, арганіку. Я па ўсім пытанням адказваў дакладна і Машэраў падзякаваў абласное кіраўніцтва, якое было з ім за тое, што яны пазнаёмілі яго з такім дасведчаным старшынёй і затым паляцеў у Магілёў, развітаўшыся на поле. Потым мне казалі магілёўскія калегі, што ў сваім выступе на пасяджэнні ў Магілёве хвілін 30 Машэраў гаварыў пра наш калгас і пра яго старшыню.

Апрануты ён быў у просты плашч сіняга колеру, туфлі ўжо паношаныя, трымаў у руках папяроску доўгую, але не курыў. У размове і паводзінах быў простым, падкупаў сваёй добразычлівасцю і душэўнасцю. Я шмат разоў бачыў яго і чуў на розных пасяджэннях і сесіях. Але тут на сустрэчы ён мне спадабаўся, як старэйшы таварыш, як душэўны чалавек. Я адчуў павагу да яго за яго клопат аб эканамічным стане народа. Ён сапраўды ад душы перажываў за стан спраў на жніве. Мяне гэта зблізіла з ім, ён умацаваў сваім візітам мяне, даў большую ўпэўненасць у правільнасці нашай працы на жніве.

Другі візіт ён рабіў на машыне праездам з невялікімі прыпынкамі ў маім калгасе і іншых калгасах раёна.

Трэцяя сустрэча была ізноў на верталёце каля аўсянага поля ў вёскі Нераж. Было добрае надвор'е. Жыта на ўчастку 200 га., часткова пакладзенае з валкі, астатняе частка палеглая і прыбітая да глебы. Перад гэтым прайшлі навальніцы і літаральна прыбілі жыта да зямлі.

Вось тут і адбылася грунтоўная размова з Машэравым. Акрамя абласных начальнікаў з ім былі Старшыня Савета Міністраў Аксёнаў, Старшыня Вярхоўнага Савета, другі сакратар ЦК і іншае начальства.

Размаўляў Машэраў толькі са мной, падыходзіў да камбайнераў, і ўсё нагінаўся, глядзеў палеглае жыта. Затым падышоў да аўсянага поля, авёс стаяў як сцяна, цэнтнераў 40 з гектара павінна было быць. Затым ізноў да валкоў і палеглага жыта.

Я кажу:

— Шмат азоту, наша зямля не хоча прымаць.

Машэраў пытаецца:

— Што будзеш рабіць?

Я адказваю:

— Адпраўлю азотныя ўгнаенні на паплавы, няхай лепш трава кладзецца, чым хлеб.

Машэраў запытаў, ці пробавалі мы падымаць жыта комплексам*?

Я кажу, што ў нас няма комплексаў.

— Як няма? Чаму такой гаспадарцы не далі комплекс? — І тут жа гаворыць Аксёнаву: — Тэрмінова дайце гэтаму калгасу нямецкі комплекс.

Аксёнаў пачаў казаць мне, каб мы напісалі на яго імя паперу, але Машэраў прыпыніў яго: — Не трэба разводзіць бюракратыю. Дайце сёння ж указанне: вылучыць гэтаму калгасу комплекс з рэзерву.

Што і было зроблена, праўда, гэты комплекс мы атрымалі толькі ў наступным сезоне.

Яшчэ Машэраў гаварыў:

— Ты разбіраешся ў сельскай гаспадарцы больш чым я.

Я адказаў:

— Сельская гаспадарка — такая галіна, што чым больш ведаеш, тым больш адчыняецца новага невядомага і напэўна цалкам пазнаць не хопіць чалавечага жыцця.

Машэраў засмяяўся і сказаў:

— Гэта так.

Уражанне ў мяне склалася пра Пятра Міронавіча Машэрава такое: гэта сапраўдны патрыёт, сын беларускага народа, любімец народа, правадыр і герой. Вельмі просты і

* Самаходная касілка нямецкай вытворчасці.



без гардыні. Народ яго паважаў як сапраўднага правадыра, кіраўніка і важака. І я ўсёй душой і ўсім сэрцам далучаюся да гэтакай народнай адзнакі. Светлая памяць пра яго застанецца надоўга ў цяперашняга пакалення людзей, што ведалі Машэрава.

Калгас не аднойчы наведвалі Ціхан Якаўлевіч Кісялёў і Аксёнаў — гэта былы старшыня Савета Міністраў. Аксёнаў нават аднойчы абняў мяне і пацалаваў. Але з Машэравым яны ні ў якое параўнанне не ідуць. Пётр Міронавіч быў чалавекам асаблівага складу, пухам яму зямля.

## Застой і ўдар па сельскай гаспадарцы

Машэраў наведваў калгас у 1970-я гады. К гэтаму часу калгас ва ўсіх адносінах выглядаў нядрэнна. Ураджайнасць вырасла і валавы збор зерня, бульбы ў 4 разы супраць 1962 года, у 3,5 разы павялічылася вытворчасць жывёлагадоўчай прадукцыі. Было пабудаваны цэлы комплекс зерняскладаў, КЗС-10, КЗС-20, 3 навесы, свірны, АВМ*-2. Былі збудаваны майстэрня па рамонту тэхнікі, дом механізатараў, 2 навесы для тэхнікі, гараж, двухпавярховы дом для механізатараў са сталовай і інтэрнатам. Быў збудаваны свінаводчы комплекс на 6000 галоў свіней, 4 кароўнікі, 3 клюшачнікі для адкорму БРЖ, праведзена асфальтавая дарога ў вёску Нераж 3,5 км. Збудаваны 35 дамоў для калгаснікаў, і звыш 50 дамоў капітальна адрамантавана, зроблена возера каля Неражы. Праведзена рэарганізацыя — замест 7 брыгад, створана 3 участкі. Палі ў севазвароце былі зроблены па 180–250 га, што дазволіла больш эфектыўна выкарыстоўваць тэхніку.

Нягледзячы на тое, што раённае начальства выжымала ўсе жывыя сокі даводзячы да калгаса 1,5–2 планы дзяржпаставак, калгас набіраў тэмпы. Упраўленне сельскай

* Агрэгаты па вырабе вітамінная мукі.

гаспадаркі і яе начальнік Паўловіч усяляк тармазіла калгас, даводзячы звышпланавыя і завышаныя планы. Між тым забеспячэнне было выключна кепскае, насільна давалі тэхніку, якая нікому не была патрэбна, як сіласныя вежы. Быў такі выпадак, калгас сеяў 180–200 га льну. У пачатку года высветлілася, што малатарні ў нас прыйшлі ў поўную нягоднасць і рамонту не падлягалі, ім было па 15–20 гадоў. Я звярнуўся ў сельгастэхніку да дырэктара С. М. Ярошчанкі, які дарэчы лічыўся маім сябрам. Ён праверыў усе заказы і высветліў, што 2 малатарні не атрыманы. Мы адправілі ў Іванава сваю машыну з дакументамі ад СХТ. Я нават выдзеліў 10 мяшкоў адборнай бульбы, яшчэ таго-сяго, каб атрымаць льномалатарні. І праз тыдзень малатарні прывезлі. І вось гэтыя ільномалатарні начальнік упраўлення Паўловіч аддаў у другія калгасы.

Я моцна пакрыўдзіўся. Пайшоў да сакратара райкама, тады быў яшчэ Ціткоў, усё расказаў і ад крыўды заплакаў, але малатарні так і не атрымаў.

Шмат было такіх несуразных і крыўдных выпадкаў. Комплексы будаваліся за кошт калгасаў і мой калгас прымаў вялікі далявы фінансавы ўдзел, дзесьці 1,5 млн рублёў. Забралі лепшыя заліўныя лугі, узамен далі балота. Зернефураж, помню завёз 360 тон і не атрымаў камбікорму, усё пайшло ў залік комплексаў.

Нягледзячы на рост калгаса, асабліва ў 1965–1975 гады, у гэтым дзесяцігоддзі шмат пытанняў не вырашаліся. Наша праграма: кожны год будаваць 10 дамоў, заставалася на паперы. Калгас старэў, моладзь з’язджала, жылля не было. Па аплаце працы мы, па сутнасці тапталіся на месцы, не здолелі яе павялічыць, бо сельгаспрадукцыя была вельмі танная: адзін л малака быў танней адной бутэлькі ліманаду, зерня — 8 капеек за кілаграм, бульбы — 6 капеек, памідораў — 20 капеек, яблыкаў — 10 капеек.

Вялікія адлічэнні сродкаў ішло на будаўніцтва і тэхніку, а таксама на некалгасныя расходы, будаўніцтва комплексаў. А такія арганізацыі, як «Сельгастэхніка», МСО, ПМК, Райсельгасхімія і іншыя як п’яўкі на жывым арганізме выцягваюць кроў, так і яны высмоктвалі нашы рэсурсы. Дастаткова сказаць, што каб прыгнаць куплены намі трактар, за дастаўку на адлегласці 3 км СХТ брала 1,5 тысячы рублёў.

Апошнія 10 год калгасы рабавалі ўсе каму не лянота, мноства ўсялякіх грамадскіх аб’яднанняў. Акрамя таго, масавыя п’янкі до і пасля працы і на самой рабоце. Начальства едзе кожны дзень, усе даюць «*ценные указания*» і рэдка калі абыходзілася без гарэлкі, ды і на дарогу яшчэ трэба даць. Урэшце пілі начальства і радавыя падначаленыя, міліцыя і трактарысты, старшыні і аграномы.

І яшчэ шматлікія жалабы на мяне, надуманыя, кляўзныя, як быццам спланаваныя, адна за другой. Тусоўка чалавек 5 калгаснікаў, то адзін піша, то другі, і праверкі то з вобласці, то з раёна, усё гэта нішчыла нервы. І асабліва, калі раённыя кіраўнікі пачыналі на мяне нападаць, то да іх зразу далучаліся свае калгасныя кляўзнікі. Асабліва гэта было пры сакратары райкама Д. Г. Комары.

Прапрацаваў я 20 год у калгасе «Рэвалюцыя»*. Шмат у мой перыяд было зроблена добрых спраў, а на душы цяжка, і не ляжыць сэрца да калгаса, вельмі ён мяне патрапаў.

Зараз, калі ўжо пражыта жыццё, усё яскравей успамінаюцца калгасы ў Заходняй Беларусі. Там людзі адносіліся чалавечней, з павагай, а тут грубасць. І калі я пайшоў з калгаса, асноўная маса калгаснікаў добра мяне ўспамінала, але была частка, якая імкнулася ўшчыкнуць.

І яшчэ, у чым справа, чаму апошнія гады, асабліва сямідзесятыя, калгас пачаў павольна развівацца? Калгас складаў штогод прамфінплан на наступны год з свайго пункта гледжання, што і як неабходна зрабіць у наступным годзе. Але кантрольныя лічбы даводзіліся зверху. І ўрэшце прамфінплан перараблялі па свайму гледжанню упраўленне сельскай гаспадаркі, вечныя скандалы, спрэч-

* Падчас перабудовы калгас «Рэвалюцыя» перайменаваны ў селгаспрадпрыемства імя Валадарскага.

кі, перажыванні і ўрэшце прымалі тое, што скамандавалі зверху, інакш банк прыпыняў выдачу грошай.

Вялізны ўдар быў зроблены па вытворчасці сельгаспрадукцыі яшчэ і тым, што ў 1970-я гады калгасы былі пераведзеныя на грашовую аплату, працадні былі адмененыя. Такім чынам, калгаснікі пачалі штомесяц атрымліваць грошы, якія прапіваліся, а гадаванне ў асабістай гаспадаркі жывёл, свіней рэзка скарацілася, бо натурай ужо калгаснікі амаль нічога не атрымлівалі. Праўда ў канцы года выдавалі ў межах 400 кг зерня за грошы, але на гэтым можна было выгадаваць аднаго парсюка, максімум двух. Акрамя таго, пачаўся пераслед тых людзей, што вырошчвалі свіней і здавалі на мясапрыёмныя пункты. Народны кантроль старана вышукваў і выклікаў выканкамы і бюро, там давалі пакаранне — здымалі з працы, штрафавалі і г. д. Я змагаўся дзесьці тры гады, налічаў зарплату калгаснікам замест працадзён рублямі, потым на гэтыя рублі ў канцы года даваў зерня. Але і мяне ўрэшце зламалі і я вымушаны быў прыпыніць гэтую дзейнасць і рэзка абмежаваць выдачу зерня калгаснікам. Прыйшлося хітрыць, выдаваць у выглядзе даплаты за лён, за буракі, за зерня, бульбы. Але гэта ўжо было не тое. Штогадовая выдача на працадні зерня значна паменшылася і ў выніку зменшылася вытворчасць жывёлагадоўчай прадукцыі ад насельніцтва. Людзі перасталі гадаваць і здаваць свіней, а шмат хто нават перастаў засяваць гароды.

У 1950-я гады, калі прыйшоў да ўлады Хрушчоў, і таксама і да гэтага, апрацоўвалі ў калгасах зямлю, аралі, сеялі, малацілі МТС, а калгасы за гэта выплачвалі натурплатай зерням. У тыя гады калгасы здавалі дзяржаве дзяржпастаўкі, зерня і аплачвалі натурплату МТС. А калгаснікам заставалася амаль нічога, шмат хто з калгасаў нават насення не меў.

Затым Хрушчоў выдаў указ: прадаваць па жаданню калгасам тэхніку: трактары, камбайны. Выдавалі пазыкі і тэхніку калгасы куплялі ў крэдыт. Гэта быў бурны рост калгаснай вытворчасці.



У 1970-х гадах, нягледзячы на тое, што калгасы за свае кроўныя к гэтаму часу накупілі шмат тэхнікі, так у калгасе «Рэвалюцыя» ужо было дзесьці 40 трактароў розных марак і прычапныя механізмы, майстэрня з станкамі і іншымі машынамі. Усё гэта было перададзена ў СХТ, пачало называцца мехцэхам, які цалкам падпарадкоўваўся СХТ. І ўсе механізатары і службы перайшлі ў падпарадкаванне СХТ. Такім чынам, калгас не мог кіраваць тэхнікай як было патрэбна. Акрамя таго калгас пералічаў за паслугі СХТ вялікія грошы. Гэта быў грабеж сярод белага дня. Сабекошт аднаго гектара ўзаранай глебы калгасу стаў абыходзіцца ў 8–9 рублёў, тады як да гэтага бандыцкага мерапрыемства ў калгасе адзін гектар узаранай зямлі каштаваў каля 3 рублёў. Вось гэта і было рабаўніцтвам века!

Толькі дзякуючы таму, што ў мяне быў разумны галоўны інжынер Палавікоў, як кіраваў мехцэхам, крыху зменшыла ўдар да поўнага развалу эканомікі калгаса.

Акрамя таго, кіраўніцтва пайшло далей. Пачало інтэнсіўна ўкараняць канцэнтрацыю вытворчасці, спецыялізацыю. Што гэта такое? Гэта калі адзін калгас садзіць бульбу, другі сее зерневыя, трэці — лён. Адны адкормліваюць бычкоў, другія вырошчваюць цялятак, трэція дойны статак, чацвёртыя свіней. Гэта нанесла яшчэ большы ўдар па сельскай гаспадарцы.

Даходзіла справа да абсурду. Збіралі цялушак з усяго раёна і перадавалі на комплекс. Называлі іх племяннымі, якія потым 30% падыхалі ад бяскорміцы. Каб сабраць велізарныя плошчы бульбы зганялі з усяго раёна камбайны, капалі, ды частка так і заставалася на зіму. Велізарныя плошчы зерневых гаспадаркі таксама не паспявалі сваімі сіламі ўбраць. Тады зганялі камбайны з усяго раёна і часта не паспявалі зжаць і пакідалі на зіму.

Неяк аднойчы ў гэты змрочны час мне патэлефанаваў галоўны землямер вобласці, разумны, прыстойны чалавек і кажа.

— Я замацаваны за 3 саўгасамі вашага раёна і знаходжуся там амаль месяц. Вельмі прашу даць мне магчы-

масць пабываць у тваім калгасе адзін дзень. Я не буду табе перашкаджаць, нават абедаць не пайду, але буду з табой побач. Калі ласка, зрабі міласць.

Я згадзіўся. Ён прыехаў і мы з ім цэлы дзень ездзілі па калгасу, праўда паабедалі, але без гарэлкі з механізатарамі ў поле. Увечары ён развітаўся са мной, паціснуў руку і гаворыць:

— Мне стала страшна ад саўгасных спраў, дзе я знаходжуся ўпаўнаважаным вось ужо месяц. Я чуў пра твой калгас і хацеў асабіста пераканацца, і задаволены — здаецца яшчэ не ўсё страчана, жыццё працягваецца. Вялікі дзякуй табе за твае справы! Такія як ты яшчэ трымаюць жыццё на гэтай зямлі!

Акрамя таго наверсе прыдумалі нарыхтоўку галінкавага корму, як найкаштоўнейшага мерапрыемства партыі і ўрада*. Што гэта значыць? Гэта сякуць у лесе елкі і ўсё што трапляе пад руку з драбналессе. Гэтыя работы ў асноўным выконвалі раённыя арганізацыі і вазілі на сваіх машынах на перапрацоўку галінкавы корм, дзе яго малолі на АВМ 0,4. Такія агрэгаты былі два ў калгасе. Прысылалі з гарадоў, з заводаў рабочую сілу, куды ўваходзілі інжынеры з вышэйшай адукацыяй, высокакваліфікаваныя рабочыя, токары і слесары. І вось узброеныя сякерамі і нажамі, бралі машыны і ехалі ў лес нарыхтоўваць галінкі.

Аднойчы быў такі выпадак. Прыехалі ў мой калгас 30 чалавек з Бабруйска з гуматэхнікі. Працоўны калектыў узначальваў інжынер, прытым вельмі талковы. І вось ён пытаецца, што заўтра будзем рабіць? Я гавару, што ўсе на сена, 8 чалавек загружаюць цюкі на машыны, 12 чалавек разгружаюць, а жанчынам граблі ў рукі і зачысціць на сенажаці астаткі ад цюкоў. І вось так яны працавалі тыдзень, другі. Дарэчы надвор'е стаяла сонечнае, набілі цюкамі вышкі, сена выдатнае. І вось жа прыехала кіраўніцтва з вобласці і з раёна і на вышкі. Гэта былі другі сакратар

---

* Як раз у той год была моцная засуха на поўдні рэспублікі. ЦК прыняла рашэнне выкарыстаць усе рэзервы і захаваць пагалоўе БРЖ.



абкама Кулагін і першы сакратар нашага райкама. Пагаварылі з камандзіраванымі рабочымі, адкуль, хто яны. І потым кажуць: «Чаму вы займаецеся не тым, чым павіны?» Рабочыя на дыбы: «Старшыня правільна робіць, што сена нарыхтоўвае». Карацей, калі я пад'ехаў, там ўжо была сутычка. Рабочыя гавораць: «Цяпер нам зразумела, чаму няма мяса ў горадзе. Вось такое начальства перашкаджае працаваць…»

Я павітаўся, а кіраўнікі накінуліся на мяне. Я павёз іх на завод АВМ, дзе перапрацоўвалі галінкі, але справа была пад вечар і галінкі ўжо ўсе перапрацавалі і на заводзе іх не было. І вось мне сакратар абкама Кулагін гаворыць: «Калі ты не будзеш нарыхтоўваць галінкі, мы заўтра ж выключым цябе з партыі, здымем з работы і пасадзім! А праз тыдзень ты памрэш!»

Але назаўтра патэлефанаваў сакратар райкама Ціткоў* і інфармаваў, што прыйшло ўказанне Машэрава** аб тым, што загатоўка кармоў і галінак, і выкарыстанне прысланых рабочых з горада рабіць выключна па ўказанню старшынь калгасаў. Так яшчэ раз бяда праляцела побач.

Шмат было за перыяд маёй працы розных кур'ёзаў. Галоўнае маё разыходжанне і непаразуменне было з кіраўніцтвам. Я ўсё думаў і не мог зразумець, чаму кіраўніцтва мясцовае і частка абласнога не могуць мяне зразумець, вечна прыдзіраюцца, даюць неразумныя загады на шкоду справы. Я ўсё імкнуўся рабіць, як лепш, знаходзіўся з народам, людзі мяне падтрымлівалі, хацелася болей і лепш рабіць. А прыедуць начальнікі, адаб'юць ад работы,

---

* «Вясной другі сакратар абкама Кулагін разам з Цітковым праязджалі па вул. Дорахава ў Быхаве, а насустрач ім на фермы калгаса ехалі гружаныя сенам і сенажом трактары з прычэпамі. Вясной у калгасах ужо было мала кармоў. І сакратар абкама Кулагін сказаў Ціткову: «Ты гэтага старшыню калгаса падтрымай». Аб гэтым потым мне казаў сам Ціткоў» (з вусных успамін аўтара).

** Ціткоў быў раней інструктарам ЦК і працаваў разам з Машэравым. Магчыма Ціткоў і даў сігнал у ЦК аб узніклым прынцыповым гаспадарчым канфлікце.

некалькі дзён перажываеш і не хочацца брацца за працу, кінуў бы ўсё і пайшоў з калгаса. Я неаднойчы пісаў заявы, каб мяне вызвалілі, але не, усё ўгаворвалі, а зволіць не хацелі.

У 1981 годзе, дзесьці ў мае я паехаў у санаторый у Кіславодск, там добра адпачнуў. З'явіўся дадому і націснуў на работу, ішла загатоўка сена, падыходзіў час да жніва зерневых, стаяла гарачае надвор'е. Гэта было ў суботу. Я да абеду быў на лузе. Затрымаўся да 2-х гадзін дня. Кажу шафёру, што трэба было б падскочыць яшчэ на адну дзялку лугу. А ён кажа: — Паедзем ужо дадому абедаць, ды і баньку прапалім. Я яго паслухаў і паехаў дадому. Запаліў баню. Абяцалі прыехаць Ларыса з Васем і дзецьмі. Яны тады жылі ў Хоцімску. Баньку я прыгатаваў. Зрабіў дух і думаю памыюся. Гэта была мая вялікая памылка, што чуць на каштавала мне жыцця. Я перанапружыў арганізм да апошняй мяжы. Пасля лазні зайшоў у дом, з'еў жменьку ягад чорнай парэчкі і ўсё — інфаркт. Не помню, як давялі мяне да ложку, хуткая давезла да бальніцы чуць жывога. Затым назаўтра паўторна, карацей чуць выжыў. Праляжаў у бальніцы да позняй восені, затым Лётцы, затым дом родны. І нарэшце прыйшоў 1982 год, красавік. Я пакінуў калгас і вызваліўся назаўсёды ад гэтай цяжкай пакутлівай і няўдзячнай работы старшыні калгаса.

## Эпілог

Канечне можна было шмат і больш напісаць пра сваё жыццё- быццё, пра ўсе жыццёвыя цяжкасці, поспехі і паразы, узлёты і падзенні. Але ў мяне няма на гэта прыродных здольнасцей і навыкаў. Я не прэтэндую і не маю ніякага разліку на грамадскаю публікацыю, у такім выглядзе гэта немагчыма, а мастацкую апрацоўку напэўна ніхто з дарагіх унукаў не здолее зрабіць, можа толькі Віталюшка.



Я гэта ўсё напісаў толькі для маіх блізкіх і дарагіх дзяцей і ўнукаў. Я вельмі шкадую, чаму я не ведаю нічога пра жыццё сваіх дзядуляў, пра нябожчыкаў Маргела і Яфіма. А бабуль нават не ведаю як іх імя. Гэта недаравальна. Я ў гэтым амаль не вінаваты, бо ніхто мне проста ніколі нічога не расказваў, а ў жывых я бабуль ужо нікога не ўбачыў.

І апошняе, што я хацеў напісаць — гэта пра сваю любімую сям'ю. У папярэдніх эпізодах пра сваё жыццё я большую і асноўную частку пісаў пра грамадскае жыццё, а асабістая апісана толькі часткова. Як жа на самай справе складвалася наша сямейнае жыццё.

Зышліся мы з Аннушкай па вялікай любові. Яна без мяне не магла быць, а я без яе. Я ўжо казаў, як склалася грамадскае пасляваеннае жыццё. Недахопы, голад і холад, суровыя пасляваенныя гады. Не ўсё гладка было у нас ва ўзаемаадносінах, былі і спрэчкі і скандалы. Аннушкін імклівы і гарачы характар, былі хвіліны, што ледзь стрымлівалі наша сумеснае жыццё. Але толькі Аннушкіна адыходлівасць ратавала наша сумеснае жыццё. Я ж без яе не ўяўляў далейшага жыцця. Вельмі ў цяжкіх, можна сказаць жахлівых умовах жыцця мы жылі, калі з'явіўся на свет наш першынец сын Яўгеній.

Затым, калі нарадзілася Ларыска, жыццё пацяплела і матэрыяльна і маральна. Потым нарадзілася наша дарагая Сашанька і трэба ж у яе прыроджаны вывіх. Гэта за нашы грахі, за нашы промахі ў маладосці. Усю ўвагу, што ад нас залежала, мы рабілі, каб аблегчыць яе лёс, але не ўсё ўдавалася так, як хацелася.

Бяда за бядой ішлі і прыйшлі да Чарнобыля, «перабудовы» і разбурэння краіны.

Я сваіх дзяцей любіў і люблю вельмі моцна, люблю сваіх дарагіх унукаў і ўнучак. Усё жыццё пранёс я любоў да нашай бабулі Аннушкі, нягледзячы на яе гарачы характар. І сёння, калі ўжо на старасці гадоў яна ідзе з дому і не вяртаецца больш гадзіны, мне робіцца не па сабе. Я любіў і люблю зяцёў і нявестку. Асабліва, Васіля Антонавіча,

які шмат зрабіў намаганняў да майго выратавання пры інфаркце і да і пасля гэтага.

Я прашу прабачэння ў маёй дарагой Аннушкі за ўсе крыўды, знявагі, якія былі ў нас у жыцці. Я гэтага не хацеў і не жадаў, яны былі супраць маёй волі. Гэта не значыць, што змяншае маю віну, наадварот не дае ніякага апраўдання і я гэта разумею і прашу дараваць мне, няхай толькі светлае застанецца ў нас ад пражытага жыцця.

Зараз надышла цяжкая і адказная жыццё, так называная «перабудова». І я задаю сабе два пытанні і хачу, каб адказ ведалі мае дарагія ўнукі.

Як ты, адпрацаваўшы 30 год старшынёй калгаса, пры тым увесь час перадавым старшынёй, увесь час знаходзіўся сярод камуністычнай вярхушкі, узнагароджаны 5 ардэнамі, у тым ліку ордэнам Леніна, 12 медалямі, двума граматамі Вярхоўнага Савета БССР. Як ты не крывячы душой, не прыстасоўваючыся да перабудовы, адносіўся ў душы і адносішся да калгасаў, да жыцця людзей у калгасах і да сябе, адпрацаваўшы ў партыі 47 гадоў?

Канечне, мне хлапчуку, калі б не савецкая ўлада наўрад ці ўдалося выбіцца на такі ўзровень спраў, якія я пражыў. Хутчэй усяго, жыў бы я на хутары, працягваў бы сялянскую працу бацькі.

Працуючы старшынёй калгаса ў мяне паклаўшы руку на сэрца быў час, калі я верыў фанатыкам, як і ўсе, асабліва гэта вера ўмацавалася ў перыяд Хрушчова. Мне падабалася, калі мяне запрашалі ў прэзідыум, і давалі слова трэцім выступоўцам і калі апладзіравалі ў зале. Мне падабалася грамадскае прызнанне маіх дасягненняў у працы.

Разам з тым мне ніколі не падабалася, калі замест мяне камандавалі ў калгасе, я гэтага не цярпеў. Мне не падабалася, калі забіралі з калгаса столькі, што я не мог выдаць калгаснікам усё, што яны зарабілі. Мне не падабалася і я гэтага не цярпеў, калі ў мяне ў калгасе кіравалі ад мяне і майго імені. Я адчуваў вялікія супярэчнасці між калгаснікамі і кіраўніцтвам і імкнуўся звесці да мінімуму гэтыя супярэчнасці, але не заўсёды гэта ўдавалася.



Як было гэта яшчэ ў калгасе Кутузава, дзе мы прынялі гаспадарчы разлік і мне здалося, што вось цяпер справядлівасць перамагла. Падзяліўся сваімі развагамі з разумным брыгадзірам Васілеўскім.

Ён зазначыў:

— Гэта яшчэ не ўсё. Напрыклад, у мяне і маёй жонкі было зямлі больш, чым у Лукашэвіча. Дзяцей у мяне двое, а ў Лукашэвіча — шасцёра. Зараз на маёй зямлі Лукашэвіч зарабляе хлеба больш, чым я. Ці гэта справядліва? Падругое, мы ідзём на працу і гультай і працавіты, разам працуем і атрымліваем аднолькава на працадзень. Гэта таксама несправядліва!

З супярэчнасцямі я таксама не здолеў справіцца, бо дзяржаўная сістэма якраз усё раўняла.

Галоўныя недахопы калгасаў:

1. Па сутнасці калгасы, калгаснікі і іх старшыня не з'яўляліся гаспадарамі сваіх гаспадарак, яны былі толькі выканаўцамі. Гаспадары — дзяржава, райком, абкам і вышэй да самай Масквы. Яны плануюць з дапамогай усялякіх упраўленняў, што, калі і як сеяць, збіраць, колькі і калі павіны аддаць дзяржаве, яны ставяць і здымаюць людзей старшынямі і дырэктарамі, яны ўсё робяць, мы толькі слухаем і выконваем. І калі хто не слухаецца, то такіх, як тую бульбу, «калі за зіму не з'ядуць, то вясной абавязкова пасадзяць.»

2. Крадзеж малага і вялікага: зерня, бульбы, кармоў, канцэнтратаў, саломы, гародніны, запчастак, паліва, будаўнічых матэрыялаў. Усе і ўсё, што толькі ёсць у калгасе. Грошы крадуць — культурна прыпісваюць аб'ёмы выкананых работ і сама каса выдае. Ужо наколькі я не змагаўся з гэтым злом, але зжыць гэта было немагчыма, бо яно створана самім калгасам.

3. Захаванне ўзрошчанай і зробленай прадукцыі, вялікія страты пры захаванні бульбы, кармоў, зерня, падзеж БРЖ, цялят, свіней. Дзякуючы безгаспадарчым адносінам да працы, усё гэтае зло прыводзіла да вялікіх страт кармоў,

хлеба, гародніны, запчастак. Гаручае разлівалі, запчасткі ад нясвоечасовага догляду ламаліся.

4. Раённыя арганізацыі, якія былі створаны каб памагаць калгасам, такія як райсельгастэхніка, райсельгасхімія, райветлякарня, МСО, ПМК і іншыя «рай» з раздутымі штатамі штогод забіралі ў калгасаў незаробленыя грошы пад рознымі прычынамі, заахвочаныя райкамам і абкамам. То непатрэбную тэхніку спіхнуць, то пабудуюць тое, што калгасу непатрэбна.

5. Экалогія, асабліва канца 1970–1980-х гадоў. Гэта страшная, жахлівая становішча. З ферм плыве жыжа ў рэчкі, адтуль у Днепр. Мінеральныя ўгнаенні ўносяцца ў зямлю звыш усялякіх норм, вапнаванне глебы, хімапрацоўка, комплексы. Ішло знішчэнне ўсяго жывога і гэта гадамі і ніякі кіраўнік з гэтым нічога не мог зрабіць, бо яго проста не паслухае ўлада, па загадам якой з года ў год адбываліся злачынствa супраць прыроды. Да калгасаў яшчэ далучыліся гарады, хімкабінаты, і атрымалася, што ў Дняпры ўжо ніхто не купаўся, ваду п'ём з адходамі, салярка плюс радыяцыя, вось і дагуляліся, што дыхаць няма чым, кіслароду няма.

6. Сама праца, выкарыстанне працоўнага часу. Планёрка ў 6 гадзін да 7, з 7 да 8 планёрка ў вытворчых брыгадах і ўчастках. Працу пачыналі ў 9 гадзін, іншы раз ў 10 гадзін. Затым абед з 13 да 14, а ў 17 гадзін ужо дадому. А карты, а размовы і балбатня на рабоце, у выніку атрымліваўся 5–6 гадзін карыснай работы, на фермах крыху больш, але не болей 7 гадзін. Вось такая прадукцыйнасць працы.

Акрамя таго вечныя спрэчкі між сабой, *лаянка кіраўніцтва** на чым свет стаіць.

Вось такі букет адмоўных дзеянняў, пры тым пастаянны і паўсюдны. Гэты «букет» рабіў велізарную шкоду эканоміцы і ніколі не будзе прыносіць карысці ніякаму

* Радзімка сацыялістычнага грамадства, кепская звычка, што зрабілася рысай характару людзей, якія часта ўласныя хібы перакладвалі на кіраўнікоў.



грамадству. Добра ў калгасе толькі гультаю, тут можна спаць, колькі хочаш, ды і есці ў грамадскай сталовай пры сучасным уліку таксама ўволю. Нармальнаму ж чалавеку духоўнага задавальнення ад грамадскай працы ў калгасе абсалютна няма, няма і радасці, у выніку нават нармальныя людзі далучаюцца да п'янкі, што ў сваю чаргу прыводзіць да сямейных скандалаў і іншых негатыўных з'яў.

Вось у цэлым, што я мог, вызначыць і назіраць за такі доўгі перыяд працы ў калгасе. Я канечне, і ў гэтым мая галоўная ўдача, усяляк імкнуўся змякчыць удар «букета» на калгаснай вытворчасці *шляхам умацавання саюза між кіраўніцтвам калгаса і калгаснікамі*, таксама такімі мерамі, як павелічэння аплаты працы, дадатковай аплаты за розныя работы, праца пад дэвізам *«Ніколі не аддаваць пад суд і не садзіць у турму, усе пакаранні рабіць уласнымі сіламі»*. Гэта, напэўна галоўнае дасягненне, што я мог зрабіць у сваёй практычнай рабоце. Усе гэтыя мерапрыемства садзейнічалі таму, што мае калгасы, усе тры, дзе я працаваў, былі перадавыя і калгаснікі атрымлівалі больш, чым у іншых гаспадарках.

Вось гэта мае высновы аб калгасным ладзе яшчэ раз пацвярджаюць тое, што калі грамадства, народ жадае палепшыць сваё эканамічнае, маральнае і бытавыя справы, калі жадае дыхаць свежым паветрам, піць чыстую ваду, есці здаровую ежу, быць задаволеным сваёй працай — гэта ўласная, асабістая праца для сябе, для сваёй сям'і, гэта праца стваральная.

Чалавек не будзе красці ў сябе, не будзе марнаваць гаручае, мінеральныя ўгнаенні, псаваць тэхніку, не будзе піць у працоўны час і не будзе лаяць начальства і лаяцца з суседам, некалі будзе яму марнаваць свой час і ўвагу на адмоўнае.

І апошняе:

Як я мог пайсці на гэтую пасаду, калі мае бацька, маці, сястра і двое братоў памерлі раней адпушчанага ім часу, па сутнасці калгасны строй іх загнаў у магілу?!

Да таго часу, калі мяне паслалі ў калгас, я ўжо прайшоў вайну, блакаду Ленінграда, фронт, раненне, інваліднасць. Я добра ведаў сістэму, я ўжо паспеў атрымаць ад яе ўсе «прелести». Не пайсці ў калгас — значыць ізноў паставіць сябе і сваю сям'ю пад удар, я ўжо казаў, што не такіх як я, а больш моцных і адукаваных мужыкоў, пры тым маючых сяброўскія сувязі з кіраўнікамі абласнога ўзроўню, і тых паздымалі з працы і выключылі з партыі, як напрыклад дырэктара дзетдома Кезля, дырэктара нарыхтльна Гарбунова.

Я не пайшоў па іхняму шляху, і рушыў у калгас без супраціву. Затым, пасля некаторага часу, надышоў адчай, і толькі потым саспела, я лічу правільнае думка: дзейнічаць, працаваць так, каб суседзі зайздросцілі, і пры тым памагаць чэсным людзям жыць, ды і ратаваць ад турмы людзей, што і зрабілася для мяне законам майго жыцця на працягу ўсёй маёй работы.

Гэта напэўна галоўнае, што я мог зрабіць. Багацця я не нажыў, хаця і мог. Але тады я не быў бы перадавым і далучыў бы людзей сваімі дзеяннямі да крадзяжу, і ўжо не здолеў ратаваць людзей ад турмы, ды і сам мог трапіць у турму. А я ўжо застаўся адзін з бацькоўскай сям'і. Вось мне здаецца гэта сур'ёзнае апраўданне перад маім сумленнем. А можа і баязлівасць — баяўся красці, баяўся турмы і гэта цалкам магчыма.

Канечне, я мог і павінен быў з'ездзіць да жонкі брата Афанасія, даведацца і пабываць на яго магіле. Я гэтага не зрабіў, усё некалі было, усё адкладваў. Павінен быў знайсці ў Барысаве ці хоць зрабіць спробу знайсці магілу сястры Анастасіі. Пры тым быў у Барысаве, ездзіў да сына Яўгена, што праходзіў там вайсковую службу. Але на могілкі не заехаў, хаця і падумаў што дзесьці тут магілка маёй сястры Анастасіі. Праўда малодшаму брату, ужо будучы хворым, з дапамогай дочкі майго былога брыгадзіра Уладзіміра Мамчыца, якая працавала ў райкаме, паставіў помнік.

Мог канечне, паставіць помнік і часцей бываць на могілках маіх дарагіх бацькоў: маці Варвары Маргелаўны і бацькі Пятра Яфімавіча, але гэта не зрабіў і ўжо не зраблю.



Няхай даруюць мяне грэшнага. Царства ім нябеснае, маім дарагім бацьку Пятру Яфімавічу і маці Варвары Маргелаўне, сястры Анастасіі і братам Афанасію і Міхаілу. У душы і ў сэрцы я ўсё жыццё пранёс да іх любоў і светлую памяць, а за тое, што награшыў у сваім жыцці, няхай даруюць.

*1997, Магілёў*

## ЗМЕСТ

